23 верасня 2016 | № 36 (501)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Служу Еўрапейскаму саюзу! Стар. 19












# Куды спяшаюцца ўлады?

## Нешта неверагоднае — краіна ўжо мае варыянты бюджэту на наступны год



Сяргей ПУЛЬША

Дзяржаўныя СМІ паведамляюць, што Лукашэнка даручыў дэпутатам падысці прынцыпова да разгляду законапраекта аб рэспубліканскім бюджэце на 2017 год.

Такую задачу кіраўнік дзяржавы публічна паставіў 19 верасня на рабочай сустрэчы са старшынёй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Уладзімірам Андрэйчанкам.

Хоць Андрэйчанка зноў пераабраны ў Палату прадстаўнікоў, але ці будзе ён кіраўніком ПП шостага склікання — пытанечка. Значыць, выходзячы з логікі падзеяў, прымаць бюджэт будзе тая Палата прадстаўнікоў, паўнамоцтвы якой скончацца менш чым праз месяц?

Для сур'ёзнага разгляду грунтоўнага фінансавага дакумента, які зазвычай складае два таўшчэзныя тамы, у дэпутатаў пятага склікання ўжо проста не застаецца часу. Дзясятая сесія Палаты прадстаўнікоў №5 адкрываецца 3 кастрычніка. А ўжо на 11 кастрычніка прызначана першая сесія Палаты прадстаўнікоў №6. За пяць працоўных дзён дэпутаты нават уважліва пачытаць бюджэт не паспеюць, не тое што «прынцыпова падысці» да яго прыняцця.

Улады ўжо неаднаразова спяшаліся з зацвярджэннем такіх дакументаў. Напрыклад, у мінулым годзе цяперашні бюджэт быў разгледжаны літаральна за суткі. Дакумент паступіў у парламент увечары 16 снежня. А 17 снежня яго прынялі ў першым чытанні, 18-га — у другім і апошнім.

Да чаго гэта прывяло? Да вялікага рогату. Напрыклад, сярэдні курс долара на 2016 год быў запланаваны ў памеры 18 700 недэнамінаваных беларускіх рублёў, у той час як у любым абменніку паблізу Дома Урада ён перавышаў 20 000. Кошт нафты закладаўся ў памеры 50 долараў за барэль, калі ў той жа момант кошт барэля быў ніжэй за 40 долараў. Не дзіва, што быў закладзены і рост ВУП Беларусі ў памеры 0,3%. А зараз ён — мінус 3%.

У выніку выканання лозунгу «Бюджэт — да Новага года», секвеставаць яго давялося ўжо праз месяц. А летам — удакладняць другі раз.

На ўсё гэта марнуюцца час і грошы падаткаплатнікаў. То бок, нашы з вамі.

Пра бюджэт 2017 года пакуль вядома, што ёсць два яго варыянты: пазітыўны і негатыўны. Гледзячы па рыторыцы афіцыйных асоб, дэпутатам будзе прапанаваны на разгляд «песімістычны» сцэнар. Нагадаем, што ў гэтым сцэнары закладзены кошт нафты з разліку 35 долараў за барэль, курс расійскага рубля ў 75 «драўляных» за долар, зніжэнне ВУП Расіі на 1%, сярэднегадавы курс долара ў 2,21 беларускага рубля. Праўда, гледзячы па ўсім, урад імкнецца ўратаваць беларускую капейку: інфляцыю плануецца давесці да адназначнага паказчыка ў 9%, а рост заробкаў абмежаваць узроўнем інфляцыі, то бок тымі ж 9%.

Дарэчы, наконт інфляцыі. Гэта, бадай, адзінае, што пакуль утрымліваецца з першапачатковага бюджэту — 2016. Сёлета гадавая інфляцыя ад пачатку планавалася на ўзроўні 12%. На пачатак жніўня яна склала 7,6%. А ў апошні месяц лета здарылася нават неверагоднае: упершыню з 2009 года ў краіне была зафіксаваная дэфляцыя — цэны знізіліся на 0,1%.

Таму з упэўненасцю можна сказаць толькі адно: гэты год яшчэ можа прынесці нам шмат сюрпрызаў — часу дастаткова. І ёсць шмат «ці», якія яшчэ не вызначаныя ў гэтым годзе. Ці дамовімся мы з «Газпрамам» на новыя кошты на газ? Ці скароціць нам Расія пастаўкі нафты, як плануе? Ці ўтрымаецца інфляцыя? І гэтак далей. Дык чаму ўлады так спяшаюцца з прыняццем бюджэту?




**З такімі паказчыкамі мы не выйдзем на рост ВУП**

Эканаміст Барыс Жаліба лічыць, што гэта ўпісваецца ў логіку не эканамічнага, а адміністрацыйна-бюракратычнага працэсу. «Спяшацца сапраўды няма куды. Але, наколькі я памятаю, заўсёды бюджэт прымае стары склад ПП. Стары парламент — надзейны і правераны, бюджэт прымаецца без спрэчак і дыскусій. Што, дарэчы, нехарактэрна для парламентаў дэмакратычных краін і нават Расіі», — адзначае ён.

Што ж тычыцца «песімістычнасці» сённяшняга праекту фінансавага дакумента, то тут, як кажа Жаліба, яго распрацоўшчыкі вырашылі: лепш перастрахавацца, чым недагледзець. «Залішне песімістычны сцэнар нам нічым не пагражае. Хай лепш будзе так, а на практыцы мы зробім нешта лепшае: збярэм больш даходаў, зменшым дэфіцыт і гэтак далей. Пытанне ў іншым. Прымаючы песімістычны варыянт, урад зноў увайшоў у супярэчнасць з самім сабою. З коштам на нафту ў 35 долараў, 75 расійскіх рублёў за долар урад разлічвае на рост ВУП 0,2%. Ды з такімі паказчыкамі нафты і расійскага рубля мы па вызначэнні не выйдзем на рост ВУП!» — кажа эканаміст.

«Так што не трэба ўпадаць у крайнасці», — зазначае эксперт. Больш рэальныя паказчыкі, на яго думку, ужо вызначыліся: нафта ўсталявалася ў «калідоры» 45–50 долараў за барэль, а расійскі рубель не ўпадзе ніжэй за 70 за долар. «Але хай лепей урад будзе песімістам. Бачна, ён ужо вывучыў урокі, калі заўсёды былі вясёлкавыя планы, а жыццё дыктавала сваё, і планавікоў абвінавачвалі ў тым, што яны кепскія аналітыкі. Так што лепш песімістычны бюджэт, чым залішне аптымістычны», — лічыць адмысловец.

# Нацыянальныя асаблівасці палітвязняў

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Вязень сумлення Андрэй Бандарэнка, які знаходзіцца ў Магілёўскай турме №4, выказаў сваю пазіцыю адносна тэрміну «палітвязень», і звяртае ўвагу на нацыянальныя асаблівасці гэтага паняцця.**

Улісце ад 12 верасня ён выказвае думку, што «асноўным адрозненнем (ад іншых краін) у нас з'яўляецца ўтойванне сапраўдных прычын крымінальнага пераследу праваабаронцаў і іншых грамадскіх актывістаў». Ён наракае на той факт, што праваабарончыя арганізацыі не заўсёды імкнуцца даведацца ісціну па канкрэтнай справе і часам зыходзяць з фармальных абвінавачванняў або рашэнняў суда.

У пацвярджэнне Бандарэнка спасылаецца не толькі на свой «прыклад» з загадзя неабгрунтаваным абвінавачваннем у хуліганстве, але і на крымінальны пераслед прадпрымальніка з Ваўкавыска Мікалая Аўтуховіча, якога першапачаткова абвінавацілі ў падрыхтоўцы тэрарыстычнага акту з гранатамётам, а потым, калі гэта абвінавачванне развалілася, у незаконным захоўванні патронаў. У свой час статус абвінавачанага атрымаў і кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі па факце ўхілення ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры.

Андрэй Бандарэнка задаецца пытаннем: як разглядзець за фактамі, што фармальна падпадаюць пад прыкметы звычайных крымінальных злачынстваў, палітычны складнік? І сам адказвае: у кожным канкрэтным выпадку трэба разбірацца ва ўсіх абставінах. Пры гэтым важна ўсталяваць сапраўдныя прычыны пераследу грамадзяніна, улічыць яго папярэднюю дзейнасць, наяўнасць канфліктаў з уладнымі структурамі. Ён лічыць неабходным прыцягнуць да вырашэння гэтага пытання шырокае кола праваабаронцаў, не дапушчаючы манапалізацыі права на прыняцце рашэння нейкай адной арганізацыяй. У гэтай сувязі ён вітае ініцыятыву Паўла Севярынца па стварэнні шырокага форуму пад назвай «Свабоду палітвязням!».

Яшчэ Бандарэнка дзякуе рэдакцыі газеты «Новы Час» за перыядычныя публікацыі пра яго турэмныя будні. Ён піша, што «Новы Час» — яго адзіны афіцыйны канал з «воляй», не лічачы лістоў ад родных і сяброў.

# Збіраем подпісы за бел-чырвона-белы сцяг

**Маладафронтаўцы распачалі збор подпісаў за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статусу нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці.**



Першым свой подпіс пад зваротам паставіў вядомы актор і рэжысёр Павел Харланчук.

«Для тых, хто жадае далучыцца да кампаніі па зборы подпісаў, прапануем да запампоўвання адмысловы подпісны бланк з асноўнымі фактамі пра каштоўнасць бел-чырвона-белага сцяга. Факты правераны на адпаведнасць падзеям гісторыкам і пісьменнікам Уладзімірам Арловым», — паведаміў Зміцер Дашкевіч на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

«Я планую збіраць подпісы кожны дзень апроч нядзелі. У планах сабраць не менш за тысячу подпісаў, і гэта рэальна. Пасля працы я стаю на выхадзе з метро Купалаўская ў бок крамы «Цэнтральная», і штогадзіну падпісваецца каля дваццаці чалавек. Да кампаніі пачынаюць далучацца і іншыя актывісты, кожны з якіх таксама бярэ на сябе адказнасць сабраць тысячу подпісаў. Мяркуецца, што праз месяц мы панясем подпісы да Міністэрства культуры», — пракаментаваў Зміцер Дашкевіч.

# «Міліцыянты і турма з'елі майго сына»

Зінаіда ЦІМОШАК

**У Жодзінскай турме № 8 падчас судовага следства раптоўна памёр жыхар Слуцка Ігар Барбашынскі.**

Нагадаем абставіны справы, якая прывяла 37-гадовага мужчыну да турмы і смерці.

У канцы сакавіка Ігар разам з братам Іванам, пасля наведвання начной кавярні былі затрыманы міліцыянтамі па дарозе дадому. Іх абвінавацілі ў тым, што яны былі нецвярозымі ў грамадскім месцы і даставілі ў медвыцвярэзнік.

Назаўтра да медвыцвярэзніка была выклікана хуткая медыцынская дапамога, якая адвезла братоў у паліклініку. Рэнтгенаўскія здымкі паказалі пералом рабрын, таксама былі зафіксаваны шматлікія гематомы. Пасля таго, як случчане напісалі заяву ў Слуцкі РАУС аб збіцці іх міліцыянтамі, яны даведаліся, што супраць іх ужо распачата крымінальная справа аб гвалтоўных дзеяннях у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі. Праз два месяцы, у чэрвені 2016 года, Барбашынскія былі затрыманыя і да суда змешчаны ў следчы ізалятар.

У жніўні адбыліся тры судовыя пасяджэнні, падчас якіх абставіны справы для міліцыянтаў склаліся не лепшым чынам. Судовы разгляд справы да гэтага часу не скончаны, абвінавачаныя запрасілі дадатковыя адмысловыя экспертызы, якія, на іх думку, маглі б даказаць адсутнасць гвалтоўных дзеянняў супраць супрацоўнікаў РАУС. (Больш падрабязна пра справу Барбашынскіх можна пачытаць на нашым сайце novychas.by).

І вось адзін з братоў не дачакаўся судовага выраку — раптоўна памёр. Маці Ігара, Галіна, атрымала на рукі пасведчанне аб смерці, у якім напісана: «причина смерти устанавливается».

Падчас тэлефоннай размовы начальнік аддзела судова-медыцынскай экспертызы Вячаслаў Эдуардавіч Давыдзенкаў паведаміў, што прычыны смерці будуць устаноўлены на працягу месяца.

«Забраны ўсе неабходныя матэрыялы і адпраўлены для даследавання ў лабараторыі Мінска. На працягу месяца будуць праведзены дадатковыя даследаванні, і мыдыкі ўстановяць дыягназ. На ўсе астатнія пытанні без прысутнасці следчага я не магу адказваць», — адзначыў судмедэксперт. Галіна Барбашынская распавяла, што ўскрыццё цела сына праводзілася вельмі доўга, і забіралі яны яго з морга не ў прызначаны час.

Маці з жахам углядаецца ў схуднелы твар свайго сына, гаворыць з ім, не зважаючы на прысутных:

— Божачкі, што з табой там у турме здарылася, сынок? Ты ж яшчэ 9-га верасня напісаў нам пісьмо, што ўсё будзе добра, каб мы не клапаціліся, што хутка сустрэнемся ў судзе. Заўсёды быў такі здаровы, за ўсё жыццё хварэў толькі на прастуду.

Размаўляць з маці, Галінай, было вельмі цяжка. Жанчыну душылі слёзы:

— 20 верасня, каля дзевяці гадзін раніцы мне патэлефанавалі з жодзінскай турмы, сказалі, што памёр мой сын, і далі нумар тэлефона для сувязі. Ніякіх прычын і абставін смерці не паведамілі. Сказалі толькі, што трэба прыязджаць заўтра — забіраць цела. Я крычала ў тэлефон — як гэта памёр? Ён жа такі здаровы быў, маёр у адстаўцы, былы ваенны, займаўся спортам, амаль не нічым не хварэў? Што здарылася? У адказ — ніякай інфармацыі», — кажа жанчына.

Маці лічыць, што «яе сына з'елі міліцыянты і турма».

Пахаванне Ігара Барбашынскаага адбылося 22 верасня. Брата Івана, які праходзіць па гэтай жа справе і да вырака знаходзіцца ў гэтай жа турме, на пахаванне не адпусцілі. Падследчага могуць адпусціць толькі суд (але суддзя сказала, што справа знаходзіцца ўжо ў Мінску, таму яна гэта зрабіць не можа) ці міліцыя...

# «Абуральны выпадак міліцэйскага свавольства»

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Смерць падследчага Ігара Барбашынскага ў Жодзіна прыцягнула ўвагу ўвогуле да справы братоў Барбашынскіх. Доктар юрыдычных навук Міхаіл Пустухоў лічыць яе «абуральным выпадкам міліцэйскага свавольства».**

Прыводзім каментар экс-суддзі Канстытуцыйнага суда, Заслужанага юрыста Рэспублікі Беларусь цалкам:

«Выпадак братоў Барбашынскіх і іх справа — абуральны выпадак міліцэйскага самавольства.

Работнікі міліцыі без усялякіх падстаў чапляюцца да грамадзян з мэтай паляпшэння паказчыкаў работы «органаў» і папаўнення дзяржаўнай казны за кошт спагнання штрафаў.

Асаблівасць выпадку ў тым, што затрыманыя аказалі супрацьдзеянне незаконным дзеянням супрацоўнікаў міліцыі. У выніку выйшла сур'ёзная бойка, якая дрэнна скончылася для братоў Барбашынскіх. Мяркуючы па ўсім, яны раззлавалі «вартавых парадку». Невыпадкова тыя зладзілі ім у міліцэйскай машыне «газавую камеру».

Далей было «звядзенне рахункаў» са свавольнымі братамі. У адказ на іх заявы аб прыцягненні працаўнікоў міліцыі да крымінальнай адказнасці, тыя вырашылі пакараць па самых строгіх мерках — па частцы 2 ст.363 КК («Супраціў працаўніку міліцыі...»).

Гэты сцэнар мог быць цалкам рэалізаваны пры падтрымцы пракурора — дзяржаўнага абвінаваўцы. Трэба аддаць належнае адвакату, якая даказала ў судзе, што справа «шытая белымі ніткамі», і дамаглася правядзення дадатковых медыцынскіх экспертыз. Па сутнасці, справа развалілася, і братоў павінны былі апраўдаць. Ва ўсялякім выпадку, суддзя павінна была вызваліць іх з-пад варты ў зале суда, бо заставалася толькі дачакацца вынікаў экспертызы.

Замест такіх чаканых па законе дзеянняў братоў пакінулі ў турэмных камерах. І сэрца аднаго з іх, 37-гадовага Ігара Барбашынскага, не вытрымала.

Вядома, адміністрацыя Жодзінскага СІЗА «адпіша» па факце смерці маладога мужчыны, маёра запасу, які нічым да гэтага сур'ёзна не хварэў. Магчыма, і суд прасякнецца спачуваннем да другога брата і абмяжуецца мінімальным пакараннем за нібыта аказаны ім супраціў «гасударавым людзям».

Яшчэ раз падкрэслю: факт — абуральны. У ім у наяўнасці грубае парушэнне нормаў Закона «Аб органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь» ад 17 ліпеня 2007 года. І, перш за ўсё, прынцыпу законнасці і павагі правоў і свабод грамадзян. На мой погляд, «героі» гэтай гісторыі — работнікі міліцыі — дапусцілі злоўжыванне ўладай або службовым паўнамоцтвамі (арт. 424 КК) і павінны панесці заслужанае пакаранне. Смерць Ігара Барбашынскага — на іх сумленні. Як абцяжарваючая віну акалічнасць. Калі б не было іх незаконных дзеянняў — браты маглі б пажываць ды жыццё смакаваць.

Я расцэньваю гэты выпадак як ганьбу не толькі слуцкай, але і ўсёй беларускай міліцыі. Даўно ўжо трэба яе рэфармаваць і зрабіць якасна новай, з іншым кадравым складам і іншым прызначэннем».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Падыміце мне павекі!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Двух гадоў не прайшло з таго моманту, як пачаў дзейнічаць Еўразійскі эканамічны саюз, а ягоны «лакаматыў» — Беларусь — ужо гатовы адмовіцца ад праекту. Прынамсі, так трэба разумець крытыку Аляксандра Рыгоравіча ў бок Расіі.**



На тыдні, сустракаючыся з дзяржсакратаром Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Рыгорам Рапотай, беларускі правадыр нечакана абрынуўся на ЕАЭС. А агенцтва БелТА распаўсюдзіла поўнае відэа гэтага маналогу, які каментатары ўжо называюць «ультыматумам Расіі».

«Гэта нікуды не варта. Мы заўсёды ганарыліся тым, што вось тавараабарот знізіўся, але ў натуральным выразе мы далі. Гэта сведчыць аб тым, што мы пачалі пастаўляць у Расію вялікія аб'ёмы, але па цэнах напалову ніжэй. Якая даходнасць Беларусі ад гэтага? Практычна ніякай. Мы цяляпаемся (інакш не скажаш) і ўжо некалькі месяцаў не можам дамовіцца па цане на газ. У сувязі з гэтым Расія знізіла пастаўкі нафты ў Беларусь. Мы гэта ўспрымаем як ціск на Беларусь, але ціску я не пацярплю, і беларусы таксама», — казаў беларускі кіраўнік.

«Калі мы пастаўляем якасны тавар і па прымальным цэнах у Расію, мы б'ём па кішэнях алігархаў ад сельскай гаспадаркі ў Расіі. Яны ціснуць на ўрад (там сувязі, вы ведаеце не горш за мяне, якія), а ўрад дае каманду «фас» рознага роду чыноўнікам — ад Рассельгаснагляду і далей... Ідзе непрыхаваны ціск. Я чаму адкрыта пра гэта кажу? Таму што ўжо надакучыла, гэта ўжо праз край, далей так працягвацца не можа. Яшчэ кажу гэта таму, каб вы разумелі, на якім фоне мы сёння гаворым пра далейшае развіццё нашага саюзнага праекта. Тое, што я сказаў, ні ў якім разе не азначае, што мы будзем у нейкім плане згортваць інтэграцыйныя праекты, але свой удзел у гэтых праектах мы будзем аптымізаваць», — сказаў Лукашэнка.

Так і хочацца сказаць, як у Гогаля: «Падыміце мне павекі!» Калі ствараўся спачатку Мытны, а потым Еўразійскі саюз, незалежныя эканамісты ўсю плеш праелі, даводзячы простую ісціну: аб'яднанне слабых краін не зробіць гэтыя краіны мацнейшымі. Аб'ядноўвацца трэба з моцнымі. Аляксандр Рыгоравіч іх не слухаў. Дарэчы, і Уладзімір Уладзіміравіч таксама. Для апошняга быў важным палітычны кампанент саюзу — імідж «збіральніка земляў рускіх». Але ў выніку апынулася, што гэты імідж працэй уздымаецца шалёнай імперскай прапагандай і «малой пераможнай вайной» ва Украіне.

**Што на папрокі адкажа Пуцін? З аднаго боку, яны справядлівыя. З іншага — выказаныя публічна і ў форме шантажу. Саступіць Лукашэнку — даць прыклад усім іншым «незадаволеным» рабіць тое ж самае**

Праўда, перамагчы ва Украіне цалкам не атрымалася, але і гэтага было дастаткова, каб рэйтынг Пуціна зашкаліў за 80%.

Мы неаднаразова называлі ЕАЭС «цацкай Пуціна». Так, гэта і была цацка. А якіх вынікаў можна чакаць ад цацкі? Просты — нагуляўся і кінуў.

«Мы павінны дакладна вызначыцца: мы будзем выконваць заключаныя дагаворы і абавязальніцтвы або не будзем? Вось гэта галоўнае пытанне для нас. (...) Мы заўсёды імкнуліся прыстасавацца да сваіх суседзяў, каб ім не перашкаджаць, але ў нас жа ёсць уласны інтарэс», — нарэшце зразумеў Лукашэнка.

Чаму Лукашэнка абрынуўся з крытыкай ЕАЭС менавіта зараз? Ды таму, што яго не проста «дастала». Галоўны «саюзнік» па аб'яднанні «кінуў» не Беларусь — да гэтага мы ўжо прызвычаіліся. Ён «кінуў» персанальна Аляксандра Рыгоравіча. А гэта не дазваляецца нікому.

Яшчэ 11 верасня на выбарчым участку Лукашэнка казаў, што мы дамовіліся з Расіяй наконт кошту на газ, і літаральна праз два дні гэтае пагадненне будзе падпісане. Канешне, мы прызвычаіліся да ягоных аптымістычных абяцанкаў, але на пустым месцы такія заявы не робяцца. Прайшло дзесяць дзён — і нічога. Расія не толькі абвергла беларускага кіраўніка, яна нават заявіла, што скароціць пастаўкі нафты ў чацвёртым квартале гэтага года, калі мы не аплацім доўг «Газпраму». То бок, фактычна выставіла Аляксандра Рыгоравіча лгуном. Такое не прабачаецца.

З іншага боку, зараз няма падстаў чакаць «нажа ў спіну» ад Захаду: выбары, якія-ніякія, але прайшлі. Да канчатковых справаздач яшчэ далёка, аднак зразумела, што ніякіх «санкцый-контрсанкцый» у дачыненні да Беларусі не будзе, а толькі дзяжурныя заявы, што краіне «доўга яшчэ рухацца па шляху дэмакратыі». Наступны палітычны цыкл — выбары ў мясцовыя саветы, — будзе толькі ў 2018-м годзе. Паўтара гады можна спаць спакойна.

«Пацяпленне адносін з Еўропай» дае падставы для чарговых манёўраў у стылі «геапалітычных арэляў».

Апроч таго, у «ЕАЭСаўскім дэмаршы» існуе велізарны плюс. Усе казалі, што ў Аляксандра Рыгоравіча кароткая «лава запасных», таму чыноўнікі ў тым жа ўрадзе перамяшчаюцца з месца на месца — новых узяць няма адкуль. І таму ж прыходзіцца мілаваць «буйных карупцыянераў» і адразу ж прызначаць іх дырэктарамі прадпрыемстваў, што не дадае папулярнасці як вышэйшай уладзе (скасавалі прынцып «рабаўнік павінен сядзець у турме»), так і ўладзе на месцах (які давер у працоўных можа быць да «дырэктара-зэка», ды яшчэ і хабарніка?). А тут — гатовая тысяча чыноўнікаў з досведам працы «на міжнароднай арэне»!

Гэтак можна і ўрад у адстаўку выправіць, спісаўшы на яго ўсе хібы і правалы «беларускага эканамічнага цуду».

Ёсць толькі адно пытанне: што на гэтыя папрокі адкажа Пуцін? З аднаго боку, яны справядлівыя. З іншага — выказаныя публічна і ў форме шантажу. Саступіць Лукашэнку зараз — даць прыклад усім іншым «незадаволеным» рабіць тое ж самае.

Так што неадкладнага і ўцямнага адказу на гэты ўльтыматум, хутчэй за ўсё, мы не пачуем. Урэшце, у Пуціна заўсёды ёсць іншы козыр: Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця, 700 мільёнаў долараў з якога ўжо закладзеныя ў беларускі бюджэт–2017.

Пуцін можа пачакаць з адказам. А вось газ і нафта Беларусі патрэбныя зараз — каб не змерзнуць узімку.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Эдуард Пальчыс



**Заснавальнік і аўтар сайта 1863x.com спрабуе абвергнуць абвінавачванні ў экстрэмізме праз яўнае парушэнне сваіх правоў. Адпаведную скаргу ён накіраваў у Мінскі гарадскі суд.**

Нагадаем, што суд Цэнтральнага раёна Мінска прызнаў дзевяць артыкулаў з яго сайта экстрэмісцкімі. Пальчыс не згодны з гэтым рашэннем і лічыць, што суд вынес яго без даследавання саміх артыкулаў. Апроч таго, Пальчыс зазначае, што разгляд заявы Следчага камітэта па сайту 1863x.com непасрэдна закранае яго правы як у гэтай справе, так і ў крымінальнай. Пальчыс прасіў у пісьмовым выглядзе запрасіць яго на судовае пасяджэнне 25 жніўня, аднак суддзя Марына Казлова сказала, што Эдуарду было належным чынам паведамлена пра дату слуханняў, але ён на працэс не з'явіўся. Таму суд прыняў рашэнне разглядаць справу без яго.

Цікава, як ён мог з'явіцца ў суд, калі сядзіць у следчым ізалятары ў Жодзіна? Таму тут праглядаецца відавочнае парушэнне правоў Пальчыса. Бо тое, што ў артыкулах знайшлі экстрэмізм, з'яўляецца доказам для крымінальнай справы Пальчыса па «экстрэмісцкім» артыкуле.

## Сяргей Міхалок



**Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкама выдала гастрольнае пасведчанне арганізатарам канцэрту гурта «Brutto» Сяргея Міхалка.**

Мерапрыемства павінна адбыцца 29 кастрычніка ў гомельскім Лядовым палацы спорту.

Канцэрт «Brutto» можа стаць першым за пяць гадоў з'яўленнем Міхалка на сцэне ў Беларусі. У пачатку года калектыў спрабаваў арганізаваць дабрачынны канцэрт у мінскім Палацы спорту. Мінгарвыканкам у апошні момант скасаваў гастрольнае пасведчанне, патлумачыўшы гэта тым, што ў заяўлены дзень на пляцоўцы будуць праходзіць мантажна-дэмантажныя працы абсталявання пасля канцэрту гурта «Звери».

Прадстаўнік кампаніі — арганізатара канцэрта спадзяецца, што ранейшая гісторыя, калі чыноўнікі спачатку дазволілі «Brutto» выступіць у Мінску, а потым літаральна напярэдадні выступу адмянілі сваё рашэнне, не паўторыцца. «Пакуль нічога не дае падстаў меркаваць, што будзе адмена. Зносіны з ідэолагамі магу назваць вельмі пазітыўнымі. Пакуль не хочацца выходзіць за межы і расказваць больш, але галоўнае — мы сутыкнуліся з добрым стаўленнем», — сказаў ён, пры гэтым не агучыўшы сваё прозвішча.

Пра перспектыву тура «Brutto» па Беларусі ён сказаў: «Трэба зрабіць першы канцэрт, а далей будзем глядзець».

## Ігар Бокій



**Беларускі параліміпец-плывец стаў 11-разовым чэмпіёнам Паралімпіяд. У Рыа-дэ-Жанейра ён заваяваў аж сем медалёў! Прычым шэсць з іх — залатыя, і адна «бронза».**

Пры гэтым Ігар Бокій абнавіў 2 сусветныя рэкорды і 6 рэкордаў Паралімпійскіх гульняў.

Такім чынам, у скарбонцы Беларусі на Паралімпіядзе–2016 стала ўжо 10 медалёў (8, 0, 2). Акрамя 6 залатых і 1 бронзавай узнагарод Ігара Бокія па 1 залатым медалі заваявалі плывец Уладзімір Ізотаў і фехтавальшчык-калясачнік Андрэй Праневіч, яшчэ адна бронза на рахунку кідальніка дзіды Аляксандра Трыпуця.

22-гадовы Ігар Бокій перасягнуў уласнае дасягненне Гульняў–2012 у Лондане як па агульнай колькасці ўзнагарод, так і па колькасці залатых медалёў. Чатыры гады таму на яго рахунку было 5 залатых і 1 срэбная ўзнагарода, у Рыа–2016 ён заваяваў 6 залатых і 1 бронзавы медаль. Усяго ў Ігара цяпер 13 узнагарод з Паралімпіяд.

Апроч сусветнай славы, спартовец няблага падзарабіў. Пачынаючы з Паралімпійскіх гульняў 2012 года прызавыя за медалі былі ўстаноўлены ў памеры 50 тысяч долараў за золата, 30 тысяч — за срэбра і 20 тысяч — за бронзу. Такім чынам, сума прызавых Ігара складзе рэкордныя 320 тысяч долараў. Акрамя таго, прызёры атрымаюць права на прэзідэнцкія стыпендыі.

а | Азбука паліталогіі

# На выбары як на свята



Сяргей НІКАЛЮК

**У аўтарытарных краінах выбары забяспечваюць прадказальны вынік, але непрадказальныя наступствы.**




Штодня каля 12.00 я абыходжу крамы. Выбары не парушылі гэтай традыцыі. Побач з маім домам месціцца сярэдняя школа №209. Як і належыць, у дзень выбараў на яе прыступках святочна апранутыя вучаніцы спявалі пад фанаграму. У той момант, калі я праходзіў каля будынка, школьны двор быў пусты. Ніводнага слухача! Ніводнага! Але гэты факт не ўнёс карэктываў у праграму канцэрту. Квартэт змяніла трыа.

Сярод сучасных дзяржаў, што горда называюцца дэмакратыямі (такіх большасць), палітолагі вылучаюць «дэмакратыі з прыметнікамі». Як тут ні прыгадаць спробы крамлёўскіх ідэолагаў у «нулявыя» гады стварыць свой уласны, суверэнны варыянт дэмакратыі.

Аднак іх намаганні былі марныя. Замест арыгінальнага прадукту атрымалася знаёмая да болю кіраваная дэмакратыя. Эканаміст Аляксандр Аўзан апісвае яе як спробу «кіраваць паводзінамі людзей шляхам змены не ўмоваў надвор'я, а паказанняў тэрмометра».

Але калі адмовіцца ад крайніх меркаванняў, дык варта прызнаць, што ідэальная дэмакратыя, як і абсалютны аўтарытарызм, — абстракцыі. У рэальным жыцці прастора паміж імі запоўнена прамежкавымі формамі. У прыватнасці, амерыканскі палітолаг Фарыд Закарыя ўвёў у навуку паняцце «неліберальная дэмакратыя». У яе вызначэнні для беларусаў нічога нечаканага няма. Цытую: «Палітык, які прыйшоў да ўлады дэмакратычным шляхам, пачынае паступальна абмяжоўваць канстытуцыйныя свабоды, забяспечваючы ўласнае праўленне на як магчыма большы тэрмін. І апелюе пры гэтым да нейкага набору «нацыянальных каштоўнасцяў, што склаліся гістарычна».

### Не памылка, а хітрасць

Суседзямі неліберальнай дэмакратыі (яе стрыечнымі братамі) з'яўляюцца імітацыйная дэмакратыя і электаральны аўтарытарызм. Мяжу паміж імі на практыцы цяжка акрэсліць. Сучасныя аўтарытарныя рэжымы маюць патрэбу ў выбарах. Міжкраінавыя даследаванні выявілі прамую залежнасць паміж тэрмінам знаходжання аўтарытарнага палітыка ва ўладзе і яго здольнасцю арганізоўваць народнае волевыяўленне.

У гэтым сэнсе сам факт пятага тэрміну адзінага палітыка (АП) з'яўляецца лепшай ілюстрацыяй яго эфектыўнасці ў якасці электаральнага менеджара. За два дзесяцігоддзі ён здолеў стварыць не проста згуртаваную каманду аднадумцаў, не проста выбарчую машыну, а выбарчы працэс як сацыяльны інстытут — устойлівы комплекс фармальных і нефармальных правілаў, якія рэгулююць дзейнасць мільёнаў людзей.

Фармальныя правілы правядзення выбарчых кампаній прапісаныя ў Канстытуцыі і Выбарчым кодэксе. Але адной з галоўных асаблівасцяў нашай культуры з'яўляецца дамінаванне ва ўсіх сферах жыцця правілаў нефармальных. У нас не толькі на побытавым узроўні, але і на ўзроўні вышэйшых паверхаў уладнай вертыкалі большасць пытанняў вырашаецца шляхам асабістых дамоўленасцяў. Выбары ў гэтым сэнсе — не выключэнне. Таму любыя папраўкі ў Выбарчы кодэкс не могуць змяніць імітацыйную прыроду беларускіх выбараў.

У СССР асноўнай задачай выбараў была дэманстрацыя «адзінства партыі і народа». Канкурэнцыя паміж кандыдатамі не прадугледжвалася. Згодна з ідэалагічнай дактрынай, у савецкім грамадстве адсутнічалі антаганістычныя класы — такім чынам, не было і патрэбы ў «агульнапрынятым парламенцкім механізме». З гэтага аргументу вынікала, што там, дзе няма класавых адрозненняў, не можа быць і адрозненняў у меркаваннях, таму любое адхіленне ад афіцыйнай лініі прыраўноўвалася да контррэвалюцыі.

Тое, што мы назіраем сёння, адрозніваецца ад савецкага вопыту толькі па форме. Аўтарытарызм з прыметнікам «электаральны» не толькі мае на ўвазе наяўнасць рэальнай апазіцыі, але нават дапускае яе ўдзел у выбарах. Пры гэтым перамогі апазіцыйных кандыдатаў чакаць не варта.

11 верасня не стала выключэннем, і тое, што ў Палату прадстаўнікоў трапілі Алена Анісім і Ганна Канапацкая, не сведчыць пра змену прыроды аўтарытарнага рэжыму. Гэта — не яго памылка. Гэта — яго тактычная хітрасць.

### Перамога селекцыі

Допуск рэальнай апазіцыі да выбараў дазваляе адным стрэлам забіць двух зайцаў: па-першае, спусціць пару грамадскай незадаволенасці, дазволіўшы апанентам улады прагаласаваць за альтэрнатыўных кандыдатаў, па-другое, пераключыць энергію апазіцыйных актывістаў са знешніх праблем на ўнутраныя.

Як тут ні прыгадаць шматгадовыя кампаніі па пошуку «адзінага кандыдата». Сёння на нашых вачах разгортваецца дыскусія вакол сябра АГП Канапацкай. Партыя прызнала выбары нелегітымнымі, зрабіўшы выключэнне для асобна ўзятай акругі. Што гэта — ганьба або заслужаная перамога?

Асабіста мне паверыць у заслужаную перамогу складана. Ва ўчастковых выбарчых камісіях задзейнічана каля 70 тысяч чалавек. Выпадковаму чалавеку практычна немагчыма трапіць у саслоўе прафесійных спецыялістаў па падліку галасоў. Пра ўзровень селекцыйнай работы раённых адміністрацый сведчыць адсутнасць праколаў у працы камісій.

Але калі селекцыянеры на працягу двух дзесяцігоддзяў не памыляюцца з адборам дзясяткаў тысяч выканаўцаў з патрэбнымі характарыстыкамі, дык што ім перашкаджае дамагацца жаданага, калі гаворка ідзе ўсяго толькі пра 110 персонаў? Задачы несувымерныя па маштабе. Алгарытм іх вырашэння сфармаваны «ад жыцця», і ўжо хаця б з гэтай прычыны гарантуе атрыманне запланаванага выніку.

Квартэты і трыо, якія спяваюць пад фанаграму на прыступках школы №209, — далёка не самы галоўны, але абавязковы элемент выбараў. Яны дзейнічаюць у рамках агульнага алгарытму. 30 жніўня АП падчас размовы з каардынатарам місіі кароткатэрміновых назіральнікаў АБСЕ растлумачыў, што бачыць свой удзел у выбарах не толькі ў якасці гаранта іх сумленнасці, адкрытасці і бяспекі, але і «каб людзі ішлі на выбары як на свята».

Свята забяспечвае школьная самадзейнасць. Агульная колькасць участкаў для галасавання, паводле ЦВК, — 6018. Прафесійных калектываў на ўсіх не набярэшся, дый прафесіяналам трэба плаціць.

### Прадказальнасць vs. непрадказальнасць

Алгарытм, калі хто не памятае, — гэта набор інструкцый, якія апісваюць парадак дзеянняў выканаўцы дзеля дасягнення некаторага выніку. Алгарытм выбараў у «дэмакратыях без прыметнікаў» забяспечвае непрадказальныя вынікі пры прадказальных наступствах. У «дэмакратыях з прыметнікамі» наадварот: вынікі прадказальныя, чаго не скажаш пра наступствы.

Не ў апошнюю чаргу гэты парадокс тлумачыцца тым, што заканадаўцы ў «дэмакратыях з прыметнікамі» працуюць пад дыктоўку выканаўчай улады. Яе парадак, у сваю чаргу, звязаны з фактарамі, якія яна не кантралюе: кошты на нафту, згоду / нязгоду знешніх крэдытораў на прадастаўленне чарговых крэдытаў і г.д.

Акрамя таго, нельга скідаць з рахунку і суб'ектыўны фактар. Яго сутнасць раскрывае палітолаг Кацярына Шульман: «Да ўдзелу ў выбарах дапускаюцца толькі так званыя сістэмныя актары — г. зн. яны самой сістэмай усведамляюцца як тыя, хто не паграsevere яе раўнаваге. А лаялізм мае на ўвазе не цвёрда прытрымлівацца пэўнай сістэмы перакананняў, а ўменне гнутка змяняцца ў гармоніі са зменамі начальніцкіх пазіцый і пажаданняў».

Думаю, старшыню ППНС пятага склікання Уладзіміра Андрэйчанку можна смела прылічыць да сістэмных актораў. На календары 18 кастрычніка 2012 года. Першае пасяджэнне. На трыбуне новы-стары старшыня дзякуе калегам за паўторнае абранне на трэцюю пасаду ў дзяржаве.

Падзякаваўшы за аказаны давер, ён шырокімі мазкамі малюе карціну маючай адбыцца заканатворчай дзейнасці: «Далейшых заканадаўчых крокаў патрабуе падтрымка малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, стварэнне высокаэфектыўных працоўных месцаў. Гэтыя законы павінны быць законамі новага пакалення. Дэпутатам трэба ўключыцца ў працу над законапраектам аб новых формах і механізмах дзяржаўна-прыватнага партнёрства ў розных сферах эканомікі».

І як вам гэта карціна? Спадабалася? Вынікі парламенцкіх выбараў восенню 2012 года былі прадказальныя, непрадказальным апынуўся вынік дзейнасці дэпутатаў.

### Урокі гісторыі

Проціпастаўленне парламенцкай гаварыльні моцнай дзяржаве — даўняя традыцыя айчыннай палітычнай культуры (або бяскультур'я). «Спробы будаваць дзяржаву праз працэдуры, у тым ліку парламенцкія, бясконца ўзгадняючы інтарэсы і амбіцыі партый, палітыкаў, алігархаў і іншых, — усе гэтыя спробы ні ў адной краіне свету ні ў адну гістарычную эпоху не заканчваліся паспяхова».

Далей уладальнік дыплома гісторыка падрабязна тлумачыць дэпутатам, як Вялікабрытаніі давалася прайсці праз смуты і ўзрушэнні, перш чым яна прыйшла да эфектыўнага парламенцкага кіравання. Прыклад Францыі яшчэ больш павучальны: паўтара стагоддзя нестабільнасці, перш чым удалося прыйсці да адносна стабільнай Пятай рэспублікі.

Між тым, большасць дэмакратычных дзяржаў — парламенцкія рэспублікі. Магчыма, іх эліты не мелі доступу да падручнікаў гісторыі, па якіх вучыўся АП. Таму ім вядома, што ў XVI стагоддзі Англія і Іспанія знаходзіліся прыкладна на аднолькавым узроўні развіцця, але праз тры стагоддзі Англія — першая краіна свету, цэнтр імперыі, над якой ніколі не заходзіць сонца, Іспанія — адна з самых адсталых краін Еўропы.

Прычыну разыходжання гісторыкі бачаць у тым, што падаткі ў Іспаніі трапілі ў рукі караля, а ў Англіі — у рукі парламента. Каралям заўсёды не хапае грошай. Яны вядуць войны і імкнуцца жыць у раскошы, не ўзгадняючы свае выдаткі з падаткаплацельшчыкамі, што немагчыма пры моцным парламенце.

Кажучы мовай тэорыі сацыяльнага кантракту, у Іспаніі паўстаў вертыкальны кантракт, пры якім улада мае права забіраць і пераразмяркоўваць, а ў Англіі — гарызантальны кантракт, яго раўнапраўнымі ўдзельнікамі сталі спачатку тысячы, а потым сотні тысяч і мільёны людзей.

Сучасная Іспанія ўрок са свайго мінулага зрабіла, чаго не скажаш пра Беларусь, большасць гарадоў якой у сярэднявеччы атрымала Магдэбургскае права.

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

# Дзіця як квіток у галечу

**У грамадстве ёсць устойлівы стэрэатып: бядняк — гэта або самотны пенсіянер, якому не дапамагаюць дзеці, або гультай-лайдак-алкаголік, які працаваць можа, але не жадае. На самай справе, усё не так. Дык хто яны — бедныя людзі ў Беларусі?**



**70% жанчын не выкарыстоўваюць магчымасць заставацца ў дэкрэце ўвесь час дэкрэтнага адпачынку. Бо нават калі ў сям'і ёсць муж, які працуе, яго заробку не хапае на ўтрыманне сябе, жонкі і дзіцяці**

### Беднасць у лічбах

Рэальныя грашовыя прыбыткі беларусаў у першым паўгоддзі 2016-га абрынуліся на 7%, пры гэтым, па дадзеных Нацбанка, у бягучым годзе прыкметна змянілася структура саміх прыбыткаў. Асноўнымі крыніцамі грошай сталі зарплата і пенсіі, дапамогі, стыпендыі. А вось прыбыткі ад уласнасці і свайго бізнесу рэзка знізіліся. За паўгода фармальныя прыбыткі насельніцтва выраслі на 4,7%, затое спажывецкія кошты — на 12,4%. Гэта значыць, кошты растуць з прыкметным апярэджаннем прыбыткаў.

Ужо былая міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна яшчэ ў чэрвені 2015-га канстатавала: «Амаль 93% беларусаў працуюць толькі на адной працы». І не таму, што, насуперак думкам той жа Шчоткінай, не жадаюць зарабляць. Проста магчымасці падпрацоўкі вельмі абмежаваныя. За год сітуацыя не змянілася. Але пры гэтым нават з асноўнай працай узнікае ўсё больш праблем. Па тэмпах росту беспрацоўя (+39%) Беларусь выйшла ў лідары СНД.

Прадстаўленае дзяржавай працоўнае месца таксама не вырашае праблемы. Рэальная зарплата бюджэтнікаў у першым паўгоддзі паменшылася на 5,5%. Пры гэтым трэба разумець, што якраз у бюджэтнай сферы працуе вельмі высокі працэнт жанчын, у тым ліку маці-адзіночак. Для Беларусі характэрна «жаночае аблічча» такіх нізкааплатных прафесій, як лекар, фельчар, медсястра, сувязіст (паштальён), бібліятэкар, афіцыянт, настаўнік і шэраг іншых.

Аднак дзе ў нашым грамадстве праходзіць тая мяжа, якая аддзяляе проста людзей з невысокімі прыбыткамі ад беднякоў? Або, як іх завуць больш навукова, — «малазабяспечаных»? Як паказвае статыстыка, толькі 13,6% малазабяспечаных хатніх гаспадарак у Беларусі — гэта самотныя людзі. Сем'і без дзяцей — 18%. А вось сем'і з дзецьмі — ужо 68,4%. Атрымліваецца, што самотныя беларусы, якія могуць выдаткоўваць усе свае прыбыткі выключна на сябе, багацейшыя за пары і сем'і з дзецьмі.

Статыстыка сведчыць, што з'яўленне дзяцей у два разы павялічвае для сям'і рызыку апынуцца за рысай беднаты. Да таго ж сёння кожнае чацвёртае дзіця ў Беларусі выхоўвае маці-адзіночка. Расце колькасць разведзеных сем'яў, у Беларусі яна дасягае 50%, а сярод маладых сем'яў гэтая лічба даходзіць да 70%.

У II квартале 2016-га колькасць сем'яў, якія жывуць за рысай беднасці, склала прыкладна 150 тысяч, або 3,9% ад агульнай колькасці хатніх гаспадарак краіны (5,4% насельніцтва). Гэта сем'і, якія могуць выдаткаваць у месяц суму менш за бюджэт пражытковага мінімуму (175 рублёў 50 капеек) на чалавека. Часцей за ўсё, за рысай беднасці апынаюцца сем'і з дзецьмі да 18 гадоў.

### Дзеці і нядоля

Белстат ніяк не «сартуе» беднякоў па катэгорыях. І нават калі 175 рублёў — гэта вельмі маленькая сума, то чалавека, які яе атрымлівае, дзяржава ўжо бедным не лічыць. Аднак на практыцы гэта прыводзіць да таго, што ў грамадстве маецца нямала бедных людзей, якіх такімі дзяржава не прызнае. Сёння большасць з іх — жанчыны, і найперш самотныя жанчыны з дзецьмі, да таго ж тыя, што жывуць у правінцыі.

У рэальным жыцці рост коштаў пры поўнай адсутнасці росту прыбыткаў найбольш балюча адбіваецца менавіта на жанчынах з дзецьмі, паколькі асабліва ў Беларусі — неапраўдана высокі ўзровень коштаў на дзіцячыя адзежу і абутак. А дзяржаўныя асігнаванні на сацыяльную сферу ўвесь час скарачаюцца: бацькам даводзіцца ўсё больш плаціць за дзіцячыя садкі і школы (падручнікі, школьная форма, дзіцячае харчаванне). Сёння платныя практычна ўсе кружкі і секцыі, і нават накарміць дзіця якаснымі прадуктамі ўсё даражэй.

У любым выпадку, нараджэнне дзіцяці стварае сям'і немалыя фінансавыя праблемы. Маці, якая сыходзіць у дэкрэтны адпачынак, атрымлівае толькі 35% свайго квартальнага заробку. Гэта значыць, крыху болей за 100 долараў на месяц, пры сённяшнім узроўні зарплаты. У Беларусі дэкрэтны адпачынак можа доўжыцца тры гады. Але, як сведчыць Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, 70% жанчын не выкарыстаюць магчымасць заставацца ў дэкрэце ўвесь гэты час. Таму што нават калі ў сям'і ёсць муж, які працуе, яго прыбыткаў не хапае на ўтрыманне сябе, жонкі і дзіцяці. Толькі калі працуюць абодва, сям'я можа існаваць і не скаціцца ніжэй за парог беднасці.

Адно са сведчанняў гаротнага становішча менавіта сем'яў з дзецьмі — структура адраснай сацыяльнай дапамогі. Па дадзеных Белстата, галоўныя атрымальнікі штомесячнай і аднаразовай сацыяльнай дапамогі (72%) — шматдзетныя і няпоўныя сем'і з непаўналетнімі дзецьмі. Сярод тых, хто атрымлівае ад дзяржавы бясплатныя прадукты харчавання, таксама пераважаюць няпоўныя сем'і — 43,6%. А няпоўная сям'я ў беларускіх рэаліях — гэта амаль заўсёды маці-адзіночка, якая выхоўвае аднаго або некалькі дзяцей.

**Статыстыка сведчыць, што з'яўленне дзяцей у два разы павялічвае для сям'і рызыку апынуцца за рысай беднаты. Да таго ж сёння кожнае чацвёртае дзіця выхоўвае маці-адзіночка. Расце колькасць разведзеных сем'яў, у Беларусі яна дасягае 50%, а сярод маладых сем'яў лічба даходзіць да 70%**

### Пастка беднасці

Важны момант беднасці па-беларуску: у краіне вельмі часта бедныя людзі — не алкаголікі, бамжы, наркаманы і іншыя маргіналы. Ніжэй за рысу беднаты апускаюцца людзі, якія не проста маюць працу, але і выконваюць яе цалкам добрасумленна. Проста эканамічная сістэма ў краіне выбудаваная такім чынам, што добрасумленная праца зусім не гарантуе не тое што багацця, але нават забяспечанага жыцця. Чыннікаў таму шмат: засілле службоўцаў, негатыўнае стаўленне да прадпрымальніцтва, адсутнасць сацыяльных ліфтаў, агульная стратнасць большасці прамысловых прадпрыемстваў (асабліва ў правінцыі) і ўсёй сельскай гаспадаркі.



Другі вельмі важны аспект беларускай беднасці — тэрытарыяльны. Амаль усе раёны Беларусі з'яўляюцца датацыйнымі. А менавіта: з 118 раёнаў рэспублікі 115 атрымліваюць датацыі, з іх у 53 раёнах аб'ём датацый перавышае 50% прыбытковай часткі іх бюджэту. Гэта значыць, за межамі сталіцы і абласных цэнтраў прыбытковых прадпрыемстваў амаль няма.

І гэта адзін з чыннікаў, чаму ў беларускіх умовах жанчына-правінцыялка сярэдняга веку, якая выхоўвае дзяцей, практычна непазбежна трапляе ў «пастку беднасці». Там, дзе яна жыве, яна можа разлічваць толькі на нізкі прыбытак, звычайна на мяжы пражытковага мінімуму (а тое і ніжэй). Каб падвысіць свой прыбытак, ёй трэба альбо падняць сваю кваліфікацыю (або змяніць яе) праз дадатковае навучанне, альбо пераехаць у іншы рэгіён. А часцей за ўсё — зрабіць і тое, і іншае.

Але ў нас гэта звычайна аказваецца немагчыма. Пры наяўнасці дзяцей змяніць месца жыхарства — занадта дорага. Напрыклад, у звычайнай вёсцы Гродзенскай вобласці сярэдняя вясковая хата з зямлёй каштуе каля $1500. Гэта значыць, прадаўшы сваю вясковую хату, сям'я зможа здымаць кватэру ў Мінску 3–4 месяцы, у абласным цэнтры — каля паўгода. Зразумела, што рашыцца на такую авантуру мала хто гатовы.

Прайсці навучанне таксама складана. Па-першае, навучальныя курсы, на якіх можна атрымаць запатрабаваную прафесію, засяроджаныя ў сталіцы і буйных гарадах. Гэта значыць, пераезд (хай і часовы) усё роўна неабходны. Па-другое, на навучанне патрэбныя дадатковыя грошы. Пры наяўнасці дзяцей і адзінай працы, без магчымасці дадатковага працаўладкавання (і часу на яго), жанчына не можа вылучыць са свайго бюджэту неабходныя на (пера)навучанне сродкі. А значыць, не можа і падняць свой прыбытак. Замкнёнае кола.

У гэтым плане мужчынам, асабліва без дзяцей, нашмат лягчэй — у іх вышэй і мабільнасць, і прыбыткі.

# Фантазія супраць нянавісці

Сяргей ПУЛЬША

**Дні Германіі ў Беларусі адкрыліся ў Мінску незвычайнай імпрэзай. Пасольства ФРГ парадавала ўсіх аматараў мастацкага слова «літаратурным калажам».**



Заснавальнік і мастацкі кіраўнік праекта «Элізіум», лаўрэат прэміі Нью-Ёркскага тэатральнага клуба Грэгары фон Лейціс чытаў тэксты вязняў Тэрэзіенштату — канцлагера ля чэшскага гораду Тэрэзін — Алісы Герц-Зомер, Георга Кафкі, Паўля Арона Зандфорта, Леа Штраўса, Віктара Ульмана і Ільзы Вэбер. Седзячы за паўцёмным сталом перад на дзіва вялікай аўдыторыяй (арганізатарам давялося нават дастаўляць крэслы ў канферэнц-залю Міжнароднага адукацыйнага цэнтра, дзе праходзіла мерапрыемства), ён нагадваў ці то гісторыка, ці то архівіста, да якога патрапілі надзвычай важныя дакументы. І поўнасцю завалодаў увагай публікі на ўвесь час свайго выступу.

Няшмат хто з беларускай публікі валодае нямецкай мовай. Таму напачатку калажу Міхаэль Лар, дырэктар праграм «Элізіум», зрабіў невялічкія «ўводзіны ў тэму».

Тэрэзіенштат быў транзітным лагерам для габрэяў з пратэктаратаў Багемія і Маравія. Пасля Ванзейскай канферэнцыі 1942 года ён быў ператвораны ў «ідэальнае гета», у якое адпраўлялі, у прыватнасці, вядомых прадстаўнікоў габрэйства і творчую эліту. Гэтае месца было прапагандысцкім інструментам для маскіроўкі захадаў па «канчатковым вырашэнні габрэйскага пытання». Таму нацысты на некаторы час далі вязням Тэрэзінскага гета пэўныя прывілеі: напрыклад, магчымасць займацца мастацтвам, ладзіць чытанні, канцэрты, тэатральныя пастановы і нават кабарэ. У Тэрэзіенштат улетку 1944 года нават была запрошаная дэлегацыя Міжнароднага Чырвонага Крыжа.

Аднак за гэтай шырмай працягваў няўмольна і сістэматычна працаваць механізм Халакоста: са 140 тысяч габрэяў, змешчаных у Тэрэзіенштат, каля чвэрці памерлі тут жа ад голаду і хвароб, няякаснага харчавання, антысанітарыі і знясілення. 88 тысяч былі адпраўленыя чыгункай на ўсход, у лагеры смерці.

Халакост для беларусаў бліжэй, чым мы думаем: частка з вязняў Тэрэзіенштату выправілялася ў Мінск, дзе гінула ў Трасцянцы ды іншых лагерах смерці на тэрыторыі Беларусі.

Зразумела, тэма Халакосту балючая для немцаў. Але гэтыя чытанні — не пра тое. Дакладней, не толькі пра тое, тлумачыць Грэгары фон Лейціс.

**Радуе, як маладыя людзі ўліваюцца ў нашу атмасферу, ператвараюцца ў паўнавартасных слухачоў. Для іх гэта становіцца асаблівай каштоўнасцю, нечым незвычайным**

— На самай справе, у калажы ідзе размова не толькі і не столькі пра Халакост. На першым плане — моц, што была ў людзей, якія былі змешчаныя ў такія ўмовы. Сваёй мастацкай фантазіяй, творчай сілай, стваральнай энергіяй яны абвяргалі заявы нацыстаў, што габрэі — недачалавекі, і таму няздольныя тварыць культуру. Людзі мастацтва, якія апынуліся вязнямі Тэрэзіенштату, Тэрэзінскага гета, супрацьстаялі чалавеканенавісніцкай ідэалогіі нацызму сваім спосабам. І я лічу, што створаныя імі тэксты сёння могуць стаць для нас крыніцай сілы і мужнасці, неабходных, каб спыніць спіраль нянавісці, гвалту і разбурэння.

Варта звярнуць увагу на назву калажу: «Нянавісць — гэта адсутнасць фантазіі». Зноў жа, размова ідзе не пра Халакост як пра саму з'яву. Тэма і вызначае ўсё гэтае мерапрыемства. Калі ў чалавека адсутнічае фантазія — ён проста пачынае ненавідзець.

Зразумела, тут размова ідзе і пра канкрэтных асобаў, і не толькі з Тэрэзіенштату, але і з Асвенцыма, іншых канцэнтрацыйных лагераў, якія перажылі той час… З некаторымі з іх я меў асабістае знаёмства, як, напрыклад, з Алісай Герц-Зомер, са спадаром Зандфортам, і таму прадстаўляць слухачу іх і іх тэксты — для мяне яшчэ найбольшая цікавасць.

***— Паўсюдна чуваць наракання, што людзі сталі менш чытаць, менш слухаць, і бавяць час не за кнігамі, а ў кампутарах, планшэтах, смартфонах… На вашу думку, сама форма літаратурнага калажу зараз актуальная?***

— У першую чаргу тут ідзе размова пра мову як пра спосаб перадачы і захавання інфармацыі. Малюнкамі і выявамі нельга перадаць усяго таго, што адбывалася ў Тэрэзіенштаце. Музыка — так, гэта асаблівая форма, яна перадае пэўныя эмоцыі, эстэтыку: напрыклад, творы Віктара Ульмана, аднаго са зняволеных гэтага лагеру. Але ўсё ж такі мова — з'ява больш канкрэтная.

Я бачу ў гэтым пэўную каштоўнасць — калі нешта зачытваецца ўслых. Такое зараз не часта пабачыш. На самай справе, мы атрымлівалі вельмі шмат добрых водгукаў наконт такога мерапрыемства, калі на працягу гадзіны проста чытаюцца тэксты. Чытанне ўслых мае нават іншы эфект, чым той, калі б чытач заставаўся сам-насам з сабою і з гэтымі тэкстамі.

На мінулым тыдні мы правадзілі гэты «літаратурны калаж» у Празе. Там прысутнічалі людзі, якія нават не вельмі добра валодалі нямецкай мовай. Але, дзякуючы таму, што там былі прэзентацыя, уступнае слова, невялічкая справаздача перад выступам, гледачы ўсё роўна здолелі адчуць праблематыку і атмасферу выступу.

Мяне вельмі кранула тое, што напрыканцы мерапрыемства ў Празе ўстала адна жанчына, якая распавяла, што яна сама — былая зняволеная канцлагеру. У яе былі слёзы на вачах, было бачна, што яна вельмі расчуленая. Для мяне гэта было вельмі кранальна. І пасля таго, як тая жанчына сказала нам словы падзякі, нас запрасілі ў Прагу на наступны год.

Таксама варта адзначыць, што гэтая форма не пакідае людзей абыякавымі. Аж да таго, што ў нас ужо ёсць паслядоўнікі. Да прыкладу, оперы Віктара Ульмана паказваюцца ў Нью-Ёрку — пасля таго, як мы іх туды прывезлі.

Гэтая форма выступу — яна сапраўды вельмі асаблівая, яна вельмі рэдка выкарыстоўваецца. Але мы яе абралі для нашага мерапрыемства і яе мы прытрымліваемся ўжо два гады.

***— Чытаючы тэксты, вы трымаеце ўвагу слухачоў на працягу гадзіны — зала літаральна баялася ўздыхнуць. Для такога патрэбны зайздросны акцёрскі талент…***

— Па адукацыі я рэжысёр. Але мяне навучалі яшчэ па старой схеме, старых традыцыях адукацыі. Таму ў час навучання на рэжысёра я вывучаў і акцёрскае мастацтва. Увогуле, я лічу, што, калі рэжысёр чагосьці патрабуе ад акцёра, ён у першую чаргу сам павінен умець тое, чаго ён патрабуе.

Апроч таго, усе тэксты, якія зачытваюцца падчас літаратурнага калажу, мяне глыбока хвалююць. Гэта для мяне аграмадная асалода і радасць чытаць і прадстаўляць іх.

***— Улічваючы меркаванне пра «слабую начытанасць» сённяшняй публікі, ці не ўзнікала жаданне зрабіць нешта больш нагляднае? Можа, тэатралізаваную пастаноўку?***

— Зменшага, падчас чытання мне казалі (бо я ж сабе не бачу, калі чытаю тэксты), што «расказвае» не толькі мова, але і цела, жэсты, міміка. Таму, нават калі на чытаннях прысутнічаюць тыя, хто не валодае нямецкай мовай, яны ўсё роўна разумеюць, пра што ідзе размова.

Канешне, усё нашмат прасцей, калі людзі разумеюць мову, на якой праводзіцца мерапрыемства, бо тады мы адразу бачым іх рэакцыю. Напрыклад, у нас частка выступу складаецца з твораў Леа Штраўса, які ў Тэрэзінскім гета працаваў у стылі кабарэ. Ягоныя творы, часцяком, з такім чорным гумарам. І, калі людзі разумеюць мову, яны рэагуюць адразу ж. Калі ж мерапрыемства ў перакладзе, то, канешне ж, узнікае затрымка: гэта крыху ўскладняе ўспрыманне, перш за ўсё, для слухача.

Так, выступы ў аўдыторыі, якая не валодае маёй мовай, калі я знаходжуся ў краіне, дзе людзі не разумеюць маёй мовы, а я не разумею іх, патрабуе агромністай канцэнтрацыі і намаганняў.

Тым не менш, перад самым выступам спадар Лар прадстаўляе невялічкі тэкст з тлумачэннем тэмы.

***— Такая форма, як «літаратурны калаж», на вашае меркаванне, на каго разлічаная? На больш дасведчанага, элітарнага гледача? Як вы ацэніце сваю аўдыторыю?***

— Насамрэч, гэтае мерапрыемства кранае кожнага чалавека. Перш за ўсё, мы арыентуемся на маладых людзей, якія незнаёмыя з гэтай гісторыяй, якія не перажывалі яе. Праз мову, праз пачуцці можна перадаць шмат. Таксама ўводзіны, якія прадстаўляе спадар Лар, разлічаныя не на «эліту», а на кожнага чалавека, каб пазнаёміць яго з тэмай.

Увогуле, я не ўкладаю нейкага адмоўнага сэнсу ў слова «эліта». На маю думку, эліта — гэта тыя людзі, якія асэнсоўваюць сваю адказнасць у гэтым свеце. Не «грашовая эліта», а менавіта людзі адказныя. На маю думку, такой эліты зараз вельмі не хапае ў свеце.

Сацыяльныя сеткі — гэтыя новыя формы стасункаў, якія на нас у апошні час абрынуліся — гэта таксама праблема. З-за іх цяжэй стала ўтрымліваць увагу гледача. Гэта тычыцца не толькі такіх фармаў, як чытанне, літаратурны калаж, але і тэатра. Больш цяжка ўтрымаць увагу гледача, каб ён не палез у тэлефон, каб зайсці ў Фэйсбук альбо нейкую іншую сацыяльную сетку.

***— Сапраўды, у моладзі зараз «кліпавае мысленне». Яны лягчэй успрымаюць кароткія тэксты, візуальную інфармацыю. Гэта дадае праблемаў?***

— Насамрэч, з такой праблемай мы не сутыкаліся. У нашым гледачы мяне здзіўляе і захапляе, што, найперш, маладыя людзі, студэнты, выяўляюць інтарэс да такіх мерапрыемстваў, шукаюць нашы кантакты, каб звязацца з намі, каб выйсці з намі на сувязь.

Канешне, перад пачаткам мерапрыемства мы просім усіх выключыць мабільныя прылады. Аднак радуе, што мы заўважаем, як студэнты, маладыя людзі, якія прыходзяць на нашы мерапрыемствы, уліваюцца ў нашу атмасферу, ператвараюцца ў паўнавартасных слухачоў. І мне падаецца, што для іх гэта становіцца асаблівай каштоўнасцю, гэты час для іх ператвараецца ў нешта выключнае, незвычайнае. Калі першапачаткова яны прыходзяць стасавацца, кавы папіць, дык пасля пачатку чытання — яны поўнасцю і цалкам тут, іх увага цалкам належыць нам. І ўсё астатняе адыходзіць на другі план.

***— Вы ўжо казалі, што выступалі з «літаратурным калажам» у Празе. А дзе яшчэ вы выступалі, і ці адрозніваецца публіка розных краінаў?***

— Акрамя Чэхіі з гэтай праграмай мы былі ў Літве, Латвіі, Мюнхене, Берліне, Нью-Ёрку. Мы зараз працуем і над новай праграмай, якая з'явіцца ўжо ў кастрычніку гэтага года пад назвай «Віктар Франкл кажа аб жыцці». Я лічу, што гэтая праграма будзе мець асаблівае значэнне для маладога пакалення.

Віктар Франкл — вязень Асвенцыму, стваральнік логатэрапіі. Прэм'ера гэтай праграмы адбудзецца ў Нью-Ёрку, і, спадзяюся, што з ёю мы наведаем і Беларусь.

Новы час | 23 верасня 2016 | № 36 (501) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9



# Літаратурная Беларусь

Выпуск №9 (121)
(верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

**Змест**





# У віры быцця

## Да 85-годдзя Ніла Гілевіча

**Высокі, хударлявы, прамы. Такім я ўбачыў Ніла Гілевіча, калі, паступіўшы на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, пазнаёміўся з ім, старшакурснікам. Ён сам падышоў да мяне і нешта ўхвальнае сказаў пра мае вершы ў «Полымі»...**

Вершы Ніла Гілевіча (студэнцкія і нестудэнцкія) друкаваліся як у нашай універсітэцкай газеце, так і ў розных рэспубліканскіх выданнях. А потым увайшлі ў яго першы паэтычны зборнік «Песня ў дарогу», які адкрываўся такімі зазыўнымі радкамі:

*Калі не жадаеце знацца ў жыцці*
*З назойлівай скрухай-журбою —*
*Куды б ні прыйшлося паехаць,*
*пайсці,*
*Песню бярыце з сабою!..*

Не маглі пакінуць чытача абыякавымі і новыя кнігі Ніла Гілевіча, у якіх паэт выказваў не толькі найбольш хвалюючае сваё, асабістае, але і наша агульнае, тое, што турбавала і турбуе ўсіх.

Перагортваю аднатомнік выбраных твораў Ніла Гілевіча ў нашай «залатой» серыі «Беларускі кнігазбор». Аўтар уключыў сюды ўсё самае-самае са сваёй больш чым паўвекавой творчасці.

Самы большы раздзел у томе — натуральна, паэзія.

Што мне найбольш блізкае, вабнае тут, сугучнае душы, — гэта вершы пра яго родную вёску, пра сыноўнюю любоў да «старонкі мілае». Як і ўсе мы, Ніл Гілевіч мусіў некалі пакінуць сваю хату, каб выправіцца ў шырокі свет. Ды «бацькоўскі куток», край маленства застаўся з ім як самае дарагое ў свеце назаўсёды.

Любоў да сваёй зямлі, да Беларусі, як мне здаецца, ёсць тое галоўнае, што вадзіла і водзіць пяром паэта. Ад яе, ад гэтай вялікай любові — яго нязбытны боль за ўкрадзеную чужынцамі волю народа:

*Чужое, разбойнае, хамскае*
*Гвалтуе, дратуе, таўчэ,*
*А роднае, свойскае, наскае*
*Бязмоўна ярмо валачэ.*

Вершы Ніла Гілевіча — своеасаблівы дзённік паэта, гарачы выказ усяго таго, што яго хвалюе і трывожыць. Гэта застанецца ў гісторыі як жывое сведчанне нашага часу.

Многа добрага хацелася б сказаць і пра паэмы Ніла Гілевіча. Мне асабліва блізкія яго «Заручыны» і «Лодачкі», узятыя з самога жыцця, яшчэ з яго роднай Слабады. Апошняя напісана сэрцам, з дзяцінства параненым сэрцам. Паэма пра нялёгкі паваенны час, калі ўсім нам, дашчэнту згалелым за вайну, прыйшлі на дапамогу простыя амерыканцы, прысылаючы ўсё самае неабходнае з адзення і абутку. Помніцца, і мне дастаўся тады хвацкі рудаваты фрэнчык (цяпер яго называюць пінжак), які я насіў усе школьныя гады. Шматдзетнай сям'і Гілевічаў выдзелілі размеркавальнікі гожыя, зусім новенькія «лодачкі». Меркавалася аддаць іх, як падрасце і падыдуць па назе, сярэдняй Нілавай сястры Ідзеі. І яна была ад гэтага на сёмым небе. Ніл (ён не надзяваў тут маску «лірычнага героя») бачыў, як сястра ўпотайкі даставала з куфра і, прымяраючы на нагу, любавалася імі. Ды як жа было не залюбавацца, не засвяціцца ад іх радасцю:

*Без засцежак, без банцікаў,*
*без строчак,*
*З абцасікамі, выгнутымі пекна,*
*З люстрана-чорнай*
*натуральнай скуры,*
*Знутры — усцеленыя гладкай*
*сцелькай,*
*З падэшаўкамі, слізкімі, як шкло…*

Але ў сям'і былі свае разлікі. Ніл Гілевіч, закончыўшы школу, ужо збіраўся ехаць на вучобу ў Мінск. Толькі як ехаць у сталіцу ў зрэбных портках? Патрэбны людскія штаны. А купіць іх не было за што. І маці знаходзіць адзінае выйсце: прадаць тыя лодачкі і набыць сыну штаны. Даручыла зрабіць усё гэта яму самому. І хлопец паехаў на рынак. «Бязбожны, чэрствы, подлы эгаіст» — кляне цяпер у паэме самога сябе за тое Ніл Гілевіч. Тое, што зрабіў нядобра, прадаўшы лодачкі, ён зразумеў, калі вярнуўся дадому. Ступіўшы на парог хаты, адразу ўбачыў, што нарабіў бяды. Яго сястрыца Ідзея зашылася ў пуню і, як расказала маці, цэлы дзень залівалася там слязьмі. Засмучаны брат пайшоў да яе павініцца і суцешыць. Ды гэта было не проста. «Ты злодзей! Злодзей!.. Ты ўкраў іх у мяне!» Павініўшыся і трохі яе супакоіўшы, ён спытаў: «А ведаеш, каму я іх прадаў?» Дзяўчынка ўмомант перастала хліпаць: каму ж дасталіся «лодачкі»? Хлопец падрабязна расказаў пра тую гожую, «як прынцэса», паненку. Братаў расказ ашаламіў Ідзею. Яна толькі ўпотайкі пачынала сніць пра каханне, а тут во родны брат — яна гэта ўбачыла з яго расказу — узяў ды закахаўся! Дзяўчынка толькі занепакоілася, ці ён знойдзе яе.

> **Літаратура — гэта праўдзівае поле бою Ніла Гілевіча, на якім ён больш чым паўвека ваяваў за Беларусь**

*— Знайду! Не бойся!..*
*—Чакай!.. А мне ты скажаш,*
*калі знойдзеш?*
*— Скажу. — І пазнаёміш нас? —*
*А як жа!*
*— Ой, як я рада! — Ну хадзем!*
*Хадзем!*

*— Чакай… Скажы, а я, —*
*і ледзь не шэптам*
*Спытала: — Я таксама*
*калі-небудзь?..*
*— Што — калі-небудзь? —*
*не адразу ўцяміў,*
*Аб чым яна. Пачырванеўшы*
*страшна,*
*Яшчэ цішэй сястрыца*
*прашаптала:*
*— Мяне таксама нехта...*
*пакахае?*
*— А як ты думала! Абавязкова!..*
*Яна мільгом саскочыла з рызаўкі*
*І, паглядзеўшы ў вочы мне, сказала:*
*— Я не злуюся ўжо, такой бяды!*
*Адно каб толькі ты спаткаўся з ёю...*

Значнай падзеяй у літаратурным жыцці Беларусі было і з'яўленне рамана ў вершах Ніла Гілевіча «Родныя дзеці». Мне асабліва хочацца чытаць-перачытваць (часта ўголас) яго бездакорныя, моцна збітыя, літыя строфы, яго чыстую беларускую літаратурную мову. Пачытайце, беларусы-адшчапенцы, як хораша, як мілагучна яна льецца-пераліваецца!

У пракруставa ложа згаданага вышэй «кнігазбораўскага» тома мы, на жаль, не змаглі ўключыць яшчэ шмат чаго з творчага набытку Ніла Гілевіча, вартага нашай «залатой» серыі. Скажам, яго выдатныя сатырычныя і гумарыстычныя творы, яго не менш дасціпныя драматычныя рэчы. Можна б было шырэй даць тут і яркую дакументальную прозу паэта.

Літаратура — у яе самых розных жанрах — гэта праўдзівае поле бою Ніла Гілевіча, на якім ён больш чым паўвека ваяваў за Беларусь. Не збіраўся пакідаць яго і на дзявятым дзясятку жыцця. Пра гэта сведчыць апублікаваная ў часопісе «Дзеяслоў» (№ 6 за 2015 год) яго новая, вельмі дасціпная сатырычная паэма «Сходка нячысцікаў». А таксама вельмі актуальныя паўсядзённыя запісы паэта пад агульнай назвай «У віры быцця», у якіх аўтар востра і палемічна выказваецца пра ўсё, што яго хвалюе, што трывожыць і абурае. Ва ўсе званы б'е Ніл Гілевіч, каб абудзіць ад зацяжной спячкі беларуса, які не бачыць, як пад шалёным напорам русіфікацыі гіне яго мова. А калі гіне мова — гіне народ, гінем мы як нацыя, гінем без вайны. «Бо гінем, дарагія мае, гінем! — даводзіць нам у застыглыя мазгі народны паэт. — Калі не возьмемся ратаваць сябе — згінем. Бо народ жыве, пакуль жыве яго мова... Не разумець гэта могуць толькі прымітыўныя недарэкі і тупіцы. Будзем глядзець праўдзе ў вочы: нашу мову свядома душаць, вынішчаюць. Падкрэсліваю: свядома. У сваіх эгаістычных мэтах».

Ці пачуюць беларусы свайго паэта? Ці зразумеюць, якая вялікая небяспека навісла над усімі намі?

**Кастусь Цвірка**

# Падляшскі беларускі трыялог

**Чарговы Беларускі Трыялог адбыўся ў Крынках на Беласточчыне.**

Удзельнікі — а гэта літаратары, тэолагі, святары ды іншыя зацікаўленыя асобы — дыскутавалі на тэму «Ці разумее Бог па-беларуску».

Барыс Пятровіч даў такі адказ:

— На гэта адназначна адказаў сам Скарына, калі пераклаў на беларускую мову Біблію. Значыць, была патрэба ў гэтым, значыць, Бог захацеў, каб беларусы разумелі яго менавіта па-беларуску. Не праз лацінскую мову, не праз польскую ці стараславянскую, а менавіта праз беларускую…

Трыялог у Крынках прайшоў у 17-ты раз. Гэтае мерапрыемства ў свой час запачаткаваў выбітны беларускі і польскі пісьменнік і публіцыст Сакрат Яновіч, а цяпер справу працягвае Фонд «Villa Sokrates».

Сёлетнія сустрэчы завершыліся музычнымі выступамі. Гурт «Re1ikt» і Сяргей Доўгушаў, між іншым, прэзентавалі некалькі песень, сабраных у Брагінскім раёне Беларусі, а гурт «Port Mone» выступіў супольна з падляшскім творцам і музыкам Юркам Асеннікам.

Беларусы да гэтага часу не маюць паўнавартаснага перакладу ўсёй Біблії на беларускую мову. Хоць нашая нацыя пачала гэта працэс адной з першых у гісторыі, але так яго і не завершыла. Пра гэта ў часе «Беларускага Трыялогу» ў Крынках гаварыла бібліст і філосаф, акадэмічны дырэктар Беларускага калегіюма Ірына Дубянецкая:

— Пакуль што мы не маем, праца ідзе, але гэта праца складаная, марудная, спецыялістаў мала, каб сапраўды раскідаць на вялікую колькасць людзей, то можна было б хутка зрабіць. Калі гэта 4–5 чалавек, то 4–5 чалавек будуць перакладаць 20 гадоў, каб сапраўды зрабіць якасна…

Ірына Дубянецкая адзначыла, што ранейшыя пераклады Біблії — Станкевіча, Сёмухі, Чарняўскага — кожны па-асобку не выконвае ўсіх патрабаванняў, у тым ліку патрабаванняў часу. Яна расказала, што гатовыя пераклады асобных кніг, у тым ліку нядаўна пабачыў свет пераклад на беларускую мову «Псалтыра» Аляксандра Надсана. Беларуская праваслаўная царква таксама завяршае свой пераклад Новага Запавету.

Беларуская мова загучыць у гарадзенскім Свята-Пакроўскім кафедральным саборы 4-га верасня. Такім чынам тут плануюць адзначыць Дзень беларускага пісьменства. Пра гэта ў час Трыялогу расказаў настаяцель сабора айцец Георгій Рой. На думку святара, мова вельмі важная ў рэлігійным жыцці чалавека:

— Бог не толькі разумее кожную мову, але і патрабуе ад нас звяртацца да яго на тых мовах, якія ён даў кожнаму народу. І таму мы, хрысціяне, нягледзячы на тое, да якой канфесіі належым, павінны ў нашай хрысціянскай традыцыі захоўваць мову нашага народа. І калі мы гэтага не робім, то, я лічу, гэта наш грэх перад Айцом сусветаў.

Айцец Георгій Рой таксама закрануў тэму перакладаў рэлігійных тэкстаў, у тым ліку Біблії. На яго думку, варта, каб быў адзіны калектыў аўтараў-перакладчыкаў, што дазволіць пазбегнуць рознагалоссяў. Самі ж вернікі да беларускай мовы ў набажэнствах ставяцца «спакойна і з разуменнем», адзначыў святар.

**Паводле racyja.com**

# 12% беларускамоўнай літаратуры…

**Першы намеснік міністра інфармацыі Ігар Луцкі паведаміў на прэс-канферэнцыі, што ў першай палове гэтага года на беларускай мове выпушчана 541 найменне кніг і брашур накладам 1,6 млн. асобнікаў.**



Усяго за першае паўгоддзе 2016-га ў Беларусі выдалі 4672 найменні кніг і брашур накладам прыкладна 11 млн. асобнікаў. Такім чынам, доля беларускамоўнай літаратуры ў агульным аб'ёме выдадзенай прадукцыі склала ўсяго 11,6% — па назвах, 15,4% — па накладзе, паведаміла БелаПАН.

Па словах І. Луцкага, калі параўноўваць з першым паўгоддзем мінулага года, то за першыя шэсць месяцаў 2016-га колькасць найменняў выдадзеных кніг і брашур знізілася прыкладна на 10%, хоць агульны наклад вырас амаль на 4%.

У той жа час наклады выдавецтваў, падпарадкаваных Міністэрству інфармацыі, сярод якіх «Беларусь», «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», «Вышэйшая школа», «Мастацкая літаратура», «Народная асвета», выдавецкі дом «Звязда», знізіліся на 12, 7% — да 841 тыс. асобнікаў, хоць колькасць найменняў літаратуры практычна не змянілася і склала 220 кніг і брашур.

# Алексіевіч — у Кітаі

**Святлана Алексіевіч атрымала самую прэстыжную кітайскую літаратурную прэмію — «Вэньцзінь» (Wenjin).**




Пісьменніцу-набелянтку ўзнагародзілі ў Пекіне. Гэта самая прэстыжная літаратурная ўзнагарода ў Кітаі. Яна была запачаткаваная Нацыянальнай бібліятэкай краіны ў 2004 годзе.

Узнагарода прысуджаецца найлепшым кнігам у трох намінацыях: дзіцячая, сацыяльная й навукова-папулярная літаратура.

Пасля цырымоніі ўручэння прэміі Святлана Алексіевіч сустрэлася з культавым кітайскім пісьменнікам, лаўрэатам прэміі Франца Кафкі ў 2014 годзе, фіналістам прэміі Букер Янь Лянкэ, а таксама лаўрэатам Нобелеўскай прэміі 2012 года пісьменнікам Мо Янем.

Апрача прэміі «Вэньцзінь», пісьменніца ў Кітаі атрымала прэмію Шанхайскага кніжнага кірмашу і ўзнагароду Пекінскага кніжнага кірмашу.

На кірмашы ў Шанхаі прэзентавалася ў кітайскім перакладзе апошняя кніга Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд». Агенцтва «Сіньхуа» паведаміла, што натоўп ахвочых атрымаць аўтограф пісьменніцы быў настолькі вялікі, што арганізатарам давялося выкарыстаць дадатковыя сілы праваправапарадку, каб авалодаць сітуацыяй. Сама пісьменніца скараціла свой выступ да 15 хвілін, каб мець больш часу для падпісвання кніг.

Летась у кітайскіх перакладах выйшлі тры іншыя кнігі Святланы Алексіевіч: «Чарнобыльская малітва», «Цынкавыя хлопчыкі» і «У вайны не жаночы твар».

Падчас побыту ў Шанхаі Святлана Алексіевіч дала інтэрв'ю найбуйнейшай кітайскай газеце «Жэньмінь жыбао», дзе сярод іншага сказала: «Калі кажуць, што чалавек — гэта пясчынка, то сотні людзей — гэта гісторыя. Бальшыні звычайных людзей цяжка выказаць сябе, я ўзмацняю іх голас, каб іх пачулі ўсе. І хоць па іх не застаецца следу, яны ўваходзяць у гісторыю… Аднойчы нехта спытаўся ў Радэна, як ён робіць свае скульптуры, і ён адказаў: "Я змагаюся з каменем". Я змагаюся з часам — збіраю рэшткі забытых жыццяў, чышчу, палірую іх і ствараю з іх мастацтва».

**Паводле baj.by**

# Юбілей Генадзя Бураўкіна

**6 верасня адбыліся дзве сустрэчы, прымеркаваныя да 80-годдзя паэта, у якіх узялі ўдзел мінскія і віцебскія пісьменнікі, а таксама ўдава Генадзя Бураўкіна Юлія Якаўлеўна.**



Была прэзентаваная кніга ўспамінаў пра творцу «Перадусім Беларусь», якая выйшла ў серыі «Кнігарня пісьменніка».

З Мінска на мерапрыемствы завіталі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, першы намеснік СБП Алесь Пашкевіч, укладальнік выдання Сяргей Шапран, паэты Міхась Скобла і Усевалад Сцебурака.

Першая сустрэча адбылася ва ўтульнай атмасферы Літаратурнага музея Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. Машэрава. Госці разам з выкладчыкамі і студэнтамі філалагічнага і гістарычнага факультэтаў узгадалі старонкі біяграфіі Генадзя Мікалаевіча, пачулі з вуснаў блізкіх сяброў гісторыю апошніх дзён жыцця паэта і паслухалі яго вершы. Далучыліся да сустрэчы літаратары Уладзімір Папковіч, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СБП Анастасія Лазебная. Вядучай была выкладчыца і кіраўніца літаратурнага музея Ірына Саматой.

Госці перадалі ў фонд музея новыя кнігі, датычныя славутых пісьменнікаў віцебскага краю: дзённікі Рыгора Барадуліна, тамы з поўнага збору твораў Васіля Быкава, кнігу ўспамінаў пра Генадзя Бураўкіна «Перадусім Беларусь» і дыскі з жывымі галасамі беларускіх паэтаў.

На вялікую сустрэчу ў Віцебскай абласной бібліятэцы сабралася больш за сто неабыякавых месцічаў, сярод якіх была і моладзь, і людзі сталага веку — сябры, знаёмцы і прыхільнікі славутага земляка.

Да выступаў гасцей з Мінска далучыліся народная артыстка Рэспублікі Беларусь Святлана Акружная, паэт Міхась Міранoвіч, кіраўнік Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Іосіф Навумчык.

Надзвычай цікавым стаў расповед Сяргея Шапрана аб працы над апошнім прыжыццёвым зборнікам вершаў Бураўкіна «Нагаварыцца з зоркамі» і прэзентаванай віцебскай публіцы кнігай успамінаў пра паэта «Перадусім Беларусь». Абодва выданні пабачылі свет у рэкордна сціслыя тэрміны дзякуючы плённай і напружанай працы Сяргея Шапрана, Юліі Бураўкінай, Уладзіміра Някляева, а таксама Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Міхась Скобла ў сваёй прамове заклікаў жыхароў Віцебска праявіць ініцыятыву ды настойлівасць і звярнуцца да ўладаў горада з просьбай аб наданні вуліцам і плошчам імёнаў славутых землякоў — без пераболынання класікаў беларускай літаратуры — Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна.

На імпрэзе прагучалі песні на словы Генадзя Бураўкіна «Завіруха» ў жывым выкананні Аляксандры Гвоздзевай, прагучала таксама «Мама» вядомага беларускага барда Змітра Вайцюшкевіча.

# Прэмія імя Гедройца

**Абвешчаны шорт-ліст самай прэстыжнай у Беларусі літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца.**

Як паведаміў афіцыйны сайт прэміі, у лік шасці лепшых выданняў мінулага года ўвайшлі шэсць кніг, сярод якіх (у алфавітным парадку):

- Андрэй Адамовіч. Таўсцідла і лешч. — Вільня: «Логвінаў».
- Валянцін Акудовіч. Прачнуцца ранкам у сваёй краіне. — Вільня: «Логвінаў».
- Альгерд Бахарэвіч. Белая муха, забойца мужчын. — Мінск: «Галіяфы».
- Алесь Пашкевіч. Рух. — Мінск: «Кнігазбор».
- Таня Скарынкіна. Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі. — Вільня: «Логвінаў».
- Макс Шчур. Завяршыць гештальт. — Тэрнопаль: «Крок».

Абвяшчэнне і ўшанаванне пераможцы(-аў) сёлета мелася адбыцца ў чэрвені, але ў пачатку лета быў абвешчаны толькі доўгі спіс прэміі.

# Хлебны пах

## Раздзел з кнігі «Згадкі Вогненнага Пса»



Сяргей ЗАКОННІКАЎ

**Адзін з самых светлых успамінаў маленства — гэта дні, калі мама пякла хлеб.**

Цяпер такіх святаў у беларускіх хатах і тым больш у кватэрах няма. У гарадскіх булачных і крамах можна набыць боханы, батоны, ражкі, сайкі, плюшкі, печыва самага разнастайнага гатунку. Дый у вёсках, хоць часам яго завозяць у магазіны з перабоямі або ў далёкую глыбінку на аўталаўцы толькі два разы на тыдзень, купіць хлеб не такая ўжо праблема. А таму навошта яго пячы самім?

Мне могуць нагадаць яшчэ, што тэхнічная база нашых кухняў вырасла, ёсць магчымасць вырабляць хлеба-булачную прадукцыю ў хатніх умовах. Згодзен, але выпечка гаспадынямі час ад часу пірагоў, булачак, пончыкаў на газавых або электрычных плітах, у іншых прыладах не ідзе ні ў якое параўнанне з тым маміным чарадзействам ля сапраўднай вясковай печы-царыцы. Яго выніку чакала ўся мая істота. Чакала не толькі таму, што пастаянна хацелася есці. Мяне захапляла ўсведамленне сваёй далучанасці да фантастычна цудоўнай працы, бо ў яе працэсе атрымліваў ад мамы дробныя заданні.

Было тады, што добра помніцца, халодна і галодна. У нашым партызанскім краі ў час дзвюх смяротных блакадаў фашысцкія карнікі выпалілі амаль усё да попелу. Не паспелі людзі вылезці з затхлых, халодных зямлянак у больш-менш прыдатнае жытло, як прыйшла новая бяда: на пасляваенныя гады выпаў неўрод. Шмат жабракоў з Украіны і з Расіі, а таксама сваіх гаротнікаў хадзіла тады па дарогах Беларусі.

У лютым 1946 года (год майго нараджэння) І. Сталін звяртаецца да насельніцтва з заклікам зацягнуць тужэй паясы —«на две-три пятилетки, если не более». Куды людзям дзецца? Зацягнулі паясы, амаль да хрыбта. А бліжэй да восені пачаўся новы галадамор ва Украіне, у Малдавіі і на поўдні Расіі, бо савецкая краіна вырасціла менш 40 мільёнаў тон збожжа. Бяда напаткала тады, калі трэба было адбудоўваць разбураныя вайною гарады і вёскі, аднаўляць гаспадарку.

Як жа вусаты дыктатар ажыццяўляў на мізэрны харчовы паёк «всенародное счастье»? Савецкае дакументальнае кіно, фотаздымкі ў газетах паказвалі не паўгалодных, спакутаваных людзей, а горы збожжа на таках, камбайны, грузавікі, элеватары і фізкультурнікаў, якія бадзёра, з усмешкамі маршыравалі па вуліцах гарадоў. Усё насельніцтва павінна было выяўляць радасць і захапленне сваім жыццём у прамовах з трыбун, у песнях, танцах на дэманстрацыях, аб чым клапаціўся бюракратычны апарат.

Бальшавікі даўно мелі ўласны погляд на трагедыю галадамору, якую самі не раз правакавалі. У красавіку 1922 года Палітбюро ВКП(б) разгледзела пытанне аб лозунгах да свята 1 Мая. Адзін з іх гучаў так: «Не тот людоед, кто людей, обезумев от голода, ест, — тот людоед, кто не отдает голодным церковные ценности».

Дакладных статыстычных дадзеных пра тое, колькі чалавек загінула ад голаду ў другой палове 40-х гадоў, няма. Але дакументаў, якія сведчаць пра страшную трагедыю, ёсць шмат. Затое да 1949 года ў СССР была зроблена атамная бомба. (Пазней такая ж сітуацыя паўтарылася ў Паўночнай Карэі. Там 2 мільёны чалавек у сярэдзіне 90-х гадоў XX стагоддзя памерлі ад голаду, але ядзерны зарад выпрабавалі.)

Як заўжды, гаротнікаў-беларусаў — і сялян, і вясковую інтэлігенцыю, у прыватнасці настаўніцтва, — ратаваў ад галоднай смерці прысядзібны ўчастак, а прасцей і дакладней — гародчык. Сем'і, у якіх у дадатак меліся кароўка, свінчо, пару авечак, дзясятак курэй, лічыліся па тым часе надзвычай заможнымі. Але ж да сваёй бульбачкі, гурка, капусты ці нават рэдкай скваркі і кварты малака патрэбен хлеб. Ды муку, каб яго выпячы, у вёску амаль не завозілі, а калі такое здаралася, то прадавалі па спісах, на месяц толькі па некалькі кілаграмаў на едака. Змалоць сваё збожжа, калі яно ў каго і мелася, таксама было надзвычай цяжка. А таму мукі заўсёды не ставала. Яна выкарыстоўвалася паводле даўняй прымаўкі: «З плеч — і ў печ!»

Згадваю, што неяк нашай сям'і ўсміхнулася шчасце: па «лендлізу» з-за акіяна прыбыла дабрачынная амерыканская мука. Але транспарту не было, са станцыі сваю долю людзі забіралі самі. Мама і тата таксама зрабілі нялёгкія хадкі за шмат вёрст — ажно ў Бачэйкава.

Такіх, як цяпер, зручных плецакоў не мелася. Да звычайгага меха або вялікай торбы проста прышываліся лямкі. З паклажаю ў два-тры пуды тэпалі мае бацькі па занядбаных за вайну дарогах, па сцежках, націраючы да крыві плечы і ногі.

Мама, калі дабрыдала дадому, клала на крывавыя плечавыя рубцы і пісягі мокрыя анучы, а збітыя, натруджаныя ступні ставіла ў ночвы з калодзежнай сцюдзёнай вадою. Так яна сядзела моўчкі на ўслончыку, сумна ўсміхаючыся сваёй дзятве, бо не мела ўжо сілы нават размаўляць. Разам са старэйшым братам і малодшай сястрой я шморгаў носам або румзаў, адчуваючы ўсёй істотай, як цяжка ёй...

Тым не менш, калі любымі спосабамі ў нашым прышкольным жытле з'яўлялася мука, то следам за ёй нараджаўся і хлеб. Я ведаў увесь працэс. Найперш патрэбна рашчына, каб развесці, учыніць цеста. Калі хлеб доўга не выпякаўся, уласная рашчына ўсыхалася, станавілася як камень, нежывой. У такім выпадку выручалі суседзі. Пазычыць рашчыны — вечнага рухавіка хлебнай справы — паводле няпісанага закона абавязана была кожная гаспадыня. Такім чынам у вёсцы яна ніколі не выводзілася, у той або іншай хаце рашчына заўсёды заставалася жывою.

У дні народзін хлеба мама апраналася ў чыстае, можна сказаць, святочнае. Згодна адной ёй вядомых прапорцый і нормаў учынялася цеста. Дзяжу з ім стаўлялі на цёплую чарэнь, а зверху яшчэ ўкрывалі дзяружкаю або кажухом. Там цеста няспешна падыходзіла. Трэба было толькі сачыць, каб яно не вылезла цераз край, асаджваць. Затым, калі цеста выспявала, надыходзіў яшчэ адзін адказны момант: яго належала добра вымесіць. Вось тут прыдатныя якраз мужчынскія кулакі. На дапамогу маме прыходзіў тата. Але бацька нярэдка быў у ад'ездзе, таму ўпраўляцца з цестам ёй часта даводзілася самой. Пра тое, якая гэта нялёгкая праца, заўсёды сведчылі кропелькі поту, што свяціліся на маміным лобе. Калі я падрос, то самому давялося неаднойчы валтузіць цеста кулакамі, добра зведаць «смак» гэтага занятку.

Адказнай была і выпечка хлеба. Печ напальвалася добрымі дрывамі, звычайна бярозавымі, да пэўнай кандыцыі. Затым жар з яе выграбаўся, бо для нараджэння боханаў павінна было хапаць толькі духу. Прытым такога, каб хлеб і не прыгарэў, і не выйшаў ацеслівым. Жартам кажучы, разлікі тут былі не менш складанымі і дакладнымі, чым пры стыкоўцы касмічных караблёў.

Калі хлеб выпякаўся на кляновым лісці або аеры, то мама садзіла цеста на вялізныя бляшаныя процiўні, усланыя духмяным подсцілам. Які незабыўны пах стаяў у хаце! Гэта быў каравайны спосаб, які мне вельмі падабаўся. Але больш абыходнымі для карыстання заставаліся прамавугольныя, крыху завужаныя ўнізе бляшаныя формы. Знутры яны вэцгаліся, праціраліся падмазкаю. Калі не мелася алею (а ён на той час быў дэфіцытам!), у ход ішло звычайнае, нават старое, зжоўклае сала...

А між тым дзень народзінаў хлеба працягваўся. Цеста нарэшце ўладкавана ў формы. Перад тым, як ставіць іх у печ, мама даланёю, змочанай у вадзе, ласкава абгладжвае зверху кожны будучы бохан. Гэта падобна на тое, як яна гладзіць нас — сваіх дзетак — па віхрастых галоўках. І вось формы паглынае печ, яе пашча закрываецца заслонкай. Цяпер застаецца толькі чакаць.

Але мама для перастрахоўкі яшчэ разок-другі выцягне нейкую пробную форму, гляне, ці хапае духу, ці не падгараюць боханы, і зноў вяртае на месца.

Самы ўрачысты момант наступаў тады, калі формы выцягваліся з печы і на чыстую лаву выкульваліся падрумяненыя боханы. Мама стаўляла іх у радок, крапіла верх вадою і накрывала льняным ручніком. У хаце стаяў непаўторны хлебны дух. Ён са мною і сёння:

*І так захочацца — аж слінкі —*
*Аграйчык адламаць цішком*
*Ад той пахучае скарынкі,*
*Што млее там, пад ручніком.*

*Як светла стала ў нашай хаце,*
*Як вокны зіхацяць яе...*
*У сенцы хлеб выносіць маці —*
*Яму пашану аддае.*

Сапраўды, пасля пячнога жару, пасля тамлення на лаве пад ручніком боханы павінны адпачыць, пабыць у прахалодзе.

Што тычыцца хлеба, то з ім, як і ў кожнага чалавека, у мяне звязана многае. Да скону будзе трымацца ў памяці згадка бабулі Праскоўі Ігнатаўны пра лапуны (так у нас называюць прэсны хлеб, праснакі). Яна везла іх разам з валёнкамі, цёплым світэрам, тоўстымі ваўнянымі шкарпэткамі, што сама звязала, свайму сыну, майму дзядзьку Сяргею ў горад Горкі (цяпер Ніжні Ноўгарад). Арыштаваны ў Мінску ў кастрычніку 1936 года сталінскімі апрычнікамі «за участие в контр-революционной троцкистской организации» (напісанне энкэвэдысцкіх дакументаў захоўваецца), ён, дваццацісямігадовы малады паэт, сядзеў тут у перасыльнай турме. Доўга дамагалася бабуля сустрэчы з сынам, але дазволу так і не атрымала. А перадачу для Сяргея турэмшчыкі ўзялі і адразу пачалі дзяліць такім чынам: «Эй, Васёк, по-моему, у тебя валенки прохудились. Держи! А эти носочки мягонькие, тёпленькие, Витек, тебе. А мне свитерок, гляжу, будет впору. Ну, вот и ладненько! А это что за херня? Хлеб? А вот мы его поломаем, проверим. А то может, ты, мамаша, туда пилочку или ножичек какой заложила. Нет? Ну что ж. Оно, конечно, приятно от мамки пирожка отведать. Передадим, мамаша, обязательно передадим твои пироги. Правда, вид у них теперь аховый, да ему все равно будет радостно».

Бабуля схапілася за сэрца, спалатнела тварам, захлынулася, знямела ад абразы, крыўды, адчаю і гневу. А чырванаморды вертухай здзекліва працягваў: «Мамаша, ты зря волнуешься. Твой сын у нас, как на курорте! Гы-гы-гы! На лесоповале ему спецодежду выдадут. И кислорода там до хера! Так что погостила, мамаша, пора и честь знать. А теперь езжай себе потихоньку домой, в свою БССР...»

Не забываю я і маміны успаміны пра тое, як у час фашысцкай блакады ў сакавіку-красавіку 1944 года яна сядзела некалькі тыдняў без хлеба ў гнілых балотах ля возера Палік. Карміліся партызаны аўсом (рэшта конскага рацыёну), торба якога нейкім цудам ацалела. Зварыць кашу было немагчыма. Над балотамі ўдзень кружылі нямецкія «рамы». Тым больш нельга распальваць касцёр уначы — ён здалёку бачны. А таму жменьку сухога аўса, якая прыпадала на яе долю, мама размочвала ў іржавай, смуроднай вадзе і жавала...

Калі мама выйшла з блакады, з балота, то ўсё яе цела было пакрыта болькамі-вадзянкамі. У такім стане ёй давялося стаць старшынёй сельсавета, у якім шэсць калгасаў. «Назаўтра стаю з бабамі, галосім — ні касы, ні сярпа няма. Далі толькі аўтамат абараняцца ад хіжых людзей, але навошта ён мне? Ды ўсё ж ведаем — на фронце непараўнана цяжэй. Дзякуй, што свабода ёсць, што не ўбіваюць... Угадай, сынок, што я тады на папялішчах адчувала? Не паверыш! Хлебны пах, які доўга-доўга стаіць у кожнай вясковай хаце пасля выпечкі боханаў».

Я памятаю дні, калі ў новай хаце, якую толькі ў 1958 годзе наша сям'я паставіла за кошт здароўя бацькоў (на маму пакуліўся воз з бярвеннем, а тата цягнуў на сабе ўвесь цяжар будоўлі і надарваўся), не было ніводнага кавалка хлеба. Асабліва крыўдна станавілася на душы, калі гэта здаралася ў святы. Людзі весяляцца, а тут плакаць хочацца...

Магу згадаць розны хлеб, які каштаваў на сваім вяку: «зайчыны», прывезены татам з камандзіровак, бо ссабойка часта заставалася няз'едзенаю і дзялілася па вяртанні паміж дзецьмі; «хрушчоўскі» соевы, непрыемна саладкаваты, або кукурузны — «калючы»; чорныя сухары ў час галаднаватага студэнцтва, на якіх крышыліся зубы; нязвыклыя па смаку лусты ў многіх замежных краінах, дзе давялося пабыць...

Калі людзі старэйшага пакалення пачынаюць даказваць, што раней яны жылі добра, то мяне ахоплівае пранізлівае пачуццё роспачы і жалю. Я ж сам сведка ўсіх апошніх «эпох». Ды ніколі — ні пры Сталіне, ні пры Хрушчове, ні пры Брэжневе, ні пры Гарбачове, ні цяпер — беларусы ніяк не могуць узбіцца на прыстойнае чалавечае жыццё.

Няма найгоршай абразы для разумнай істоты, чым пакутліва думаць кожны дзень пра тое, як здабыць кавалак хлеба, каб пракарміць сям'ю. Не так павінен жыць чалавек. Ды, зрэшты, усё залежыць ад нас саміх. Хочаш карміцца хлуснёю, а не хлебам — карміся! Толькі тады не жальcя на сваю гаротную долю, як гэта робяць многія людзі ў Беларусі...

*16 верасня Сяргей Іванавіч ЗАКОННІКАЎ адзначыў свой 70-гадовы юбілей. Шчыра віншуем нашага найпаважанага аўтара ды зычым яму здароўя, радасці і шчаслівай беларускай долі!*

# Сапраўдны час


Уладзімір СЦЯПАН

## Перамога

Старому ішоў дзевяноста трэці год.

Ён надзеў шэры пінжак з калодкамі. Пінжак, які раней, гадоў сем таму, ледзь сыходзіўся, цяпер вісеў на ім, як на падлетку. І нават палатняная кепка зрабілася вялікай, коўзалася па галаве, то на правае, то на левае вуха, трымацца не хацела. Трохі нахіліўся абувацца, яна і звалілася на чаравікі. Адно што трымалася добра — штучныя зубы. Яны, ён так думаў, моцна яго маладзяць, можа аж гадоў на дзесяць. Калі ўставіў зубныя пратэзы, то наблізіў твар да люстэрка так, што кончыкам носа адчуў холад шкла. Потым паспрабаваў разгледзець сваё расплывістае адлюстраванне, перш чым выйсці з кватэры. Бачыў ён кепскавата, а таму і акуляры прыхапіў, схаваў у кішэнь пінжака.

Зашчоўкнуў замок, тарганіў-праверыў дзверы, зрабіў дзясятак дробненькіх крокаў да ліфта. Выклікаў, націснуў ніжнюю кнопку і хутка апынуўся на першым. Прайшоў побач з паштовымі скрынямі, кійком дакрануўся да сваёй. І яна бомкнула, як парожняя каструля, калі на дно падае лыжка.

На вуліцы было тлумна, шматлюдна, страката і не так цёпла, як ён меркаваў. Стары сунуўся ціха, «шух-туп, шух-туп», стараўся ісці хутчэй, але сунуўся. Прыпыніўся на пераходзе, прыклаў далонь да грудзей, каб упэўніцца што ордэнскія калодкі на месцы. Усё на ім моршчылася, можа, акрамя гэтых цьвёдых калодак.

Паўгадзіны стаяў ён каля цырку, побач з праспектам, але не столькі глядзеў, колькі ўслухоўваўся ў вірлівае жыццё вуліцы, тупаў на месцы, паварочваўся, худую шыю выцягваў, як чарапаха. На святочныя парады ён не хадзіў роўна восем гадоў. Не было ні жадання, ні здароўя, а найперш, крыўда не давала. Як так, яго — сапраўднага ўдзельніка, сапраўднай вайны, не запрасілі на плошчу. Пасля таго выпадку ён рассварыўся з кіраўнікамі ветэранскай арганізацыі, напісаў скаргу ў газеты... І школьнікі, якія раней абавязкова прыходзілі да яго напярэдадні свята з кветкамі і непатрэбнымі сувенірамі, прыходзіць перасталі. Ён чакаў, а яны не прыходзілі.

Але заўчора заходзілі, толькі ён не адчыніў ім дзверы, у кватэру не пусціў, хаця па тэлефоне сказаў, што будзе чакаць. Дзеці званілі-званілі ў дзверы, потым на хатні тэлефон, а потым сышлі. Калі за жалезнымі дзвярыма стала ціха, ён і супакоіўся. Уключыў гучна тэлевізар, паслухаў навіны і выключыў.

На вуліцы, калі вакол смяяліся і крычалі «Ура!», то яму зноў захацелася, каб пачалася вайна. Сапраўдная. Такая, як была. Якую бачыў і любіў. Не, ён зусім не баяўся загінуць. Яму хацелася, каб усе гэтыя піянеры і начальнікі, усе несапраўдныя ветэраны, у пінжаках цяжкіх і бліскучых ад розных узнагарод, даведаліся і адчулі, што такое вайна, каб зразумелі, што ён перажыў там, у акопах... Грымела музыка, гучалі знаёмыя песні, людзі гаманілі, смяяліся, пахла вясной і півам, а ён стаяў. Да яго падышлі дзве дзяўчынкі з тонкімі галасамі. Далі яму тры чырвоныя кветкі ў сліскім цэлафане, павіншавалі са святам. Назвалі «дзядушка» і зніклі. Крок зрабілі і прапалі ў стракатым натоўпе. Ён хацеў у іх спытаць, ці вісіць чырвоны сцяг на «вежы-глушылцы», хацеў, але не паспеў.

Ён згадаў, як у сорак дзявятым у горадзе Баку, куды перавялі з Нямеччыны яго полк, браў удзел ва ўрачыстым парадзе. Гвардыі палкоўнік Андрэй Пятровіч Барадзішкін даручыў яму ісці перад калонай, побач з палкавым сцягам. І ён ішоў. Высокі, пругкі, дужы, у бліскучых наваксаваных ботах. У правай руцэ зіхцела шабля, а на грудзях медалі. Потым, перад трыбунай, ён спыніўся, хацеў шаблю запіхнуць у похвы, а яна не лезла. Ніяк не хацела. І тут ён зніякавеў і спалохаўся. Так зніякавеў, што пачало калаціць, хрыбетнік здранцвеў і не гнуўся. Ён тады парэзаў левую руку, крыві было шмат. Ненавісная шабля! Навошта пагадзіўся? Адказу не ведаў.

На трыбуне стаялі: камандзір палка Сяргей Пятровіч Мушканаў, Сямен Антонавіч Панчэўскі — намеснік камандзіра дывізіі, маёр Іван Гаўрылавіч Лапчанка, маёр Аляксей Аляксеевіч Котаў, сакратар гаркама партыі Рауф Салахаў... Ён згадаў усіх чатырнаццаць чалавек, так, быццам стаяў перад імі. Нават узнагароды кожнага памятаў, нумары кабінетаў у тых, пасады і званні... Але ўсе яны даўно памерлі... А ён жыве...

Ад уласнай непатрэбнасці і немачы старому зрабілася прыкра, аж галава закруцілася, а свет пачаў расплывацца, як бензін на вадзе... А вось гукі, наадварот, зрабіліся разборлівымі і яснымі, кожнае слова, прамоўленае побач, разумеў, быццам да гэтага была на галаве зімовая шапка, а цяпер яе знялі.

Ён абапёрся на слуп і глядзеў на сяміпавярховік, у якім пражыў амаль шэсцьдзесят гадоў. У галаве цёрлася слова «дзядушка», шкрэблася, драпала, а потым і прапала, знікла, і ён не мог згадаць гэтае звычайнае слова. Захацелася як мага хутчэй сыйсці, пакінуць гэты святочны гармідар. Вярнуцца ў сваю кватэру, на звыклае месца, як пчала вяртаецца ў свой дамок, ці як выкручаны шруб у сваё гняздо. І ён пайшоў, пацягнуўся, павалокся, заспяшаўся: кійком пастукваў, падэшвамі шоргаў. Не ішоў, а цягнуўся дробненькімі асцярожнымі крокамі. Маленькія дзеці і тыя робяць крокі большыя.

У пад'ездзе было трохі цішэй. Скразняк пасунуў па падлозе каляровыя паперы, ён пагледзеў на свае кветкі. Тры чырвоныя расплывістыя плямы. Дайшоў неяк да ліфта. Націснуў кнопку, і дзверы імгненна рассунуліся. Увайшоў, дзверы праз імгненне зачыніліся, ён узняў руку, каб націснуць кнопку, святло згасла. Палец крануў шурпатую кнопку, і ліфт цяжка тарганууўся, пачаў уздымацца, святло запалілася, і кабінка падалася цеснай і вузкай.

Калі дзверы рассунуліся, стары хуценька, ён так думаў, выйшаў на пляцоўку і пайшоў да сваёй кватэры — дзесяць звыклых дробных крокаў. Але спыніўся ў разгубленасці, калі зрабіў толькі пяць, бо на пляцоўцы стаялі заляпаныя пабелкай будаўнічыя казлы, дошкі, старыя ваконныя рамы і два вядры... «Дзе гэта я?» — падумаў ён і спалохаўся. І лесвічная пляцоўка, і дзверы, усё выглядала незнаёмым. У гэты момант ён і зразумеў, што не памятае, на якім паверсе яго кватэра, не памятае, які яе нумар. Ён стаяў, азіраўся, нават пакратаў высокія казлы і запэцкаў крэйдай руку. Казлы стаялі трывала, нават не хіснуліся.

«Завуць мяне Міколка, а прозвішча маё...?» — прашаптаў ён, і з бясколерных вачэй пацяклі слёзы. Калі рукавом пінжака выціраў шчаку — кіёк упаў. Нахіліўся падняць — звалілася кепка, потым кветкі выслізнулі пад ногі. Ён спачатку хацеў падняць, а потым забыўся на іх і падышоў да ліфта. Націснуў кнопку, але не паехаў, пабаяўся, перадумаў.

Рушыў уніз. Прайшоў тры прыступкі і спыніўся, ухапіўся слабымі пальцамі за парэнчыну. А спыніўся, бо пачуў галасы і дзявочы смех. «Людзі!» — крыкнуў, думаў гучна, але толькі прашаптаў, і заспяшаўся. Ды так заспяшаўся, што ледзь не ўпаў, кіёк паляцеў, паскакаў па шырокіх прыступках.

Два мужчыны ў шортах і светлых кашулях і маладая жанчына пачулі валтузню і ціхае хныканне старога. «Дзе мая кватэра?» — перапалохана спытаў ён. «Ой, мы не местные, дедушка! Мы сняли квартиру вот здесь», — хутка і з непрыемным здзіўленнем патлумачыла маладая жанчына. Яе сябар падаў кіёк: «Мы із Воронежа, на празднік к вам пріехалі». Другі мужчына спярша пазваніў у адны дзверы, потым у другія, развёў рукамі, і націснуў кнопку ліфта.

Рассунуліся дзверы ліфта. Кампанія хутка зайшла і з'ехала. Стары застаўся на пляцоўцы. У галаве круцілася слова «Варонеж». Ён сказаў: «Гвардыі палкоўнік Барадзішкін нарадзіўся ў Варонежы! А Мушканаў нарадзіўся ў Арле, а маёр Котаў родам з Віцебска...»

Зноў пабеглі слёзы, і стары пачаў выціраць іх.

Паўгадзіны ён хадзіў па пад'ездзе, спыняючыся перад дзвярыма і доўга званіў. Большасць суседзяў з'ехалі з горада на лецішчы, а тыя, хто засталіся — гулялі, але стары пра гэта не думаў. На другім паверсе адны дзверы нарэшце адчыніліся. Жанчына здзіўлена смяялася. «Ой, Мікалай Васільевіч! Са святам вас! А што здарылася, даражэнькі вы мой?» — сказала, а потым і спалохалася.

«Мікалай Васільевіч... Міколка...» — неразборліва прамармытаў ветэран.

«А што гэта вы адзін ходзіце, а дзе ваш зяць?» — спытала суседка, але без усмешкі.

Яна і завяла яго дамоў, адчыніла дзверы, пасадзіла на канапу, дала шклянку вады і сыйшла.

Ён сядзеў доўга іківаўся то назад, то наперад. Глядзеў на партрэт цёмнавалосай жанчыны ў рамцы і не мог зразумець, хто гэта такая. Праз гадзіну прыехаў зяць Віктар, мажны, потны, з дарослым унукам і падлеткам праўнукам. Яны прывезлі дзве торбы з ежай і пачалі збіраць святочны стол, каб павіншаваць ветэрана, але зразумелі, што ён іх не пазнае. Завялі ў спачывальню і паклалі на ложак.

Госці сядзелі за сталом, выпівалі, закусвалі і глядзелі тэлевізар. Там ішоў чорна-белы фільм. «А наш дзед усё гэта на свае вочы бачыў...» — сказаў унук. «Няхай паляжыць трохі, ачухаецца, відаць, сонца напякло...» — прамовіў зяць. Ён стараўся не глядзець на партрэт нябожчыцы жонкі, якая раптоўна памерла гэтай зімой. Праўнук хутка пісаў у сваім мабільніку.

За вокнамі віравала свята, па праспекце пусцілі транспарт. Мікалай Васільевіч нагадваў выкручаны са сцяны іржавы шруб, ляжаў роўна і ціха, быццам памёр.

## Таксіст Валера

Таксіст прыехаў у аэрапорт, а самалёт затрымаўся. Ён папіў кавы, з'еў два бутэрброды з чырвонай рыбай і адразу захацеў піць. Купіў у аўтамаце бутэльку мінералкі. Прагна глытаў халодную колкую ваду і глядзеў на зялёныя словы і лічбы, якія не змяняліся на вялікім табло. Таксісту было пяцьдзясят тры, лысаваты, невысокі, вялікароты, нечым моцна нагадваў спевака-актора Чэлентана, пра што ён і сам ведаў. Такі ж рухавы, усмешлівы, але цяпер змрочны і напружаны.

На вуліцы, за вялізнымі вокнамі, ляцеў снег і неба злівалася з зямлёй, а далягляд то знікаў, то з'яўляўся. Ён згадаў, што калі самалёт прыляціць да дзьвух гадзін, то ўсё будзе добра. Самалёт прыляцеў у палове на другую, што ўзрадавала і абнадзеіла, а вось лётчык затрымаўся і на тэлефанаванні не адказваў...

Праз чвэрць гадзіны таксіст Валера і лётчык перастрэліся. Валера атрымаў невялікі, амаль бязважкі пакунак і адразу схаваў яго ў кішэнь, туды, дзе ляжалі дакументы і грошы, зашморгнуў маланку. Лётчык стомлена паціснуў гарачую таксіставу руку. Валера прапанаваў «закінуць» яго ў горад, але лётчык спаслаўся на справы тут, якія яшчэ трэба вырашыць, і таму яны развіталіся.

У маленькім і амаль бязважкім пакунку было восем ампул.

Усё склалася вельмі ўдала, калі не лічыць кепскае надвор'е. За пяць дзён Валера змог дамовіцца і знайсці неабходных людзей у Мінску, Маскве, Сіэтле і Чыкага, перадаць грошы і атрымаць лекі. Ён не верыў што яны дапамогуць, але вырашыў зрабіць усё магчымае. Цяпер ён супакоіўся.

Дарога, хоць і ляцеў сухі снег, была знаёмая, сотні, а можа і тысячы разоў ён па ёй ездзіў, дванаццаць гадоў. За гэты час змяніў пяць машын. Яго чорны легкавік з жоўтай паласой і лічбамі «135» імчаў да горада, абганяў аўтобусы і маршруткі. Валера спяшаўся...

Чорны легкавік з жоўтай паласой абагнаў барвовую маршрутку а потым яго крыху занесла і ён пачаў віляць па дарозе, скінуў хуткасць і спыніўся. Левая пярэдняя дзвёрка адчынілася, і з салона вываліўся на дарогу вадзіцель. Ён падняўся на ногі, але тут жа пераламіўся, і яго пачало ванітаваць. Побач спынілася барвовая маршрутка, а за ёй светлы легкавік. Вадзіцель маршруткі выскачыў і падбег да чорнай таксоўкі. Валера курчыўся. Ён стаяў на каленях і глядзеў у зямлю. На сядзенні ляжаў мабільнік...

«Ты што, мужык, п'яны, табе кепска?» — спытаў шафёр маршруткі, нацягнуў капюшон і павярнуўся спінай да ветру.

«Не... Сказалі, што жонка памерла... Толькі што сказалі...» — прашаптаў Валера і рукавам выцер рот.

Як даехаў да бальніцы, — Валера не памятаў.

## Мой Лё...

Мой даўні знаёмы, мой Лё. Так я яго называю, але не ўслых, а толькі за вочы. Ён на пенсіі, налятаў немаведама колькі гадзін на пасажырскіх самалётах. Як усе лётчыкі, у моцных напоях аддае перавагу гарэлцы.

Ён на шэсць гадоў старэйшы за мяне. Галава сівая, як у мыле, а вусы чорныя, і вочы амаль чорныя. Мы сядзелі ў кавярні на Інтэрнацыянальнай і гаварылі пра бацькоў. Ішоў за вакном снег, і вуліца здавалася казачнай. «Ну давай, па апошняй, і паляцім!» — сказаў Лё і падхапіў бутэльку. Наліў, а потым бутэльку паставіў і пагледзеў мне ў вочы. Мне падалося, што на яго галаве снежная шапка.

«Аднойчы, я ляцеў з Акапулькі на Пулкава, у Піцер...» — важка прамовіў Лё. Слова «Акапулька» мяне ўсміхнула. Лётчык заўважыў, і вочы яго пачарнелі зусім.

«Ляцелі над акіянам... З Акапулькі на Піцер... І раптам, праз восем секунд, працаваць перасталі турбіны... Тры з чатырох, тры з чатырох...» — спакойна сказаў мой таварыш.

Я зразумеў, што калі ён сядзіць побач, налівае і выпівае, то ўсё абышлося, усе ацалелі, а таму і не спалохаўся.

«Мне здаецца, Валодзя, што анёлы даўно не карыстаюцца крыламі... Асабліва калі трэба ляцець далёка. Навошта, калі ёсць самалёты. Можна сесці і спакойна ляцець. Хоць у Рым, хоць у Прагу, Кейптаўн, Чыкага... Калі ў самалёце анёл, то нічога не здарыцца. Праўда, могуць на колькі гадзін затрымаць: навальніца, завея... Але з гэтым нічога не зробіш... Тады і анёл затрымаецца... Давай, па апошняй, і паляцім...» — сказаў і чарку падняў. Поўную, як вока. Падняў і не разліў.

Вось такі мой таварыш, мой Лё...

# Музыка горада



Аляксей КАРПЕНКА

## Гіперкуб

*Нараджэнне маё не сакрэт:
Не прыняўшы эўклідавых правіл,
Хтось кубы ў адным звязку саставіў —
Прыгажосці вар'яцкай аб'ект,*

*Што за кожную грань меў бы куб,
Каб не быў параджэннем паперы...
Дорыць свет ваш малавымерны
Толькі выгін пагардлівы губ.*

*Для бялковых пачвараў няма
Чатырох вымярэнняў прасторы,
І заве мяне выдумкай хворай
Трохвымернага свету турма.*

*Толькі сімвал міфічны... Не стаў
З вамі роўным, хоць думкі й займаю...
Раз прысніў, як мастак распінае
На маім падабенстве Хрыста.*

*...Я паперу б вугламі працяў,
Не чакаючы ў белай магіле
Тлумачэння: нашто вы стварылі
Непрыдатнае да быцця?*

* * *

*Снегу чакаем. Люляем надзею
На свежыя песні, на добрыя дзеі...
Бясснежныя вулкі суцешвае верай,
Схаваўшы пад маскай фарфоравай,
шэрань.
Суцешвае верай у шчасце без меры,
У новыя вершы на снежнай паперы —
Жыццё іх напіша ў народжаным годзе...
Дажыўшы — пабачым.
Чакаем.
І годзе.*

* * *

*На по́мінках восені гразкай
Вятрыска ўсчынае вой...
Ты верыш: жыццё — гэта казка
Старое савы сівой.*

*П'янееш ад зімнага духу,
Пайшоў бы на злом галавы
Ў пагоні за дзівам — бо слухаў
Казкі сівой савы.*

*...Яна не сказала, што косткі
У схове надзейным дзяўбе.
Шмат казак кашмарных і жорсткіх
Рыхтуе яна для цябе.*

*Сусвет пад фарфоравай маскай
Хавае шнараў равы.
Быццё — вычварэнская казка
Старой вар'яткі савы.*

## Сінь калядная

*Адвядзі сябе ў сінь калядную —
У цямрэчы з сабой схаваць
Мары плоскія, друграднявыя,
І кашмараў нязбыўных раць.*

*Ад нары, што смярдзіць мінуўшчынай,
Зладзь уцёкі ў мароз начы —
Слабы розум, быццём разрушчаны,
Адзінотай спрабуй лячыць.*

*Спадзявайся дарогай дальняю
Супакоіць вар'яцкі дух...
Зразумеецца прадказальнае —
Ты з кашмарам паўсюль удвух, —
Што ў нары, дзе жыццё праседжана,
Што ў начы, куды ўцёк з нары...
«Сінь калядная, шлях прыснежаны,
Забяры мяне, забяры!»*

* * *

*енк залунае шматкроць
смерць зойдзецца чорным пеўнем
куля ўкапаецца ў плоць
нахабна надзейна і ўпэўнена*

*пекла прызначыць нам
спатканне ў часах і прасторах
кожны свінцовы грам
настаўніцкі дотык гісторыі*

* * *

*Хай неразумныя выкрыкі птушак
Хтось лічыць музыкай лепшай,
адзінай...
Слодыччу пояць вар'яцкія душы,
Выюць у шале вятры-муэдзіны.*

*Выюць, склікаюць сталёвыя хмары,
Водарам волі п'яняць наваколле —
«Хмары, схіліце суровыя твары!
Дайце сусвету асфальтавы колер,*

*Гэтакі родны для джунгляў
каменных!»
Шалеюць вятры над асфальтавым
краем,
Нахабна асвістваюць шэрыя сцены...
І песня свабодай душу спакушае.*

*Гэткаю музыкай, спевам халодным
Будзе суцешаны розум паўхворы,
З гэткаю песняй мой дух стаўся
родным,
Гэткаю музыкай дыхае горад.*

* * *

*Забіўшыся сама ў сябе навек,
Схаваўшыся ў вар'яцтва
сценах гулкіх,
Душа блукае па няісных
брудных вулках,
Не ў змозе больш трываць
дарэмны бег.*

* * *

*Горад ператкaны сонным дымам.
Дым сцякае ў колер родных сцен.
Твар схаваўшы папяловым грымам,
Час з імгненняў пастку нам пляце.*

*І, спаймаўшы, ставіць на калені
Час нябогу, дурня, дзівака.
І ніта растрачаных імгненняў
Рэжа плоць, звязаўшы па руках.*

* * *

*Мой час і край — маё мяно.
Я свой, я звыклы, я паўночны.
Паветра мерзлага віно
У келіх цемры лью сяточна.*

*Не ў сытай цеплыні б сатлець
І не чакаць дурной пагоды —
І ў ценяў гушчы, і ў святле
Душа шукае прахалоду;*

*Не холад крохкіх ледзяшоў,
Але ж быцця шчымлівы дотык...
Нашто, куды, адкуль я йшоў —
Не так цікавіць ідыёта,*

*Як піць, змяшаўшы са слязой,
Віно паўночнага дыхання,
Адчуць, як вецер, бы лязо,
Гуляе з шыяй хмельным раннем.*

*...Калі ж упоперак хрыбта
Спаймаю ўдар быцця апошні,
Паўночны папяловы птах
Пад неба ў кіпцях асцярожна*

*Знясе мой прах.*

# З вандроўкі заморскае



Васіль ЖУКОВІЧ

## У экзатычным краі

*Аўстрыйскіх Альпаў велічны размах,
Карцін такіх няма ў маёй краіне:
Аблокі спачываюць на гарах
І снег бялее між крутых вяршыняў.*

*У старане дзівоснай, ды чужой,
Згадалася мне родная старонка:
Раўніна, гай, сцяжынка на лужок,
Прапахлы медуніцаю, рамонкам.*

*Краіна ўся ўявілася мая,
Дажджом і сонцам спешчаны прасторы,
І пушчы Белавежскай акіян,
І сцюжкі рэчак, рэк, і гладзь азёраў.*

*З замежжа я, куды б ні кінуў лёс,
З бязмежжам добрай памяці вярнуся
Да шолахаў чароту і бяроз,
Да бальшакоў і сцежак Беларусі.*

* * *

*Міс Францыя-сяброўка, добры ранак!
Зноў я прыехаў да цябе з каханай.
Шэсць год таму адкрылі мы сталіцу,
А сёння гаспадыня наша — Ніца.*

*Над Сенаю ў Парыжы мы гулялі,
Там золак з салаўямі сустракалі.
Тут чуем голас мора несціханы.
Мы пяць краёў праехалі з каханай
Дзеля кутка прывабнага такога,
Пад веснім сонцам берагу марскога.
Я думаць буду з ёю не так многа
Пра хуткаплыннасць жыццейка зямнога.
Хоць думкі непазбежныя пра тое
Перад марскою хваляю жывою.*

* * *

*Ты не магла ўявіцца ці прысніцца,
Прыветлівая чараўніца Ніца,
Багатая і сонейкам і морам,
Тваёй гасціннасці не зведаць зморы!
У небе больш, як чаек, самалётаў,
Аэрапорт прымае іх з ахвотай;
Курсіруюць яны і ўдзень і ўночы:
Пажыць тут прылятае шмат ахвочых.
А мора хвалі весела ўздымае,
Як цацачныя, ветразі гайдае,
На бераг набягаючы прыбоем,
Дзяцей бязмежна вабячы сабою.
І сем'ям існы рай, і закаханым,
Ты працвітай пад сонцам,
край жаданы!*

* * *

*Без цябе не ўтаймую тугу.
З табой стану самой пяшчотай.
Я кахаю цябе не ўпотай,
Ведай, я для цябе ўсё змагу.*

## Беларуская калыханка на Сярэдземным моры

*У дзень бясхмарны, дзень, такі прыемны,
Сярод людзей, на моры Сярэдземным,
Дачушка немаўля сваё люляе
І калыханку ціха напявае:
Доўгі дзень, цёплы дзень
Адплывае за аблокі.
Сіні цень, сонны цень
Адпаўзае ў кут далёкі.
Збеглі зайкі ўсе ў лясы,
Змоўклі птушак галасы...
Душой дзіцятка словы паглынае —
З усмешкай, ледзь прыкметнай, засынае.
А я расцалаваць дачку гатовы
За цёплыя Бураўкінавы словы,
За спеў такі адметны, адмысловы.
Здаецца, мору наша калыханка —
Прыемная неспадзяванка:
Яно так шчыра нам дапамагае —
Прыбоем сон дзіцяці паглыбляе.*

## Рэальнасць і фантазія

*Я не магу ніяк-ніяк змірыцца,
Што чужамоўнай робіцца сталіца.
Таму ўсё паглыбляецца апатыя,
Усё цяжэй змагацца з ёй, праклятаю.
Дапамагло б мне дзіва з лепшых дзіў —
Каб родный мовай Менск загаманіў.
А з Менска прыклад узялі б тады
Ўсе іншыя напэўна гарады.
З мільёнаў вуснаў мова расцвіла б,
У небяспецы болей не была б
У нашай талерантнай старане.
Тады б я ведаў: Бог пачуў мяне!
Ён здатны на дзівосныя падзеі!
Больш ні на кога ўжо няма надзеі.*

## Шлях угору, або Сонца над Сэн-Поль-дэ-Ванс

**Дыптых**

**1**

*Дзень першы лета; ў час такі
Пад Віцебскам,
пад Менскам,
пад Бярэсцем
Ля жыта ў полі васількі
Чаруюць так, што позірк не адвесці.*

*...Па брукаванцы ўверх памалу
Ручай вандроўнікаў плыве.
Тут хто куды, я — да Шагала,
Туды, дзе ён спачыў навек.*

*Я завітаў сюды здалёк,
Чытаю звесткі на пліце на вузкай...
Шагалаў помню васілёк
На палатне, ён — вобраз беларускі.*

**2**

*Шагал цудоўна закаханы,
Фантазіяй век апантаны.
Мастак арлу падобны быў,
Найболей волю ён любіў,
Лунаў, высока гнездаваўся.
Ударам лёсу не здаваўся.
Далёка бачыў. Жыў ён так,
Як толькі хоча жыць мастак,
Сабой-асобай заставаўся.
Зусім не ўсім даступны стаўся.*

## Талент нямых

*У тамбуры шматлюднай электрычкі
Так жыва размаўлялі дзве нямыя,
Падобныя, бы родныя сястрычкі,
Прыгожыя абедзьве, маладыя.*

*Ім жэсты, міміка служылі мовай,
Багатай на эмоцыі даволі.
Уражаны нязвычнаю размовай,
Пра талент іх падумаў я міжволі.*

*Так, гэта талент з моцнаю асновай —
Не разгубіцца перад цяжкай доляй.*

# Марсіянскія хронікі

**У віленскай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы (у зборах Беларускага музея імя Івана Луцкевіча) захоўваецца шэраг дасюль не публікаваных і вядомых хіба што спецыялістам рукапісаў Язэпа Драздовіча, беларускага мастака, скульптара, этнографа, археолага, педагога, аднаго з заснавальнікаў нацыянальнага гістарычнага жывапісу.**

Сярод іх стос сшыткаў і дзве адмыслова афармленыя самаробныя кнігі з апісаннямі «начных візіяў» — «самнамбулістычных» (як іх называў аўтар) падарожжаў у космас. Гэта дэталёвая дакументацыя ўсяго «ўбачанага» на Марсе, Сатурне, Месяцы, з асобнымі замалёўкамі, калажамі, а таксама мапамі, на якіх пазначаны іншапланетныя краіны, гарады. Язэп Драздовіч дэталёва фіксаваў у сваіх нататках геаграфічныя адметнасці планет, якія «наведваў», асаблівасці іх флоры, фаўны. Багата ўвагі надаваў і тамтэйшым насельнікам — больш ці менш чалавекападобным істотам, іх вонкаваму выгляду, адзенню, заняткам і побыту.

Натуральна, гэтыя тэксты фенаменальна неканвенцыйныя. Паводле загалоўкаў і на першы павярхоўны погляд яны фармуюць у чытача пэўныя прадчуванні. Чытач спадзяецца на штосьці накшталт навуковай фантастыкі — а гэта значыць, вострасюжэтны, дынамічны, захапляльны аповед з надзвычайнымі галавакружнымі прыгодамі. Але ў гэтых тэкстах няма ніякага сюжэту, а адзіная прыгода, якая тут адбываецца, можа быць асцярожна акрэсленая як «прыгода сузірання». Таму на пачатку гэтыя тэксты могуць адштурхнуць, збянтэжыць. Так, яны не адразу — і, напэўна, не кожнага — «упускаюць» у сябе. Але той, хто не адкладзе гэтае чытво на першых жа радках, будзе цалкам зацягнуты ў шчыльную медытатыўную плынь, загіпнатызаваны доўгімі, пакручастымі сказамі, закалыхвальнымі паўторамі слоў, нагрувашчванем мудрагелістых эпітэтаў. Здаецца, гэтыя тэксты з іх вельмі харызматычнай «шурпатасцю», «недасканаласцю» ні да чаго не падобныя…

Публікацыя ажыццёўлена ў межах праекта «Марсіянскія хронікі Язэпа Драздовіча». Фундатар — Павел Бераговіч.

Захаваныя ўсе моўныя і асноўныя арфаграфічныя асаблівасці арыгінала.

**Публікацыю падрыхтавала Лія Кісялёва.**

## Жыцьцё на Марсе

*(Урыўкі з рукапіснай кнігі)*



Язэп ДРАЗДОВІЧ

### У краінах людзей-марсіян умеркаванарослай белай расы

Горад. Пясочна-ружовыя гладкія сьцены ня надта высокіх мураваных дамоў. Прасторны чатырохкутны пляц-рынак. А на тым пляцу, з прыхаду — агромная чатырохкутнага пляну будыніна з гладкімі пясочна-ружаватымі высокімі сьценамі. А па-над тымі сьценамі — пласкаватая чатырохсхонная страха шэрая.



Аўтапартрэт. 1943 г.

А звыш тэй страхі па кутох над вуглам͏і сьцен — чатыры невысокія чатырохкутныя вежы…

А па-над стропам страхі, над сярэдзінай гэтай будоўлі, узвышаўся ўпрыгожаны зьверху невялічкімі чатырма надкутнымі вежачкамі мураваны чатырохкутны гладкасьценны купал, без вакон, мабыць, з празрыстаю страхой наверсе, дзеля сьвету.

Шырыня таго хораму з даўжыню базылікі віленскай, а ў вышыню нашмат вышэйшы.

А па-за тым хорамам, на тым пляцы прасторным, зьбіраліся нейкія людзі на нешта і ўтварылі сабою агромную таўпу сярод пляцу.

Хутка, нябаўна пачалася ў таўпе суматоха, крычалі, махалі рукамі дый суматошна пачалі разьбягацца.

І ачысьціўся пляц той ад таўпы тых людзей — пазастаўся на ім толькі нейкі адзін чалавек цянклявы высокага росту, апрануты ў доўгую цёмна-шэрую сьвітку. Поза роўная, не сутулаватасьці, зь невялічкай цьмянай барадой і па каўнер падстрыжанымі шызаватымі валасамі, бяз шапкі, з бодранастройнымі рысамі загарэлага ад сонца досыць прыстойнага хударлявага твару.

Ён стаяў незварушна, направіўшы зрок свой узьняты дзесьці на хмарнаватае неба.

Ад ягонай досыць стройнай фігуры ды ня грубага рысамі твару з высакаватым узьнятым чалом веяла нейкай натхнёнасьцю праваты і адвагі.

Ён зрушыўся зь мейсца і, прайшоўшы зь дзесяць крокаў у бок, дзе стаялі радамі, паражнуючы, шалашна-рынкавыя сталы, ды прызастановіўшыся між імі, узнова пачаў незварушліва з узьнятым угару чалом… узірацца дзесь у сызавата-серабрыстую даль неба.

Як зараз аднекуль ці то стралой, ці то пошыб'ю нешта ўдарыла яму ў твар пад правае вока, і хлынула, палілася чырвоная кроў па ўсёй правай шчацэ ягонага твару. А ён як стаяў, так і пазастаўся стаяць незварушна. Не хапіўся рукамі за твар, дый нават і галавой сваёй не парушыўся, ня зводзячы воч сваіх з намэчанага пункту, як быццам зусім не зьвяртаў ён увагі на нанесеную некім аднекуль яму рану.

Цікава, што ж гэта магло б значыць?..

А праз нейкі тыдзень часу спусьціўшы, мне ўзнова давялося быць думкавым зрокам у гэтым самым невялікім, распакладзеным на нейкай раўнядзі, прыгожа разбудаваным, тонучым у зелені садоў горадзе і бачыць яшчэ раз усё таго самага чалавека ўяжджаючым з возам у горад.

Ён ня ехаў, а йшоў з той жа самаю бодраю позай з узьнятым высока чалом. А на твары ягонай у касьцях переносься з правага боку зіяла глыбокая, з чырвонымі грануляцыямі, адкрытая рана.

А па-за ім ззаду на павадзе ішла, валаклася запрэжаная ў аглоблі нейкай двухколай шырокай арбы чорная, даўгая, нізканогая, зь вялікімі сівымі крываватымі на галаве рагамі марсіянская карова, якая за сабой цягнула на двухколай арбе шырокі воз, нагружаны нечым у вялікіх, як сянікі, рагожастых мяхах.

А праз некаторы час гэты самы чалавек, але ўжо адзін, бяз тэй даўгой чорнай запрэжанай у воз каровы, праходзіў між цёмна-шэрымі сьценямі людзей па асьветленаму зь некалькіх мяйсцоў, і ня зьверху, а як быццам — ад ручных ліхтароў […] зьнізу бледна-зеляньсаквым сьветам, — рынку, ды энэргічным мужным голасам нешта выгукаваў, злучаналасовымі ўперамежку з энамі і эрамі гукамі слоў, зь якіх далося толькі некаторыя запамятаваць, як: «Куа́», «Куа́о», «Куаро́», «Куана́орум».

Выгляду іншых людзей у гэным горадзе, — апрыч гэтага аднаго чалавека, які сваім выглядам падабізны прыпамінаў партрэт аднаго беларускага пісьменьніка (Ядвігіна Ш.), — добра разгледзець не давялося, як і не давялося разгледзець, хто як і якімі таварамі на гэтым рынку торг вядзець.

Давялося толькі, хоць і мільком, але выразна, бачыць некаторыя асаблівасьці гэнага гораду: усе ягоныя пясочна-ружаватага колеру муры, апрыч таго аднаго вялізнага муру, што каля пляц-рынку, былі невысокі, гладкасьценісты і двухстолістэ, зь вялікімі прастакутнымі вакнамі ў верхніх паверхах, а ў ніжніх, якія служылі, як відалася, за высокую падмуроўку і, апрыч дзьвярэй, ніякіх вакон ня мелі.

Вуліцы роўныя і шырокія. Паміж мурамі зеленаваце͏лі, зеляніліся зь невысокіх густалісьцястых дрэў зялёныя сады.

Не відалася тут, на вуліцах гэтага гораду, ані тэлеграфных, ані ліхтарных стаўпоў, ані разнародных умоўных знакаў, шыльдаў ды розных табліц з напісамі, як гэта вядзецца ў нашых зямных гарадах.

### У трапікальнай краіне «Шырокага каналу» між пустынямі Libia і Arabia

На загонутае пытаньне: «З чаго жывуць, чым кормяцца марсіяне», — якія, як відалася па адсутнасьці шырока распаханых хлебародных палёў, ня пашуць і ня сеюць (так, як мы, зямляне), а нешта ж ядуць, — у адказ на гэта я ўвідзеў:

1) нутро нейкага памяшканьня, з шырокім вакном нейкая хата. А на асяродку тэй хаты стаяў нейкі нізенькі стол, і за тым сталом сядзеў сярэдняга росту, у шэрай зь ценкай тканіны сьвіты, малады бязвусы, паўнакроўны, пацяглавататвары і даўганосы марсіянін, а перад ім стаяла дашчаная чатырохкантовая скрынка — угору шырэйшая, а ўніз, у дна, вузейшая — зь нейкім чырвона-малінавым густым празрыста-кісяляватым сокам, прыпамінаючым нашыя мармэляды, а найболей журавінны кісель;

2) нутро нейкага мураванага таўстасьценнага падвалу-сутарэні з шырокімі, але нізкімі сукоснасьвецючымі згары ўніз падстольнымі ў аднэй са сьцен вакнамі.

Пад адным з такіх вакон відаўся засек, запоўнены невялічкімі кругленькімі — з выглядам нашых зямных пэрсікаў — жоўтымі яблыкамі.

Пад другім вакном стаяў, нагнуўшыся над кучай крыху большых яблыкаў, нейкі чалавек у шэрай ценкатканай сьвітцы і капашыўся, перакладаючы гэтыя яблыкі зь мейсца на мейсца. А на асяродку таго падвалу рухаўся, пахаджаваючы, як відалася, ад няма чаго рабіць, другі чалавек і еў, пагрызаваючы, трыманы ў правай руцэ яблык.

Ростам гэты чалавек быў каля двух аршын. Апранут быў у белую ценкую кашулю і шэрую без каўнера сьвітку. Тып твару ягонага меў выгляд паўнакроўнага, пацяглавататтварага, даўгаватаносага, пры высакаватым чале, паўночнага блёндына зямлян белай расы — толькі бровы ягоныя занадта былі спускластыя, а ягоныя глыбокія вочы здаваліся надта невялічкімі і надта вузка седзючымі між сабой. У выразе міны ягонай адчувалася нешта, як кажуць, «зусім ня наскае», нешта занадта чулае, занадта жывое. А ў рухах ягонай фігуры — нешта жвавае, гібка-элястычнае, лёгка-рухавае.

### У краінах расы чырванаскурых безвалосых сутулаватых буйнарослых марсіян

Прыгожая, сьветлая і прасторная ўмэбліраваная саля, з высокімі гладкімі сьветла-сіваватымі сьценамі, ababiтымі нейкай аксаміцістай, быццам суконнай, тканінай. А ў той салі замейсц наскіх крэсел стаялі там ды сям парасстаўляныя нешырокія і без адвалаў мяккападушачныя канапы, даўжынёю кожная як на тры мейсцы седакоў.

Канапы гэтыя былі апаабіваны сіваватым аксаміцістым сукном няпростага вырабу, ад якога наніз спускаліся фрэнзьліватыя белыя абляможкі. А па кожнай канапе перак мяккага сядзеньня відаліся белыя шнуркі, пераціскаючыя сядзеньне на тры мяккія падушкі. Відаліся апрыч гэтага на некаторых канапах, якія стаялі каля сьцен, і асобныя невялічкія падушкі-падлакотніцы з прыгожымі каляровымі ўзорамі, вышытымі на іх рознакалёрнымі ніткамі па сіваватаму фону. Над кожнай такой прысьценнай канапай на сьцяне, знаць, дзеля адвалу — сіваватыя дываніки з рознакалёрнымі дысэнямі на іх.

А на аднэй з такіх канап сядзела высокага росту, хударлявая, рыжатварая, апранутая ў даўгую з далікатнага матэрыялу чорную сукню нейкая дама, як відалася, ужо сталага веку. А на галаве ейнай, круглай і безвалосай, чарнавацела шырокая кверху, круглая, плецкаверхая, з калiткаватым, як мяхі ў кармонiку, зьнізу ўгору акалушыстая чорная шапка, прыпамінаючая формай свайго выгляду форму шапкі кітайскага багдыхана.

А ў твары сваім ласьнячаскурым, рыжа-бронзавага колеру і хударлявым, мела нешта птушынае, у якім усе лініі даўгаватага роўнага носу, шчок падвочча і падбародку схадзіліся на клін — дзюбу малога прастору ля губы між канцом носу і малапрыкметным падбародкам.

Прысадка галавы на тулаве мела выгляд як ня маючай шыі, а праз гэта выразна кідалася ў вочы ейная сутулаватасьць.

Чало мела гэтая дама значна адсядзістае назад пад адну лінію з рабром даўгога носу. Бровы чорныя, ценкія і крыху ўзьнятыя. Вочы цёмна-каштанавыя, зь нейкім чырванаватым водблiскам, з вузкаватымі гарызантальнымі прорэзамі і з малазначнымі бялкамі. Нос даўгі, роўны, кантавасты, які займаў сваёю даўжынёй большую палавіну ейнага твару. Скулавыя лучайкі выпіналіся, як у манголаў. А скiвiцы (чэлюсьці) прадстаўлялі зь сябе як быццам вострактутнікі, у накалах якіх зьмяшчалася вузкаватая цэнклявавусная губа, занімаўшая сабою як у паносьсі, так і ў падгуб'і зусім маленькую, найменшую часьць твару. Вушы ж як быццам занадта пласкавыя, даўгаватыя і прылёгшыя да пазаскроньня.

Плечы мела ўмеркаваныя, крыху спускластыя. Грудзей не заўважыў. А рукі даўгаватыя і кастлявыя. Пальчаткі ж рук даўгавата-ценкапалыя.

Бачыў, як гэтая непаварушна сядзеўшая дама, не крануўшы галавы, а толькі акідаваючы зрокам сваіх цёмна-каштанавых воч, узьняла, выцягнула ў паветра сваю кастлявую правую руку з выцягнутым наўперад

# Язэпа Драздовіча

пальцам-паказьнікам, аддаючы камусьці са сваіх залежных, знаць, нейкі загад або проста нешта некаму паказвала…

А ў міне ейнага твару, асабліва ў выразе воч, адчувалася нейкая ўласталюбівая строгасьць і наагул нешта эгаістычнае.

А праз адчыненыя шырокія дзьверы на нейкім атрыюме ці то проста панадворку, дзе сьвятло відалася ня збоку, ад вакон, а згары, ад неба, — знаходзіліся і яшчэ дзьве нейкія дамы.

Адна з гэтых дам сядзела на нейкіх прыступках, а другая стаяла, быццам чаго паджыдаючы, і абедзьве гэтыя дамы былі апрануты ў аднолькавага фасону вопраткі, як і папярэдняя, толькі розьнючыя ад чорнай вопраткі папярэдняй сваімі памерамі.

Тая дама, якая знаходзілася далей і паседжавала, была апранута ў нешта цёмнае, цёмна-каштанаватае. А бліжэйшая, якая стаяла, — у сьнежна-белае. Сьнежна-белая даўгая сукня і сьнежна-белая на галаве ейнай шыракаверхая круглая шапка — таксама з заборчатым аколушцам, як і ў папярэдніх.

Як выглядала з твару тая, што сядзела, — не заўважыў. Але гэтая, якая была ўся ў белі і стаяла, бадай што, нічым ня розьнілася па сваім агульным павярхоўным выглядзе здалёку ад нашых стройнага складу высакаватых белых эўрапіянак.

Яна была румяніста-белага, нехударлявага, авальнага твару, дый зусім не суталавастай, не бясшыйвай фігуры, як папярэдняя. І з усяго — як зь белай ейнай вопраткі, зь белага ейнага твару і складу ейнай фігуры, — відалася, што яна не тутэйшая, што яна зусім зь іншай краіны, з краіны белай расы, ды што яна тут толькі тымчасовая, як госьця, стаяўшая і супакойна наджыдаўшая, мабыць, традыцыйных запросін з боку гаспадыні дому гэтага, у якім і была гаспадыняй тая сталага паджылага веку хударлявая суталаватая бронзаватварая дама.

**Вільня, лета 1932**



Язэп Драздовіч. Чорная вежа. З альбома «Жыццё на Месяцы». 1932 г.

**Перада мною распрасьцёрлася ў начной цемнаце глыбокая і прасторная надазёрная даліна вялікага загадкавага луннага гораду Трывежу**

## У мурох Трывежу

Перада мною распрасьцёрлася ў начной цемнаце глыбокая і прасторная надазёрная даліна вялікага загадкавага луннага гораду Трывежу.

Горад спаў. Не відалася на ім аніякага бляску агнянога сьвятла. Толькі на выпнутым у возера тупым накале невысокага гладка абмураванага берагу сьвяцілася нейкае невыразнае серабрыстага колеру сьвятло, асьвятляючы сіваватае надузьбярэжжа чарнаводнага возера.

А зблізіўшыся да гэтага сьвятла, — аказалася, што на беразе возера над самаю вадой стаяў круглы ценкі і ня надта высокі стоўп, а на гэтым стаўпе ўгарэ, зь лейкавастым расшыраным да нізу рэфлектарам, — зьвісаў і сьвяціў электрычнага тыпу ліхтар.

А па-за гэтым ліхтаром, непадалёку, стаялі тры невялічкага росту шэранькія чалавечыя фігуркі жывых людзей, якія былі апрануты ў нейкую караткавую сівую вопратку. На галовах іхных відаліся касматааколушыстыя, з пэрамідальнымі верхамі, круглыя шапкі. А на нагах нешта ў родзе касматых панчох. З адобы ж былі цьмянатварымі і круглалікімі.

Навотдалі ад берагу на чорным фоне паверхні возера відалася нейкая сіваватая плямка, а над ёю, праменямі ўгору — фасфарычнае сьвятло.

А за возерам дзесь далёка-далёка ў цемнаце нешта бліснула ясна чырванаватым залацістым сьвятлом раз па разу тры разы, як быццам ад патройнага выстралу зальпам.

А прыгледзеўшыся да асьветленай зь берагу ліхтаром нягладкай чорнай паверхні азярной вады, я заўважыў, што вада гэтага глыбокадаліннага возера хоць у запраўнасьці і як быццам не фалявалася, аднак жа мела ўздоўж берагу з напрамкам з захаду на ўсход нейкія віруючыя рухі, ад якіх па возеру паўзьлі, віруючы, акругляставерхія фалі, быццам чорныя сьпіны ныркуючых у вадзе бэгемотаў (гіпатамаў).

Задаўшыся думкаю цікавасьці, што прадстаўлялі і што сабою завершавалі тыя высачэзныя вастраверхія тры вежы, якія я бачыў раней над нейкай не разгледжанай мною добра будоўляй, — і я зараз жа апынуўся ў нейкіх старадаўнейшых цьмяных катакомбах, дзе каля сьцен на нейкіх прымурках ляжалі ў парадку разложанымі парудзелыя напаўстлелыя чарапы галоў чалавечых, а пад імі і ля іх рэшта іншых недатлелых касьцей галёнак, плечавіц, кульшавіц і г. д.

Ня будучы задаволеным ад віджанага, бо спадзяваўся на нешта іншае, на аглядзіны нутра велічава ўзьведзенага хараму, і я ўзнова направіўся пад гэтыя вежы і замейсц велічавай прыгожай нутрыхорамнай архітэктуры з аркамі ды калёнадамі, — я ўба[чы]ў узнова блізка, што такія самыя катакомбы, як і ў папярэдні раз, і толькі зь не са старымі напаўстлелымі касьцямі людзей, а з цэлымі, зь неразрушанымі шкілетамі.

Шкілеты гэтыя не ляжалі, а стаялі каля сьцен у нейкіх шыракаватых папеляхага колеру скрынках. І добра заўважыў іхні невялічкага росту склад, нічым ня розьнючы па свайму выгляду ад складу касьцязбораў зямнога чалавека, хіба толькі па грубаце, бо ў прапорцыі да велічыні росту косьці гэтых нябожчыкаў пakaзаліся мне занадта далікатнымі, цянклявымі. А чарапы — кароткагаловымі і з досыць высокімі выпуклястымі ілбамі. Пры гэтым заўважыў, што галовы гэтых нябожчыкаў, бадай што, ва ўсіх, былі пахілены на правае плячо, робячы ўражаньне, вызываючае пачуцьцё не адпіхаючага страху, а нейкага жалю.

У трэці раз пасьля віджанага ў мяне не знайшлося жаданьня на далейшае адшукаваньне таго, што хацеў знайсьці і ўбачыць пад гэтымі велічава ўзносістымі трыма вежамі. І са словамі: «Вечны ім пакой і сьветлая памяць між жывымі», — я адляцеў ад гэтага хараму разьвітаных з жыцьцём — у бок новага гораду, з пэўным жаданьнем [убачыць] найпрыгажэйшы з будынкаў гэтага гораду, а перадусім хоць са два абразкі з жыцьця жывых людзей гэтага пакрытага цемраю вялікага чужасьветнага гораду.

І я апынуўся ў нейкім беласьценным, досыць прасторным, але безваконным памяшканьні.

У адным з кутоў гэтага памяшканьня стаяў нізкаваты, вышынёй як у аршын, прастакуцісты стол. На стале гэтым сьвяцілася бела-сярэбрыстым сьвятлом круглаклёшавая, на цянклявай высакаватай ножцы тыпова электрычная лямпа. А перад лямпаю ў канцы столу на нізкаватым сяджэньні сядзела буйнаватагаловая, схілёная, абернутая ка мне профілем фігура чалавека.

Па выгляду з твару ён быў чарнявым, цьмянаскурым, бязвусым, безбародым, паўнашчокім і як быццам крыху азызлаватым. З чала выпукластaлобым. З носа акругчатаносым. З губы паўнавусным і з моцна разьвітымі караткавымі, але касьцістымі падбародкам і сківіцамі.

На вачах ягоных круглавацелі досыць буйныя выпуклястыя акуляры, праз якія наўскось блішчэлі нейкім асаблівым чырвоным блескам ягоныя досыць буйныя акруглястыя цёмна-карыя вочы.

Відочна, што гэта быў нейкі майстра, рамесьнік, які зь цярплівым супакоем і любоўю да свайго рамясла сядзеў і парадкаваў нейкія дробныя featnaвыглядныя, разложаныя на стале, мэталёвыя струмэнты.

Абярнуўшыся ўлева, я ўбачыў, як у белай таўшчэзнай мураванай сьцяне адчыніліся вузкаватыя дзьверы, а ў дзьвярах зьявілася невысокая, апранутая ў белую палатняную тогу, фігура цьмянатварага круглалікага чалавека, які тут жа прызастанавіўся і глянуў у мой бок, а ягоныя, ня то ў акулярах, ня то безакулярныя, вялікія круглыя вочы засьвяціліся нейкім таямнічым фасфарычным сьвятлом.

А праз пару сэкунд пасьля бачанага я ўжо быў на пазасьценьню ў побачлежным слаба асьветленым памяшканьні, якое прадстаўляла сабою відочна ня што іншае, як сталовую і кухню.

На нейкім цёмначыгунавастым стале ці то пліце стаяла нейкая цёмнамэталічная глыбокая лейкавастабокая пасудзіна, як нешта ў родзе рондля або глыбокай з расшыранымі высокімі берагамі патэльні, якую можна дастасоўваць да любой велічыні кухоннаплітавых адтулін, гледзячы паводле колькасьці стравы і патрэбнай на яе гарачыні, праз апусканьне то глыбей, то мяльчэй у гарон плітавога вогнішча. Але самае цікавае тое, што ў гэтай смажаўні я ўбачыў тое, чым кормяцца, чым харчуюцца тутэйшыя луніды-трывяжане. І аказалася, што яны тут такія ж самыя мясаедныя, як і наагул усе нашыя зямляне.

Са дна гэтай лейкавастабокай смажаўні вытаркаваліся тры нейкія ўсмажаныя пячонкі. Дзьве з гэтых пячонак былі невялічкімі, велічынёю з кулак. А адна зь іх — велічынёю з добрую абскубленую, выпатрушаную і засмажаную курыцу. Ды і выглядам сваім пячонка гэтая прадстаўляла сабой ня што іншае, як тулава запечанай усмажанай птушкі.

Толькі праз некалькі хвілін пасьля бачанага я пераканаўся, што запечаная на пячонку птушка не была птушкай, а нейкім бесскрыдлатым скакуном, галаскурым земнаводнікам.

Вандруючы далей, ужо не па лёхах і падстольлях таўстасьценных муроў гэтага загадкавага старадаўнейшага чужасьвецкага гораду, а па ўзьбярэжнаму надазернаму шырокаму і гладкаму бяздрэўнаму бульвару і як быццам праходзючы міма каля тунэлістай шырокаскляпеністай брамы нейкага цёмнага дому, я заўважыў, як раптам унутры гэтага тунэлю засьвяцілася нейкае жаўклявае сьвятло нейкай лямпы. На дне гэтага тунэлю відалася пацяглаватай формы зь пясочнымі берагамі лужа вады. А на берагу гэтай лужы сядзела, абярнуўшыся перадам да таго агню і лужы, нейкая прынізістая пясочнага колеру галаскурая, дзівачнага выгляду жывёліна, велічынёй з двухкілёвую абяспушаную курыцу. А па выгляду з галавы прыпаміналa вадзяную жабу, а з тулава, асабліва ж з хрыбта і хваставой часьці, — маладую аскубленую курыцу. З ног жа была падобна на нашага лугавога траскунчыка-скакуна, казельку.

Убачыўшы гэтага дзівачнага земнаводнага скакуна, мне адразу прыпомнілася Краіна задымленага неба, што на поўнач ад цёмнай плямы так званага ў астраноміі Мора Няпэўнасьці, і тая палявая дарожка непадалёку гор Чорнага Валу, на якой мне давялося аглядаць такога ж самага выгляду, толькі як быццам крыху рыжэйшага і нашмат меншага, скакуна, які тут на Месяцы замяняець сабою і птушак, і рыбу, ды, магчыма, што і штучна разводзіцца тутэйшымі жыхарамі-лунідамі, так як у нас крслікі, — на мяса.

Вандруючы далей па ўзьбярэжжу возера, на захад, і перабраўшыся перак нейкага вылогавістага пусткуючага мейсца, якое знаць што дзяліла сабою горад Трывеж на два месты, на старое і новае, і хоць уночы, пры ня надта ясным, цьмянаватым тут земнасьвеце, труднавата было штось-колечы разгледзець, але, прыгледзеўшыся добра, я замеціў, што будынкі новага места былі нашмат буйнейшымі, прасторнейшымі ды, магчыма, што і прыгажэйшымі за будынкі старога места.

І на жаданьне маё пабачыць самую найбольшую і найпрыгажэйшую будоўліну з будоўлі гораду Трывежу, я ўбачыў даўгі раўнасьценны нейкі дом зь велічэзнаю чырвонаю готыцкага выгляду брамаю ў сьцяне. А асобныя сьцены гэтага дому былі ашалёваны ў лажмавым парадку бліскучымі бледна-жоўтымі і зь зеленаватымі штрыхамі паліванымі, глязураванымі кафлямі — з выглядам аднолькавамернай дробнакалібэрнай цэглы.

На гэтым і закончылася мая пазапрасторная вандроўка на чужасьветны таямніча-загадкавы лунны горад Трывеж.

**Вільня, 8 лютага 1933**

# Падарожжа



Шарль БАДЛЕР

I

*Максіму дзю Кану*

*Для хлопцаў край зямлі — на глобусе*
*і мапе,*
*І ўся планета ім — вялікае «хачу!»,*
*Ды велізарны свет, што мроім на канапе,*
*Такі маленечкі — у памяці ўваччу!*

*Аднойчы адплывем, бы ў кругасветнай*
*гонцы,*
*У рытме горкіх хваль, на досведзе плыўца,*
*Спазнаць, што акіян — ніякі не бясконцы,*
*А мора нашых мар не ведае канца.*

*Кагосьці гоняць прэч няўдзячныя айчыны,*
*Камусьці родны дом абрыд яшчэ хутчэй,*
*А трэці забрыдзе — па рыфму —*
*да жанчыны*
*І згубіцца на дне Цырцэіных вачэй.*

*Каб у яе хляве свіннёй не жыць да смерці,*
*Лепш вырвацца і плыць, праз буруны і льды,*
*І пацалункамі пякельных сонцаў сцерці*
*Яе халодных губ апошнія сляды.*

*Ды лепшыя за ўсіх — вандроўнікі без мэты:*
*Пакуль салёны вір не перамеле ў глей,*
*Плывуць усё далей, праз лёсы і сусветы,*
*І ў свой апошні дзень яшчэ крычаць:*
*«Далей!»*

*Іх мары лёгкія, бы зменлівыя хмары!*
*Як шпага юнаку, як вецер караблю,*
*Ім сніцца дзіўны край — за краем нашай*
*мары,*
*Бо на зямлі ніхто не бачыў іх зямлю!*

II

*Мы круцімся ваўчком, о жах, мы скачам*
*шарам,*
*Наяве і ўва сне, заўсёды, дзень пры дні*
*Цікавасць у грудзях палае лютым жарам*
*І гоніць, як Анёл свяцілы ўвышыні.*

*Вар'яцкая гульня з рухомаю мішэнню,*
*Што можа быць нідзе, а можа быць паўсюль.*
*Здаецца, што набіў надзеямі кішэні,*
*Збіраў іх, ідыёт, але набытку — нуль.*

*Фрэгат душы плыве ва Ўтопію. На мачце*
*Пільнуе вартавы, што кожны верыць міф,*
*Глядзіць за гарызонт, крычыць: «Зямля!*
*Пабачце!*
*Багацце! Шчасце! Рай!..» О, д'ябал! Гэта рыф!*

*Убачыш астравок і ўявіш Эльдарада,*
*І — радасці да слёз, і — дзякуй, добры лёс!*
*І танчыць усю ноч Фантазія да ўпаду,*
*А з раніцы зірнеш — звычайны голы ўцёс.*

*О, летуценнікі, скарміць бы іх акулам!*
*Ці закаваць усіх надзейна ў ланцугі!*
*Усе Амерыкі адкрыюць вам агулам,*
*А потым памірай ад чорнае тугі!*

*Вось так стары жабрак сівухі пляшку*
*прыме*
*І крочыць у прытон, бо свечка на акне,*
*І думае, што ён з патрыцыямі ў Рыме,*
*І з валацугамі спіць радасна ў лайне.*

III

*Вандроўцы мудрыя! Як шмат у іх*
*скарбонцы,*
*Як шмат чытаецца ў глыбінях іх вачэй!*
*Расказвайце хутчэй, як месяцы і сонцы*
*На тым баку зямлі гараць яшчэ ярчэй!*

*Мы хочам вандраваць без ветразяў і пары,*
*Мы прагнем уцячы з будзённае турмы!*
*Стварыце ж краявід у раме нашай мары,*
*Дзе ў кожнай фарбе — мы, і ў кожным*
*слове — мы!*

*Што бачылі вы, што?*

*«Сузор'і і зацьменні.*
*Пустэльні і снягі. Затокі. Астравы.*
*Крушэнні караблёў. Віры. І тым не меней,*
*І ўсё-ткі ад нуды ўміралі… як і вы.*

*Ды ўвечары заход па-над марскім*
*абшарам*
*Пунсовым колерам падсвечваў гарады,*
*І сэрцы прагнулі, палаючы пажарам,*
*Нырнуць за небакрай, што вабіў*
*з-пад вады.*

*Што значаць гарады, скульптуры*
*і палацы*
*На фоне хараства, што з аблачынаў тчэ*
*Звычайны выпадак, тытан нябеснай*
*працы?*
*Імгненне, пачакай! Чаго жадаць яшчэ?*

*— Чым асалодаў больш, тым большае*
*жаданне,*
*Яно — магутны дуб, які расце з цябе,*
*І хутка да нябёс галінамі дастане,*
*І хутка ўсю зямлю карэннем прадзяўбе;*

*Расце, бы кіпарыс, не ведаючы стомы…*
*— Вам сувеніраў? Вось дзве трэскі*
*з карабля,*
*А вось «Дзявяты вал» — у вашыя альбомы,*
*Бо вам мілейшае — што прывязуць здаля.*

*— Мы бачылі палац з пачвараю на троне,*
*Шматрукіх ідалаў і з хобатам багоў,*
*І столькі камянёў каштоўных у кароне,*
*Што ў вашых багачоў мозг выйдзе*
*з берагоў;*

*Касцюмы, у якіх любы вам стане любы;*
*Факіраў, што змяю кунежаць без жуды;*
*Жанчынаў, што сабе фарбуюць нос*
*і зубы…»*

V

*І што, і што яшчэ?*



VI

*«Дзіцячыя глузды!*

*Пра ўсё распавялі й галоўнае забылі:*
*Праедзеш цэлы свет — або зусім крыху,*
*Ды ўсюды нудны фарс у старамодным*
*стылі,*

*Нечалавечая камедыя граху!*

*Жанчына — подлая раба свайго каханка,*
*Адданая — сабе, не менш за іншых баб;*
*І ейны гаспадар — шчаслівы, толькі з*
*банка,*
*Смярдзючы гнойны мех, сваёй рабыні раб;*

*Кат над ахвяраю з яе смяецца ранаў;*
*Парады-на-крыві, каб хлус дурніцы чоўп;*
*Улада, што цячэ па барадзе тыранаў,*
*І любым бізуном разбэшчаны натоўп;*

*Рэлігіяў (і ўсе — як нашая!) дзве скрыні,*
*І ўсе вядуць у рай, а вынік — як заўжды;*
*Святыя на цвіках, бы шлюхі на пярыне,*
*І стыгмы з язвамі, бы оргіяў сляды;*

*Пыхлівы Чалавек ад выбрыка любога*
*П'янее й моліцца на свой мізэрны плён,*
*І з бездані крычыць, бяздарны вучань Бога:*
*«Мой творца, мой двайнік, праклён табе,*
*праклён!»*

*І меншыя сляпцы, адбіўшыся ад статку,*
*Разумных бараноў, у летаргічны лёх*
*Праз опіюм вядуць сваю душу-вар'ятку, —*
*Вось нашае зямлі адвечны каталог!»*

VII

*Вандроўнік, горкі ўрок прыносяць*
*падарожжы.*
*Свет сумны і малы, і ты — паўсюль,*
*заўжды! —*
*Убачыш свой жа твар, спалоханы й*
*варожы,*
*Аазіс вусцішы паміж пяскоў нуды!*

*Дык ехаць або не? Павер, не ў тым*
*пытанне:*
*Патрэбна ехаць — едзь, застаўся — і няхай,*
*Ды помні, уцякач, што Час — паўсюль*
*настане,*
*Паўсюль дастане Час і скажа: «Падыхай!»*

*Не спіць, як Вечны Жыд, суворы, як апостал,*
*Час — нерат, і з яго ніводны не ўцячэ!*
*А хтосьці не бяжыць, яму і хаты ўдосталь,*
*Жыве да ста гадоў і хоча жыць яшчэ.*

*Але ў апошні дзень душа не пажадае,*
*Каб вораг цяжкі бот паставіў на хрыбет!*
*Сарвіся і плыві — да берагоў Кітая,*
*У вір, за далягляд, у Індыю й Тыбет!*

*Мы адплывем у змрок, шчаслівыя падлеткі,*
*Дзе ява стане сном, што помніцца*
*ледзь-ледзь.*
*Каб рухацца з вадой і ў бок пустое клеткі*
*З апошняе ладдзі без роспачы глядзець.*

*Ты чуеш, як пяюць: «Сюды! Па асалоду!*
*На свяце лотасаў забудзеце зямлю.*
*Каштуйце радасці дазволенага плоду —*
*Сок лотасу, які — без памяці люблю!»*

*Юнацтва галасы! Ці знойдзеш лепшы*
*лек ты?*
*«Хутчэй плыві, бо тут — усе твае сябры!*
*Тут адпачнеш ля ног каханае Электры,*
*Што любіць як сястра — і болей ад сястры!»*

VIII

*О Смерць, мой капітан! Праз хвілю*
*адплываем!*
*Бывай, абрыдлы свет! Стаў ветразь,*
*капітан!*
*Хай чорная вада за чорным небакраем,*
*Душа палае так, што ўспыхне акіян!*

*Асмяглых уратуй гаючаю атрутай,*
*Тапельцам адчыні апошняе жытло!*
*У Пекла або ў Рай — усё адно! — захутай*
*У Невядомае, бо іншае — было!*

**Пераклаў з французскай**
**Андрэй Хадановіч**

## Прэмія імя Карласа Шэрмана

**Нагадаем, што сёлета Беларускім ПЭН-Цэнтрам, Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Міжнародным дабрачынным фондам «Вяртанне» была заснаваная прэмія ў галіне перакладной мастацкай літаратуры імя Карласа Шэрмана.**

Узнагарода будзе ўручацца перакладчыкам за мастацкую перакладную кнігу, якая была апублікаваная ў годзе, што папярэднічае году намінацыі на прэмію. У выключных выпадках, калі пераклад на беларускую мову рабіўся некалькімі асобамі, прэмія можа быць падзеленая паміж імі.

Прэмія за найлепшую перакладную кнігу заснаваная ў гонар выдатнага беларускага літаратурнага перакладчыка Карласа Шэрмана (1934 —2005). Плануецца, што першая цырымонія ўзнагароджання адбудзецца ў дзень нараджэння Карласа Шэрмана — 25 кастрычніка.

# Прынц

## Памяці мастака-архітэктара Юрыя Петручука

Лявон ВАЛАСЮК

1

Марына, дваццацігадовая студэнтка ўніверсітэта, хвалявалася, едучы ў маршрутцы ад бабулі з процілеглага раёна горада: трэба было паспець яшчэ пераапрануцца і прыхапіць патрэбныя рэчы для заняткаў у другую змену. У раскладзе стаяла лекцыя, якую аніяк нельга было прапускаць: маглі ўзнікнуць непажаданыя наступствы.

Яна была прывабнай у светла-блакітных джынсах, праз навамодныя дзіркі якіх праглядвалі загарэлыя стройныя ногі. Трэба было забегчы дадому, каб потым ужо хуценька праскочыць праз некалькі вулак і гарбаты мост ды апынуцца ў галоўным корпусе на бульвары імя Тадэвуша Касцюшкі…

Надвор'е стаяла цудоўнае.

Марына добра сябе адчувала пасля летняга адпачынку: хацелася лётаць, кахаць, рабіць добрыя справы і падарункі блізкім людзям. Вучоба для яе была святам маладосці.

2

Вадзіму два дні як споўнілася 27 гадоў. Адчуванне таго, што на год стаў старэйшы, на год сталейшы, не пакідала яго. Ужо 27!

Адзначаў дзень народзінаў у любімым «Інтурысце», які ўпадабаў ледзь не са студэнцкіх гадоў. Вадзіма там задавальняла ўсё: агульны прыўзняты настрой залы, жывая музыка, знаёмыя музыканты. Ды і самі наведвальнікі, сярод якіх часта бачыў то знаёмых па ўніверсітэце, то сяброў школьных гадоў. Апошнім разам пазнаёміўся з цікавай дзяўчынай. Шкада толькі: яна потым непрыкметна знікла ў невядомым накірунку… Выглядаў, выглядаў, але безвынікова. Ды ў памяці засталася шчымлівая стрэмка ад сустрэчы з прыгажуняй, падобнай на адну вядомую актрысу савецкага кіно…

…Верасnёўскім днём Вадзім накіраваўся да свайго сябра Андрэя, які працаваў загадчыкам гаспадаркі гарадскога стадыёна.

Зранку Вадзіму не задалося вырашыць асабістыя вытворчыя справы: не прыехаў заказчык па выкананую працу і, значыць, не прывёз грошай. Вадзім, трэба сказаць, апрануўся ў чаканні дзелавога партнёра па вышэйшым разрадзе. Тым больш што з важкім ганарарам збіраўся пасля заехаць у рэстаран на абед… Планы, між тым, мяняць не хацелася. Тым больш, што ў галаве заставаўся прыкметны шлейф ад дня народзінаў, ды і думкі пра новую знаёмую не выходзілі з галавы: «Маладыя гады, маладыя жаданні…» Андрэй мог скласці кампанію на абед у рэстаране, бо незаўважна знікнуць з працы яму нічога не каштавала.

Вадзім мінуў шкляныя дзверы і апынуўся на тэрыторыі стадыёна, які не так даўно быў абноўлены да непазнавальнасці: прайшла капітальная рэканструкцыя трыбун, пасля якой тут маглі праходзіць нават спаборніцтвы еўрапейскага ўзроўню. Заходнія трыбуны знаходзіліся пад дахам, які захіляў ад дажджу, ветру, часам і ад спякотнага сонца. Там жа, у падтрыбунных памяшканнях, знаходзілася і працоўнае месца сябра.

Напярэдадні, ля трыбун, Вадзім заўважыў смяшлівую чародку дзяўчат, якія весела шчабяталі аб нечым сваім, студэнцка-дзявочым. «Пэўна, спартфакаўкі?..» — падумаў хлопец. Адна з іх нагадвала тую, што так раптоўна знікла з вачэй у «Інтурысце».

— Марына, глядзі, прынц!.. — упаўголаса прагаварыла высокая бландзінка на вуха дзяўчыне з цёмнымі, каротка падстрыжанымі валасамі і кіўнула ў бок Вадзіма.

— Галівуд адпачывае, — гарэзна прамовіла ў адказ тая.

— А я б раіла вам усім яго запомніць. З гальштукам, у капелюшы… Калі яшчэ такога можна пабачыць?! Мо госць са сталіцы завітаў да нас у горад?! — дадала бландзінка і голасна рассмяялася.

Вадзім і сапраўды выглядаў на «ўзроўні»: ружовая кашуля, блакітна-сіні ў палоску гальштук, касцюм пад сінім цёмным плашчом і вялікі чорны капялюш на галаве, які адцяняў яго светлы, добра паголены, твар з вялікімі рыжавата-цёмнымі вусамі. «Прынц то прынц, але з пустымі кішэнямі,» — з сумам падумаў хлопец.

Андрэй быў на месцы. Сустрэў Вадзіма прыязнай усмешкай:

— Ну што, бадзяешся без працы? І чаму да гэтай пары цвярозы? — пажартаваў сябар.

— Заказчык не прыехаў. А настрой не рабочы. Мо сходзім на абед у «Інтурыст»?

— Калі я быў супраць?..

— Тады збірайся, — Вадзім зняў і пакруціў у руках капялюш, здзьмуў з яго парушынку. — Цяпер там мала людзей: можна спакойна пагаварыць, паабедаць…

Год таму Андрэй неяк неспадзявана ўступіў той вялікі чорны капялюш Вадзіму за бутэльку каньяку, які яны ўдвах і распілі. Вадзіму падабаўся фацэтны галаўны ўбор. Ён адчуваў сябе ў ім утульна і вясною, і ўвосень.

— Тут да вас прыгожыя студэнткі прыходзяць пабегаць? — ці то запытаў, ці то адзначыў уголас Вадзім. — Адна чарнявая ў апошні час мне спакою не дае. Ёсць у ёй нешта незвычайнае. Пэўна, рамантычная натура…

…У зале рэстарана, як і чакалася, было нешматлюдна: яшчэ зарана для штатных наведвальнікаў.

Хлопцы занялі столік у куце, няспешна размаўлялі і раз-пораз паглядалі на галоўны ўваход: а раптам нехта знаёмы загляне сюды.

Першым стаў мастак Пятрук, які зазірнуў у залу ў пошуках знаёмай афіцыянткі. Запрасілі яго да стала, прапанавалі выпіць за былы дзень нараджэння Вадзіма. Той пагадзіўся, бо не спяшаўся нікуды.

Пятрук нечакана загаварыў, успомніў пра пляменніцу:

— Разумееце, прыгожая дзяўчына, студэнтка. Прасіла пазнаёміць з цікавым хлопцам. Марына ў наступным годзе заканчвае ўніверсітэт. Дарэчы, Андрэй, ты мог яе бачыць на стадыёне, на спартыўных занятках. Звярні ўвагу на брунетку з каротка падстрыжанымі валасамі!..

— А я яе, здаецца, ведаю!..

3

Вадзім ехаў дамоў у маршрутцы. Седзячы ззаду, паглядаў па баках, шукаў, што новае з'явілася ў знешнім вобліку вуліц і дамоў.

Горад пакрысе мяняў свой воблік, рыхтуючыся стаць культурнай сталіцай дзяржавы.

Новы губернатар вырашыў прывесці горад у належны стан: у былога неяк не атрымалася стаць гаспадаром не толькі вобласці, але і горада, хаця горад меў даўнюю гісторыю, старыя традыцыі, меў шмат таленавітых і працавітых людзей…

Перад скрыжаваннем вадзіцель рэзка тармазнуў. Прывабная дзяўчына спераду ледзьве не вылецела ў праход; Вадзім па інэрцыі выкінуў наперад правую руку і ўхапіў яе за джынсы, якія натужна затрашчалі. Пальцы сціснуліся на аголенай вышэй калена назе.

Дзяўчына пачырванела, абурылася. Узмахам левай рукі яна нечакана пляснула Вадзіма па твары. Той не паспеў нават штосьці сказаць у апраўданне, бо дзяўчыне трэба было выходзіць.

З таго здарэння запомніліся парваныя джынсы, праз якія вызірнулі ружова-блакітныя з кветачкамі трусікі… Гаспадыня джынсаў мела добры густ. Нават твару нечаканай спадарожніцы не паспеў добра разгледзець. Толькі патыліцу з каротка падстрыжанымі цёмнымі валасамі, якія падаліся знаёмымі.

Вельмі ж напаміналі дзяўчына ў модных джынсах новую знаёмую па «Інтурысце». «Тая таксама некуды спяшалася, пакінула залу, бы тая Папялушка з казкі. А я мог быць і больш настойлівым: пазнаёміцца бліжэй, правесці дахаты…», — разважаў Вадзім. Трэба будзе абавязкова адшукаць яе.

***

Неяк пад вечар у дзверы прыватнага дома пазванілі. Сярэдніх гадоў жанчына пайшла адчыняць.

— А хто гэта да нас без званка? — запытала ў маці Марына, выглядваючы ў лёгкім хатнім халаціку з дзвярэй залы.

— Прынц! — усміхнулася Наталля Пятроўна, са здзіўленнем гледзячы на Вадзіма, які «пры поўным парадзе» стаяў перад ёю з букетам белых ружаў.

# Штрыхі

## У вянок памяці Ігара Канановіча

Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

**Першыя радкі заўсёды даюцца цяжка. Але яшчэ цяжэй пісаць пра заўчасную смерць маладых і таленавітых. Вось і цяпер словы не складаюцца ў сказы і пальцы не хочуць набіраць два прыкрыя і балючыя: Ігар памёр.**

Пасля самагубства Сяргея Палуяна Ядвігін Ш. напісаў такія радкі: «Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя — заўсёды крывавяцца. Большыя залечваe толькі… смерць. Гэтак на душы».

Трагічная і заўчасная смерць маладога беларускага паэта і барда Ігара Канановіча — гэта незагойная рана на душы родных, сяброў, калег-пісьменнікаў і прыхільнікаў ягонай творчасці.

Я пазнаёміўся з ім яшчэ ў 2006 годзе, калі прыйшоў на паседжанне абласнога клуба «Жывіца» пры мінскай бібліятэцы імя Пушкіна. Вясёлы, жыццярадасны, дасціпны і таленавіты — вось мае першыя ўражанні пра Ігара. Ужо тады адчувалася: ён ведае, што робіць, для чаго і дзеля чаго. Такіх людзей можна ахарактарызаваць адным словам: стыль, стыль ва ўсім — у манеры выказвацца, чытаць вершы, спяваць, жыць.

Сустракаліся мы, як кажуць, рэдка, але ж метка. Раз на месяц на паседжанні клуба дзяліліся новымі вершамі, навінамі, але сябрамі так і не сталі. Праз пэўны час Ігар перастаў прыязджаць, не ведаю, з якой прычыны, а неўзабаве і я адышоў ад жыцця клуба. Кантакты нашыя сталі радзейшымі, і апошнім часам мы бачыліся пераважна на прэзентацыях, вечарынах.

…Дасюль не верыцца, што такое адбылося. Калі ў калонцы «Здарэнні» я прачытаў пра маладога 33-гадовага мужчыну, які скочыў з даху, мільганула думка: «Хоць бы не Ігар». Але мне чамусьці здавалася, што мы — аднагодкі, і я быццам бы супакоіўся. Але трывожнае пачуццё не пакідала ўвесь вечар, а наступнага дня ўсе пачулі вусцішную навіну. Яшчэ і цяпер здаецца, што гэта нехта іншы ляжыць, пакалечаны і распластаны, на бруку, а Ігара заўтра пабачу на чарговай імпрэзе, ён моцна пацісне руку і шчыра ўсміхнецца ў вусікі… Але гэта, на вялікі жаль, не так. Цяжка звыкнуцца з думкай, што яго няма сярод нас.

Чаму так сталася — мы ўжо не дазнаемся. Але ці важна гэта цяпер? Не ўратавалі, не збераглі. Сам ён вырашыў скочыць у вечнасць ці хтосьці дапамог — якая розніца? Праўды ўсё адно не даведаемся. Заўсёды, калі паэт ці музыка так памірае, з'яўляюцца розныя версіі і чуткі пра гвалтоўнае забойства, быццам вакол нас суздром ворагі ды сакрэтныя супрацоўнікі…

Я мяркую, што любы творчы чалавек хаця б аднойчы ў жыцці думаў пра самагубства. Асабліва цяпер. Хтосьці скажа: з любой сітуацыі можна знайсці выйсце. Пагаджуся, але бываюць такія моманты, калі чалавеку цяжка самому зрабіць гэта. Тады патрэбны той, хто дапаможа выблытацца з павуціны скрушных думак і супярэчлівых пачуццяў. Відаць, побач з Ігарам такога чалавека не было. Ягоныя апошнія дописы і вершы ў фэйсбуку сведчаць пра тое. Ён, можа, упершыню ў жыцці, прасіў паратунку. Моцны духам, валявы чалавек праваліўся ў дэпрэсію і ўжо не змог выкараскацца з гэтай багны.

Што ж здарылася? Грошы скончыліся? Для Ігара яны не былі самамэтай. Звольнілі з працы? Можна знайсці іншую. Выселілі з кватэры? Адна ягоная сяброўка пісала пра тое, што за некалькі хвілінаў да смерці тэлефанавала яму і пагадзілася прытуліць у сябе. Творчы крызіс? Адкуль? Новыя вершы з'яўляліся часта, нядаўна выдаў кніжку, актыўна друкаваўся, пісаў для Радыё Свабода. Значыць, нейкая іншая прычына, вядомая адно яму. Не дарма ж паэт прызнаваўся: «Не жыццё, а марудная, здзеклівая трагедыя». У каментары да таго дэпрэсіўнага допісу я ўсяляк спрабаваў яго падтрымаць, але гэта былі дзяжурныя словы, так бы мовіць, для прыліку. Дасюль дакараю сябе, што пры апошняй сустрэчы, за чатыры дні да ягонай смерці, не пагутарыў з ім. Наўрад ці гэта штосьці змяніла б, але ўсё ж…

Чаму мы сталі такімі чэрствымі і глухімі да чужой бяды, да просьбаў аб дапамозе? Але што цяпер казаць…

Ігара няма, засталіся вершы, кніжка. Кніжка з вельмі трапнай назвай — «Астэроід». Ён сапраўды праляцеў, як астэроід, і згарэў у нашай атмасферы. Хочацца верыць, што калісьці якое-небудзь нябёснае цела будзе насіць ягонае імя. Зорка ці камета.

Бывай, і пухам табе зямля, Ігару.

# Фацэцыі нашага часу

## Роздум над кнігай Уладзіміра Сіўчыкава «Уладзевы гісторыі: проза» (Мінск, 2015) на фоне яе прэзентацыі

Пятро ВАСЮЧЭНКА

**Прэзентацыя кнігі, якая адбылася сёлета ўвесну ў «Галерэі Ў» і сталася істотнай з'явай літаратурнага жыцця Беларусі, змусіла мяне пановаму паглядзець на тэкст, пацвердзіць або дапоўніць свае ранейшыя здагадкі.**

Мяне наведала думка пра тое, што нашай літаратуры хранічна бракавала асобы апавядальніка. Аўтараў у ёй нямерана, асабліва ў віртуальнай частцы нашай літаратуры, дзе пісьменнікаў відавочна больш, чым чытачоў.

Калісьці ён, апавядальнік, ён жа Казачнік, падтрымліваў увесь эпічны масіў вербальнай творчасці. Геніяльныя казачнікі кшталту Рэдкага, якога запісваў не менш геніяльны А. Сержпутоўскі, здаецца, сышлі ў мінулае. Тым больш адчуваецца настальгія па вусным аповедзе, па занатаванай гісторыі, або фацэцыі...




Гісторыі здараюцца з усімі і на кожным кроку. Але толькі гультаі не запісваюць іх, не ператвараюць у кнігу, як гэта зрабіў аўтар «Уладзевых гісторый». І вось у нашую найноўшую літаратуру ўвайшоў найноўшы герой — Уладзя, які час ад часу трапляе ў гісторыі, але часцей сам назірае іх, з цікавасцю і лёгкай іроніяй, часам смуткам, даволі часта падыходзіць да ўдзельнікаў той або іншай гісторыі і ўстаўляе сваё слоўка, але, самае галоўнае, даволі педантычна занатоўвае здарэнне.

Згаданую прэзентацыю, натуральна, вёў сам аўтар, рабіў гэта дастаткова вынаходліва і дасціпна, і, галоўнае, запрапанаваў кожнаму з выступоўцаў, каб не адчулі сябе гультаямі, распавесці ўласныя гісторыі. Гэтай магчымасцю з задавальненнем скарысталіся ўсе прамоўцы, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў, які падзяліўся гісторыяй пра тое, як вынаходлівая студэнтка-завочніца ўзяла ў сваёй сяброўкі дзіцяня напракат, каб лацвей было з крыклівым немаўляткам здаваць іспыты і залікі...

Здаецца, найбольшую суму смеху атрымаў Рыгор Сітніца, чые фацэцыі пераказаць проста немагчыма — іх варта або слухаць у аўтарскім выкананні, або кланяцца аўтару, каб таксама выдаў іх асобнаю кнігаю, калі ён, відома, не гультай.

Плённай была мікрадыскусія пра дыстанцыю паміж аўтарам гісторый і іх героем. Даверлівы чытач можа падумаць, што гэты самы Уладзя і ёсць не хто іншы, як сам Уладзімір Сіўчыкаў, бо ў творы фігуруюць персанажы, у якіх можна адгадаць жонку і дачок Сіўчыкава, яго блізкіх, сяброў, знаёмых.

Я пазнаю кагосьці знаёмага ў персанажы гісторыі «Мова продкаў», якога завуць Пятро В. Было, было... Былі і Асяніны, і традыцыйныя клёцкі з душой, якія так шануюць на Полаччыне, і працяглыя размовы пра жыццё і літаратуру, нават згадка пра чалавека-легенду Анатоля Папанава. «У гайдаеўскай кінакамедыі «Брыльянтавая рука» стварыў ён камічны эфект ад свайго героя-кантрабандыста праз мову сваіх беларускіх продкаў, а хутчэй праз так званую трасянку. Варта згадаць хоць некаторыя ягоныя рэплікі, расцяганы на цытаты: «Сядзем усе!», «Кутузаў!», «Кліент гатоў!», «Будзе табе там і ванна, будзе і кофа, будзе і какава з чаем!» Нават цютчаўскі раманс гучыць у Папанава з шаржыраваным беларускім акцэнтам: «Я ўстрэціў Вас і ўсё былое...»

Тут рэч не столькі ў Папанаве з яго акцэнтаваным «у нескладовым», а ў тым, што размова тая хоць і мелася, але цяпер пра кінаакцёра размаўляюць не рэальныя асобы, а Пятро В. і Уладзя, бо гэта ўжо літаратура.

Калі я тлумачу студэнтам літаратуру, дык часам ужываю даволі простыя мантры ды яшчэ паўтараю іх. Прыкладам: «Літаратура — гэта што? Літаратура — гэта тэксты. А з тэкстамі трэба рабіць што?» Студэнты хорам адказваюць: «Тэксты трэба чытаць».

Наступную мантру павінны ведаць і студэнты, і чытачы, і літаратурныя крытыкі (бо часам забываюцца). Аўтар і літаратурны «я-герой», ці, як яшчэ кажуць, наратар, — не адно і тое ж. Яны ніколі не супадаюць. Нават калі гэта героі «Споведзяў» Жана Жака Русо або Льва Талстога. Наратары жывуць у іншасвецці, і таму інакшыя. Праз тое я даволі скептычна стаўлюся да моднага на сёння жанравага вызначэння «нон-фікшн», бо ў літаратуры ўсё ёсць «фікшн». У тым ліку і «нон-фікшн».

Таму марна папракаць аўтара, што нешта запісаў не так, і даводзіць, што ўсё было інакш.

Уладзя, створаны Уладзімірам Сіўчыкавым, нагадвае мне фальклорнага Кіндзюліса, героя латышскіх показак, які неадменна з'яўляецца, нешта кажа і сыходзіць. А ўсе ўсміхаюцца. Толькі беларускі герой не чакае, што нехта нешта запіша, а запісвае сам.

Вядома ж, літаратурны герой можа пераймаць некаторыя рысы свайго стваральніка — як жа інакш? Як і У. Сіўчыкаў, літаратурны Уладзя мае дзве адукацыі — мастака і філолага. У яго назіральнае мастакоўскае вока, здольнасць да эксфразісу (калі мастацкія рэаліі перадаюцца вербальным шляхам). Яго трывожыць усё, што звязана з мастацтвам, ад класічнага жывапісу да прыдарожнага інсітнага мастацтва (гэта значыць, размаляваныя прыдарожныя валуны), і лёс зніклых металічных цмокаў і жабак у жылым раёне Уручча, дзе ён пражывае значны час.

І разам з тым ягоны слых завостраны на слове, філалагічных рэаліях. Чытачу будзе цікава даведацца, што слова «шашлык» паходзіць ад «шашы», што ў мове фарсі азначае «шэсць», і што класічны шашлык — гэта калі на шампур нанізваюцца шэсць кавалачкаў добра прамарынаванага маркачыка («Нацыянальная страва»). Або што слова «піжон» паходзіць з французскай і азначае «голуб» («Піжоны»).

«Уладзевы гісторыі» шмат у чым нагадваюць показкі, легенды. Анекдоты на Беларусі запісваліся ў глыбокай старасвеччыне. Усім вядомая «Торба смеху» Караля Жэры. Е. Раманаў, А. Сержпутоўскі паназапісвалі мноства такіх анекдотаў, ад якіх у далікатных паненак пачырванелі б вушы. Але важна не толькі запісаць. «Уладзевы гісторыі» вылазяць з фальклору, запаўзаюць у сучаснае жыццё, і робіцца цікава.

Чытач не стрымае ўсмешкі, калі прыгадае, дзякуючы Уладзю, рыжабарадаты анекдот пра тое, як Мядзведзь, Воўк і Ліса намерыліся гуляць у карты (напэўна, на грошы). Чытаймa гісторыю «O sancta simplicitas!»

«У альтанцы на лецішчы рэзаліся ў карты тры дзеўкі-пенсіянеры...» — «У альтанцы на лецішчы рэзаліся ў карты тры дзеўкі-пенастоўкі.

Міма праходзіў Уладзя і прачытаваў мядзведзеву рэпліку, канцоўку анекдота пра карцёжнікаў — мядзведзя, ваўка і лісіцу:

— А хто будзе махляваць, таго рыжай мордай аб стол!

Рудаваласая Тацццяна П. ускінула на яго свае блакітныя вочы і прастадушна прашаптала:

— А ў мяне не рыжая морда!»

Анекдот сам па сабе смешны, перадусім як лінгвістычны, але Уладзя ўмела злучае яго з жыццём, і атрымліваецца анекдот у анекдоце.

Кніга споўнена моднай на сёння татальнай іроніяй, якая здатная, паводле маіх ранейшых назіранняў, ратаваць чалавецтва ад страхаў жыцця. Як гэта вядзецца ў беларусаў, Уладзя здатны паіранізаваць і з самога сябе, пра што сведчыць гісторыя «Вот какой рассеянный!..». Яе герой блытае шапкі, акуляры, аўтамабілі, і ў гэтай бясконцай бойцы з рэчамі не баіцца падацца смешным. Самаіронія для беларусаў — рэч даўняя, барочнае, можна сказаць, вынаходніцтва, калі прыгадаць, між іншым, «Прамову Мялешкі», аўтар якой з уяўнай прастадушнасцю разважае пра тое, якая дурніна ёсць швейцарскія гадзіннікі, і што лепшы за іх певень, «які няхібна апоўначы кукарэкуець».

Нашай літаратурнай традыцыяй з'яўляецца імкненне спалучаць прыемнае з карысным, як гэта вучыў рабіць барочны паэт Сімяон Полацкі, і што абарочвалася часцяком маралізатрастваў. Ах, не судзіце залішне нашых літаратурных суддзяў, бо што нам, беларусам, было рабіць, калі не мелі сваёй філасофскай школы і філосафа накшталт украінца Скаварады (пакуль не з'явіўся Ігнат Абдзіраловіч). Мелі Францыска Скарыну ды іншых асветнікаў. Па інерцыі і сёння літаратура час ад часу займаецца асветніцтвам, не цураецца і маралі строгай, пра што сведчыць, прыкладам, практыка таленавітага сатырыка Алеся Няўвеся.

Вось і Уладзя часам падыходзіць і пачынае павучаць перакінчыкаў, хамелеонаў і беларусафобаў, але ён не збіраецца, як той Мядзведзь, рабіць ім мордай аб стол і не выяўляе той зацятай ксенафобіі, уласцівай памянёнаму Мялешку, які марыў няпрошаных гасцей «па мордзе, па хрыбце і па ліцом, абы кароль, яго мосць, не ведаў». Уладзя ўжывае практыкі пакеплівання, пацвельвання, пра што сведчаць, прыкладам, гісторыі «Мімікрыя», «Пікіроўкі».

Яму не абыходзіць змест сучаснага календара і пазначаных у ім псеўдасвятаў («Прафесійныя святы»). Здавалася б, такая дробязь — каляндар. Але ж гэта занатаваны гадавы цыкл, які нашыя продкі шанавалі здаўна, стварaючы земляробчы каляндар, шануючы царкоўны. І нават бунтаваліся супраць прыняцця грыгарыянскага, пра што сведчыць падрабязны запіс у «Баркалабаўскім летапісе». Каляндар — сам па сабе сакральны тэкст. Недарэмна шляхціч Завальня меў удома толькі дзве кнігі: Біблію і Каляндар.

Нават патрапіўшы ў бальніцу, Уладзя не кідае сваёй завядзёнкі пікіравацца з суседзямі, такі ўжо ў яго палемічны склад натуры («Палата № 13»). Уладзеў настойлівы беларусацэнтрызм падмацаваны дыхтоўнай літаратурнай традыцыяй.

Пад сучасную літаратуру створана тысячагадовая культурніцкая глеба, і «Уладзевы гісторыі» ўзгадаваліся на ёй, асабліва на старадаўняй традыцыі дыярыушаў, хаджэнняў, фацэцыяў. Майстры новай літаратуры — М. Гарэцкі, З. Бядуля, Ядвігін Ш., Я. Брыль, А. Карпюк, В. Адамчык ды шмат хто іншы стваралі глебу мініяцюрнай прозы, на якой выгадаваліся Уладзя і яго сучаснікі. Шмат хто з нас вучыўся тэхніцы стварэння макрападзеі з мікрападзеі, занатоўвання жыццёвых і літаратурных уражанняў, у тым ліку і я, грэшны, ствараючы свае «філалагемы» і «пятрогліфы».

Глеба творыцца для таго, каб угнойваць наватворы, але перадусім спараджаць мастацкія адкрыцці. Што новага ў параўнанні з ранейшымі літаратурнымі гісторыямі змяшчаюць «Уладзевы гісторыі», апроч адметнай інтанацыі, аўтарскай усмешкі, унікальнасці ўласных назіранняў за жыццём?

Мне думаецца, эпічнай дамінантай твора, яе падзейным цэнтрам з'яўляюцца лысагорскія рэаліі. Лысая Гара — сапраўдная сталіца краіны, якую стварыў Уладзя. Ён будзе выцягваць свае прыгоды з Франкфурта, Стакгольма, Гётэборга ды іншых далёкіх і блізкіх гарадоў, але Лысая Гара ўсё адно будзе вабіць яго.

Міхась Скобла ў сваёй рэпліцы прыгадаў пачатак лысагорскага эпасу — вядома ж, «Сказ пра Лысую Гару». Містычнае і рэальнае жыццё гэтай мясціны працягваецца. Для Уладзі Лысая Гара не проста дачны кааператыў, дзе размяшчаецца і ягоны маёнтак, але прастора, дзе па-ранейшаму адбываецца літаратурнае жыццё. Сённяшнія лысагорцы мала нагадваюць тых савецкіх «піцьменнікаў», якія змагаліся за дзялянкі, будавалі дамкі і прыбіральні, шукалі ўгнаенняў, пілі гарэлку, лашчылі дзяўчат і маладзіц. Гратэскава-сатырычны свет, створаны класікам, як і побыт беларускіх савецкіх пісьменнікаў, стаў жыццёвым і літаратурным міфам — вось што творыць з рэаліямі час. Лысагорцы сёння вядуць высокаінтэлектуальныя размовы пра літаратуру і мастацтва, замест бульбы і буракоў вырошчваюць экзатычныя кветкі, гуляюць у карты. Пісьменнікі не адвыклі яшчэ ад сялянскае касы дзеля брутальнага трымара і часам усчынаюць інтэлектуальныя бойкі вакол адкляпанай і добра навостранай «літоўкі» («Касі, каса, пакуль раса!»). Традыцыйнай засталася чарка і скварка, толькі цяпер персанажы не проста бяруць чарку, але «чаркуюць», як і належыць насельнікам гары, колісь заселенай чарадзеямі і вядзьмаркамі.

Але і гэты свет, як скрушна заўважае Уладзя, вельмі хутка можа стаць маргінальным і пусціць у сябе новых уладальнікаў, як гэта адбылося ў «Вішнёвым садзе» Антона Чэхава. Са скрухаю ў мініяцюры «Сумная тэндэнцыя» Уладзя пералічае пісьменнікаў і сваякоў, што прадалі свае лецішчы на Лысай Гары». «Скрушна, бо на пісьменніцкіх лецішчах саміх літаратараў становіцца ўсё меней», — заўважае ён. Добра, што аўтар кнігі прыслухоўваецца да парады, якая прагучала на прэзентацыі, і сам не спяшаецца пакідаць мясціну, дзе літаратура наўпрост судакранаецца з жыццём.

«Уладзевы гісторыі» запоўнілі значную літаратурную лакуну ў жанравай прасторы беларускіх дыярыушаў, бурлескаў, фацэцыяў, іранічнай і мініяцюрнай прозы, хаця нагадаю і пра тое, што літаратура не можа надоўга замыкацца на самой сабе, і таму жадаю Уладзю і таму аўтару, які стаіць па-за ягонай спінай, не толькі назіраных, але і прыдуманых гісторый, бо іх сучаснай беларускай літаратуры бракуе. Сюжэты павінны спараджаць сюжэты. І я таксама, як і паэт Леанід Д.-Л. (так у кнізе), буду надакучліва пытаць: «Уладзя, а ты пра гэта напісаў?» А яшчэ буду нагадваць сучасным аўтарам пра тое, што з літаратурных гісторый складваецца гісторыя нашай літаратуры, а апавядальнасць — касцяк паўнавартаснага пісьменства.

# Жніўная спеласць

**Выйшаў чарговы 83-ці нумар часопіса «Дзеяслоў». Як заўсёды, аб'ёмны, але гэтым разам вельмі кампактны тэкстава (малафарматная проза, шмат вершаваных падборак, прыцягальная эпістальярная, мемуарная, літаратуразнаўчая і крытычная літаратура).**




Коратка, бы колішні зазывала, намякну, што тут да чаго...

Аповесць «Дом з дамавікамі» **Уладзімера Арлова** — лёгка чытэльны, напісаны ў жанры рамантычнага фэнтэзі, твор, прыцягальны адмысловым сюжэтным ходам, эратычнай стылістыкай і забаўнай мовай, — са сваімі ўзбуджаючымі пахамі і паставамі, эмацыйна-прыцішанай пачуццёвасцю ды таемна-туманнымі заваражваючымі абрысамі нечаканых наступстваў...

Вядомы пісьменнік з яркай гістарычнай падсветкай як бы адхінуўся ад сваёй магістральнай творчай ідэі (беларушчыны) на карысць новага мастацкага светабачання (быць у еўрапейскім трэндзе). Чытач апынаецца ў прахалоднай Швецыі, але ўсё ў тых жа знаёмых літаратурных пастках беларускага *лавеласа* У. Арлова. Раю пачытаць і займець асалоду і задавальненне.

Вядомы паэт **Леанід Дранько-Майсюк,** ухапіўшыся за каларытны нацыянальны вобраз караткевічавага героя Гервасія Выліваха («Ладдзя Роспачы»), вядзе яго праз сюжэтнае сіта сваёй аднайменнай міфалагічна-рамантычнай паэмы «Ладдзя Роспачы», якая дадае пазітыву да памяркоўнага менталітэту беларускага чалавека і тым самым пакідае яму надзею на выйсце з самага цяжкага (маральна рабскага) прыгнечанага нацыянальнага становішча... Дзіўна, што я не адразу, але ўсё ж заўважыў такую нечаканую параду ў безвыходнай сітуацыі, якая праектуецца наўпрост на сённяшняе грамадскае супрацьстаянне ў краіне. Гервасій Выліваха, дзеля *ўласнага* выйгрышу, ідзе на хлусню і падман...

Гэтым разам, шчыра кажучы, нічым не ўразіў мяне аповед любімага празаіка **Вінцэся Мудрова** «Марсіяне над вёскай». Так, ён не выпадае з яго, ужо засвоенага чытачом, іранічнага савецкага стылю, і вельмі ж напамінае яго даўнія (сярэдзіны 1990-х) расповеды пра Ваньку Бяньковa, што друкаваліся ў часопісе «Крыніца». Часу з той пары прамінула дастаткова для змены двух літаратурных пакаленняў, а ўсё тая ж проза пісьменніка чамусьці зноў апынулася на паверхні... Магчыма, яна архіўная. Вінцэсь, чакаю *новага!* Як і Нобелеўскай прэміі твайму любімцу Ісмаілу Кадарэ...

Вершы розных гадоў **Васіля Жуковіча** напісаны ў традыцыйным нацыянальна-патрыятычным стылі. У іх шмат гістарычных і надзённых адсылаў, спавяданняў, болю і надзей, што падчас зацяняе мастацкую выяву паэтычных твораў. Але адкладваецца цікавейшае, як, скажам, з верша «Відовішча памяркоўных»:

*А нам Бог даў, як надта памяркоўным,*
*Трагічнага й камічнага пароўну:*
*Трагікамедыя ў нас, як нідзе,*
*Бесперастанку з пафасам ідзе...*

Заканчэнне гістарычнага дыптыху «Тайны агент» **Генрыха Далідовіча** (пра душыцеляў і карнікаў паўстання К. Каліноўскага) нечым падобнае да мастацкага нарыса, заснаванага на дакументальнай падкладцы. Спроба ўвасаблення нацыянальна самаснай Беларусі: яе ахвярныя гераічныя сыны, прадажныя выжлы і гнюсныя імперскія забойцы — іх сутыкненні, сувязі і трагічныя развязкі ў часе і вечнасці... Такое кожнаму беларусу трэба ведаць і памятаць.

Пасля вершаў паэтаў традыцыйнага складу чытаць творы **Андрэя Гуцава** — гэта як перанесціся з жураўліна-шчымлівага айчыннага абсягу ў касмічна-мройнае і ўнутрана адлюстраванае чалавечае існаванне... Словы і сэнсы Гуцава віснуць і перамяшчаюцца ў бязважкасці нашага быцця, быццам паказаны на тэлэкране рэчы ў касмічным караблі падчас палёту. І яны напраўду ствараюць ілюзію нашага вандравання ў падсвядомае... Нярэдка — высока паэтычнага, але, на жаль, не заўсёды. Вось фрагмент аднаго з узораў паэзіі:

*па-за гранямі граняў*
*адчуванне адценняў*
*я тваё заміранне*
*ты маё замірэнне*

Невялікае апавяданне **Паліны Качатковай** «Хлопчык у кватэры № 0», як і вышэй згаданы тэкст В. Мудрова, з рубрыкі рэтра. Яно напісана з разлікам на разнапланавыя асацыяцыі ў пераасэнсаванні падзей першых шырокамаштабных грамадскіх супраціваў аўтарытарнай уладзе Лукашэнкі. Сказаць, што апавяданне надта зачапіла, не выпадае, але і прахадным яго не назавеш. Мне падалося, што аўтарцы трэба дадаць сваёй прозе эмацыянальнасці і сюжэтнай вастрыні.

Не ведаю, навошта тонкаму пачуццёваму лірыку Таццяне Будовіч браць псеўданім з сатырычным адценнем — **Тадора Шпілька?** Гэта не скасоўвае хібаў некаторых яе вершаў, як і не робіць незаўважнымі яе паэтычныя ўдачы. Калі б нізка складалася не з 23-х вершаў, а, скажам, як на мой выбар, з чатырох («Калядны верш», «***радасць сцякае слязой па шчацэ», «***ты крылы загоіш», «***старой вярбы лістота»), то ад паэзіі Таццяны я быў бы ў вялікім захапленні. Зрэшты, як яна сама піша:

*...не смуткуй бо канец Адысеі*
*ёсць пачатак для новай надзеі*

Апавяданне **Зараславы Камінскай** «Гульня словаў» — гэткая маладзёвая густа і арыгінальна закручаная проза, тым больш з актуальным і па сёння гістарычна-дакументальным сюжэтам. Ёсць стылёвыя надрывы і статычная моўная недастатковасць, але ў асноўным твор вельмі цікавы і, як на мяне, то адзін з лепшых у гэтым нумары.

Залішне аб'ёмная падборка ўнутрана-спавядальных вершаў **Юрыя Ігнацюка.** Аднатонна-бясконцых, з чыстым паэтычным вытокам і шырокім запруджаным вусцем празаічнага наплыву... Альтэр-эга — вось дамінанта яго вершатворчасці. Самакрытычны пошук уласнай сутнасці ў часовым зямным існаванні.

Усцешана прачыталіся даволі жывыя, нажытыя спрадвечна-надзённым вопытам мініяцюрныя запісы **Мікалая Мароза.** *«Дарога дамоў бліжэй. Такое ўжо ўладарства часу і святая вера ў некранутасць ісціны: дом пакідаеш — журышся, вяртаешся дамоў — самі ногі нясуць. У Васіля Быкава было інакш. З'язджаў з Радзімы з горыччу і вяртаўся з цяжкім сэрцам. Душа карцела апошні прытулак знайсці на Бацькаўшчыне».*

Ёсць зерне натхнёнасці і боскага дару ў паэтычнай нізцы **Алеся Нінько.** Нельга не звярнуць увагу на алітэрацыйную музычнасць такіх ягоных радкоў:

*Ваганні восеньскіх варункаў*
*варушаць водсветы надзей...*

Аднак па прачытанні ўсіх вершаў адчуваецца, што маладому паэту яшчэ трэба карпатліва развіваць і ўдасканальваць мову, стыль і форму ў сваіх творах.

Вярнулі мяне ў юнацтва родныя матывы з аповедаў гомельскай літараткі **Юльяны Пятрэнка.** Як тонка, глыбока і пранікнёна піша яна пра беларускую вёску, якая, на жаль, паступова памірае шмат дзе і шмат у чым!..

Аповед дэбютанткі часопіса **Крысціны Бандурынай** «Гарадскія ланцужкі» выклікаў у мяне процілеглыя вычуванні: штучнасці і натуралістычнасці. Сумясціць іх мне так і не ўдалося. Глыбокі сэнс аповеда застаўся ў аўтарскай задуме (галаве), а на паперы выявіўся толькі яго халодны ценевы адбітак. І ўсё ж літаратурныя здольнасці пісьменніцы ў гэтым тэксце адметныя і заўважныя, што дае спадзеў на яе новыя больш дасканалыя публікацыі.

Яшчэ адзін дэбютант — **Ігар Высоцкі.** Публікуюцца яго хутчэй бардаўскія, чым чыста паэтычныя тэксты. Прозвішча, як кажуць, змушае да супастаўлення... Бадай і вершы нашага Высоцкага ў выкананні Ігара будуць з вялікім задавальненнем праслуханыя і ўспрынятыя, але, будзем шчырымі, як паэзія яны яшчэ не вытрымліваюць высокіх чытацкіх патрабаванняў...

Яшчэ з мастацкіх твораў у нумары змешчаны выдатныя пераклады А. Хадановіча з паэзіі нашага земляка французкага класіка **Гіёма Апалінэра** і два апавяданні двух балгарскіх пісьменнікаў **(Георгі Маркава і Міхаіла Вешыма)** у прафесійных перакладах Таццяны Анікеенкі.

Другая частка часопіса (публіцыстычная, дакументальна-мемуарная, літаратурна-крытычная) не менш цікавая, чым першая. Адкрываецца яна выбранымі публікацыямі з кнігі ўспамінаў пра выдатнага паэта **Генадзя Бураўкіна** «Перадусім Беларусь». Для гэтай публікацыі С. Шапран падрыхтаваў тэксты кінарэжысёра У. Арлова, дыктара тэлебачання З. Бандарэнкі, паэтаў і пісьменнікаў В. Іпатавай, В. Казько, У. Някляева, С. Панізьніка, грамадскага дзеяча і літаратуразнаўцы А. Фядуты.

Друкуецца скампанаваны С. Дубаўцом электронны эпістальярый паэткі **Таццяны Сапач.** Гэта гранічна шчыры, сямейны, натуральны, з дамешкам іроніі голас чалавека з нашай памяці. Такі бясконца жывы жаночы стыль, што нават не верыцца, што сама Таццяна ўжо вітае нас не з гэтага, а з таго свету.

Цікавыя запісы **Сяргея Законнікава** «Рабскі дзень, вольная ноч». Вось страфа з тэксту:

*Дзе ты, кося мой верны, блукаў,*
*Што любіў апантана, найболей,*
*Што ў агромністым свеце шукаў?*
*— Толькі волю, адзіную волю!*

Ведаючы афіцыйную біяграфію вядомага паэта, усё ж хочацца яму верыць...

Упэўнены, што публікацыя «з пошты былога рэдактара штотыднёвіка» «ЛіМ» **Міколы Гіля** прыйдзецца да густу шматлікім, як сталым, так і маладым, літаратарам і чытачам часопіса. І смешнае, і грэшнае там пабач.

Думаецца, чытачам, асабліва датычным да літаратурнай творчасці, прыдасца гутарка літаратуразнаўцы Таццяны Барысюк з сёлетнім юбілярам, прафесарам **Арнольдам Макмілінам,** англійскім філолагам, прафесарам Лонданскага ўніверсітэта, які ўжо доўгі час адсочвае беларускі літаратурны працэс — піша пра яго, аналізуе і выдае арыгінальныя кніжкі з уласным бачаннем і разуменнем таго, што адбываецца ў нашым пісьменстве.

Артыкул (а можна назваць яго і своеасаблівым эсэ) «Матрыца Беларусь» **Уладзіміра Мароза —** своеасаблівы імянны зборнік духоўнай беларушчыны, месцамі трохі хаатычны, але даволі пранікнёны, напісаны з з вялікім пачуццём нацыянальнай годнасці. Вось для прыцягнення чытацкай увагі такі пасаж: «*...з'явіліся ў нас апошнім часам рускамоўныя беларускія нацыяналісты, нават абмяркоўваецца такая з'ява... І самому, бывала, думалася — няхай сабе, быццам таксама робіцца справа беларуская. Але калі капнуць глыбей — не. Што такое любіць Беларусь па-руску? Гэта як быць крыху цяжарным. Дык вызначыся — цяжарны ты ці ўсё ж пустадомак неаплоднены? Выдзерці мову — значыць, выдзерці душу Беларусі. А без душы нічога няма, пустэльня, што тут, братка, ні кажы. <...> Сёння беларуская справа не можа быць без беларускай мовы...*» Магчыма, пісалася ў запале з разлікам на палеміку. Ёсць пра што гаварыць і спрачацца...

Як заўсёды, ёсць месца ў часопісе і сябрам «альтэрнатыўнага» СП. Гэтым разам публікуе свае «штрыхі да творчага партрэта Вацлава Ластоўскага» літаратуразнаўца **Іван Саверчанка.**

**Анатоль Астапенка** піша пра жыццё і творчасць Міхася Стральцова — «Гросмайстар беларускага слова». І хоць асабіста я пакуль нічога новага не вычытаў, — але будзе працяг, а гэта інтрыгуе (паколькі аўтар таварышаваў з Міхасём Лявонавічам падчас яго «захмельнага» перыяду жыцця). Мяркую, менавіта гэтыя, рамантычна-драматычныя і лёсавызначальныя эпізоды жыцця і будуць найбольш цікавымі шматлікім чытачам і прыхільнікам творчасці знанага сёння паэта, празаіка і крытыка.

Пра новую кнігу празаіка Валерыя Казакова «Черный кот» разважае ў сваім артыкуле «Са сховаў нацыянальнай самасвядомасці» **Леанід Галубовіч.**

**Марыя Маляўка** рэцэнзуе зборнік паэзіі Людкі Сільновай «Горад Мілаград». Уразіла і спадабалася яе рэзюмэ напрыканцы: «*Здзейсніўшы паэтычную экскурсію ў горад Мілаград, пераконваешся, што літаратура — бясконцае вяртанне да спрадвечнай гісторыі, а мова — мора з няспынным рухам хваляў*».

Пагодзімся. І заадно запросім чытачоў да старонак 83-га нумара часопіса «Дзеяслоў», у якім, на маю думку, вышэй агучаная канцэпцыя Марыі якраз і выяўляецца.

**ЛеГАЛ**

## Будзьма з «Дзеясловам»!

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.*
*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*
*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*
*Будзьма разам!*

# Лісты Кафкі

**Ізраільская нацыянальная бібліятэка атрымае каштоўныя рукапісы твораў і лісты Франца Кафкі. Адпаведнае рашэнне ў жніўні прыняў Вышэйшы суд Ізраіля.**

Працэс пачаўся ў 2009 годзе ды ішоў гэтак жа заблытана, як і аднайменны твор аўтара. Таму грамадзянка Ізраіля Эві Хофэ ўжо ў трэці раз не змагла дамагчыся, каб яе, а таксама ейных пляменніц прызналі праваправаемнікамі каштоўнай спадчыны Кафкі, а таксама сябра пісьменніка Макса Брода.

Незадоўга да сваёй смерці ў 1924 годзе Франц Кафка папрасіў свайго сябра Брода спаліць яго творы. Але той захаваў рукапісы і вывез іх у Палестыну.

Пасля смерці Брода ў 1968 годзе спадчына Франца Кафкі перайшла ва ўласнасць былой сакратаркі Эстэр Хофэ. Частку тэкстаў яна прадала, а другую захоўвала ў сейфах банкаў у Ізраілі і Швейцарыі. Пасля яе смерці, паводле запавету, паперы перайшлі ва ўласнасць да яе дачок.

Вышэйшая судовая інстанцыя Ізраіля падкрэсліла, што Макс Брод завяшчаў перадаць спадчыну Кафкі габрэйскай бібліятэцы. Брод не хацеў, каб гэтыя каштоўнасці «прадавалі тым, хто больш заплаціць», адзначылі суддзі.

Нацыянальная бібліятэка ў Іерусаліме вітала рашэнне суда. «Гэта — дзень радасці для ўсіх аматараў культуры як Ізраіля, так і ўсяго свету», — заявіў старшыня праўлення ўстановы Давід Блумберг. Бібліятэка арганізуе выставу твораў і спадчыны Макса Брода, заявіў ён. Сярод іх нямала ўласнаручна напісаных Кафкам лістоў да Брода і рукапісы «Сельскага лекара» і «Вяселля ў вёсцы».

# Энцыклапедыя жыцця і творчасці Івана Франка ў 7-мі тамах

**Падчас святкавання 160-годдзя з дня нараджэння класіка ўкраінскай літаратуры Івана Франка па замове Дзяржкамтэлерадыё ў межах бюджэтнай праграмы «Украінская кніга» ў 2016 годзе будуць апублікаваны шматлікія выданні твораў пісьменніка, а таксама навуковыя даследаванні яго творчай спадчыны.**

Усеўкраінскае спецыялізаванае выдавецтва «Світ» пачне рэалізацыю амбіцыйнага праекта сучаснай франкіяны — Франкоўскай энцыклапедыі ў сямі тамах. У гэтым годзе запланаваны выхад першага тома энцыклапедыі, аўтарам і складальнікам якой з'яўляецца калектыў дзяржаўнай установы «Інстытут Івана Франка НАН Украіны.

Энцыклапедыя будзе змяшчаць артыкулы пра ўкраінскіх літаратараў, фалькларыстаў і мовазнаўцаў — ад пачынальнікаў новай украінскай літаратуры да тых, хто трапіў у поле зроку І. Франка або пры яго жыцці пакінуў выказванні пра яго, бачыў яго і потым напісаў успаміны.

У львоўскім дзяржаўным выдавецтве «Каменяр» пабачыць свет паэма Івана Франка «Іван Вышенський» у двухмоўнай версіі (украінская і ў перакладзе на польскую). Польскі пераклад ажыццявіў сын Івана Франка Пётр. Гэты пераклад будзе апублікаваны ўпершыню.

У дзяржаўным спецыялізаваным выдавецтве «Адукацыя» выйдзе шрыфтам Брайля зборнік казак Івана Франка «Калі яшчэ звяры казалі». Пераклад Івана Франка «Кнігі быцця» ўвойдзе ў зборнік «Найстаражытная літаратура Шумеру, Вавілону, Палестыны», якую рыхтуе да друку Харкаўскае выдавецтва «Факт». Кіеўскае дзяржаўнае выдавецтва «Дніпро» таксама звяртаецца да літаратурнай спадчыны Івана Франка: там выйдзе гістарычная аповесць «Захар Беркут».

Творы Івана Франка неаднаразова выдаваліся ў межах бюджэтнай праграмы «Украінская кніга». У прыватнасці, толькі ў мінулым годзе па замове Дзяржкамтэлерадыё Украіны два айчынныя выдавецтвы, якія спецыялізуюцца на выпуску кніг для дзяцей і юнацтва — харкаўскае выдавецтва «Ранок» і кіеўскае «Авіас» — выпусцілі на заказ Дзяржкамтэлерадыё тры зборнікі казак Івана Франка (агульным накладам 7000 асобнікаў). Выраблены яны на якаснай паперы з выдатнымі ілюстрацыямі сучасных мастакоў. Увесь наклад гэтых кніг паступіў у дзіцячыя бібліятэкі.

**Дар'я Кучарэнка**

# Юбілей Даўлатава

**3 верасня споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння Сяргея Даўлатава.**

Каля 30 гадоў пісьменнік жыў і працаваў у Пецярбурзе (на вуліцы Рубінштэйна, 23). Менавіта гэты адрас і стаў цэнтрам верасНёўскіх мерапрыемстваў у памяць С. Даўлатава.

Каля дома паўстаў помнік пісьменніку (аўтар скульптуры Вячаслаў Бухаеў, фундатар — Дмітрый Нікіцін).

Напярэдадні юбілею «Дом культуры» Льва Лур'е заснаваў таварыства аматараў пісьменніка і задумаў фестываль «Дзень Д», або «Дзень Даўлатава».

«Пры жыцці дзяржава пісьменніка не заўважала, і мы таксама вырашылі абысціся без яе дапамогі, — прызнаўся Леў Лур'е. — Ахвярадаўцы адгукнуліся імгненна». Па словах Лур'е, каля 300 чалавек пераvялі 1,6 мільёнаў расійскіх рублёў на рахунак грамадскай арганізацыі «Дзень Д».

Акрамя гэтага, пад запланаваныя мерапрыемствы ўладальнікі бясплатна вылучаюць залы, авіякампаніі прадаюць у растэрміноўку квіткі (на фестываль чакаецца шмат гасцей з іншых гарадоў і краін).

Акрамя выставы Ніны Аловерт у музеі «Эрарта» ў праграме значацца: выстава пра газету «Новый Американец», у якой Даўлатаў быў галоўным рэдактарам, экскурсія па даўлатаўскіх месцах у Пецярбурзе, джазавы парад, рэтраспектыва дакументальных і мастацкіх фільмаў, прывезеных з Нью-Ёрка, спектаклі па творах Даўлатава, адкрытыя чытанні апавяданняў пісьменніка, вечар успамінаў, канцэрт памяці Ленінграда 1960–1970-х гадоў, круглы стол з удзелам Тацяны Талстой, Віктара Шандаровіча, Якава Гардзіна і інш. Таксама арганізатары абяцаюць квэсты, інтэлектуальную гульню «Ведай і любі свайго Даўлатава». Яшчэ адна з задумаў — адкрыццё «помніка на дзень» Сяргею Даўлатаву.





# Гісторыя нямецкага гімна

**175 гадоў таму назад была напісана «Нямецкая песня», якая стала гімнам Нямеччыны.**

Але першыя дзве страфы гэтай песні, у тым ліку славутае «Дойчланд, Дойчланд, убер алес», не выконваюцца. «Нямецкая песня», або «Песня немцаў», якая сёння з'яўляецца нацыянальным гімнам ФРГ, была ўпершыню праспяваная з нагоды афіцыйнай дзяржаўнай урачыстасці праз паўтара дзесяцігоддзі пасля смерці аўтара яе тэкста Гофмана фон Фалерслебена і амаль сто гадоў пасля таго, як з'явілася музычная кампазіцыя Ёзэфа Гайдна, на якую пазней былі пакладзены словы песні. Згаданая ўрачыстасць адбылася ў жніўні 1890 года ў сувязі з далучэннем да Германскай імперыі выспы Гельголанд, якая да таго была брытанскай.

На Гельголандзе фон Фалерслебен і напісаў сваю «Нямецкую песню», скончыўшы гэты верш 26 жніўня 1841 года. Яго паклалі на музыку Гайдна, напісаную калісьці для гімна — але для іншага, імператарскага, з такім пачаткам:

*Гасподзь, беражы кайзера Франца,*
*Нашага добрага кайзера*
*Франца!..*

Песня вельмі хутка здабыла папулярнасць і пасля Першай сусветнай вайны стала гімнам Веймарскай рэспублікі. Але пры нацыянал-сацыялістах, якія прыйшлі да ўлады ў 1933 годзе, пачатковая страфа «Дойчланд, Дойчланд убер алес!..») — здабыла зусім іншы сэнс. У «трэцім рэйху» спявалі толькі яе і яшчэ, радзей, другую страфу («Нямецкія жанчыны, нямецкая годнасць…»). У трэцяй страфе верша фон Фалерслебена ішла гаворка аб «праве і свабодзе», што нацыстам не падабалася, і таму пры Гітлеры замест яе выконвалі словы адной з нацысцкіх песняў.

Сёння ж не спяваюць тыя дзве першыя страфы, якія «набылі» благую славу (да якой аўтар, зразумела, не мае дачынення). І менавіта трэцяя страфа, і толькі яна, з'яўляецца сёння гімнам аб'яднанай Нямеччыны:

*Адзінства, права і свабода*
*Для нямецкай Айчыны, —*
*Давайце ўсе імкнуцца да гэтага!..*

# Рогі Хэмінгуэя

**Удава журналіста і пісьменніка Хантэра С. Томпсана Аніта вярнула нашчадкам Эрнэста Хэмінгуэя насценныя ласіныя рогі, якія яе муж скраў з маёнтка нобелеўскага лаўрэата ў 1964 годзе.**

Па словах Аніты Томпсан, яе муж наведаў маёнтак Хэмінгуэя ў горадзе Кетчум у штаце Айдаха ў 1964 годзе, праз тры гады пасля таго, як аўтар раманаў «Бывай, зброя» і «Па кім звоніць звон» здзейсніў самазабойства. Мэтай візіту быў збор матэрыялу для эсэ «Што завабіла Хэмінгуэя ў Кетчум?».

А. Томпсан сцвярджае, што яе муж у доме Хэмінгуэя настолькі ўразіўся, што не змог утрымацца ад крадзяжу рагоў, якія ён згадвае ў сваім эсэ. Журналіст меў намер павесіць выкрадзены паляўнічы трафей у сваім гаражы, але ў выніку ўсё жыццё саромеўся свайго ўчынку і хацеў вярнуць рогі нашчадкам пісьменніка.

Як і Хэмінгуэй, Хантэр Томпсан застрэліўся — 20 лютага 2005 года. Найбольш вядомым яго творам з'яўляецца раман «Страх і агіда ў Лас-Вегасе».

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Guardian, Deutsche Welle, The Telegraph, lenta.ru, Associated Press.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

Алег НОВІКАЎ

# Служу Еўрапейскаму саюзу!

**У Еўропе ўсё часцей кажуць пра неабходнасць стварэння арміі Еўрасаюза. Наколькі рэальны гэты праект, якімі могуць быць яго мадэль і асноўныя задачы?**



Для Еўрасаюза, акрамя негатыўных момантаў, Brexit — выхад Вялікабрытаніі з ЕС — утрымлівае і пэўны пазітыў. Сыход Лондану, як піша прэса, даў зялёнае святло для будаўніцтва еўрапейскай арміі. Менавіта брытанскія палітыкі ўвесь час блакавалі ініцыятыву, якую ўпершыню агучылі яшчэ два дзесяцігоддзі таму. Брытанскую пазіцыю эксперты звязваюць з традыцыйным нежаданнем Лондану ісці на шчыльную інтэграцыю ў еўраструктуры. Еўрапейская армія азначала частковае падпарадкаванне найбольш вялікага на кантыненце брытанскага войска Брусэлю.

Праўда, у аматараў арміі Еўрапейскага саюза хапала апанентаў і акрамя брытанскіх еўраскептыкаў. Асаблівай неабходнасці аб'ядноўваць свае мілітарныя рэсурсы ў сяброў ЕС, падавалася, не было. Апошні раз ваенныя дзеянні ў Еўропе мелі месца на тэрыторыі былой Югаславіі напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Акрамя таго, усе еўрапейскія дзяржавы ўваходзяць у NATO, якое, паводле статутных дакументаў, павінна іх абараняць.

Аднак у апошнія часы мы сталі сведкамі з'яўлення новых выклікаў для ЕС — падзеі ва Украіне, нелегальная міграцыя, тэрарызм... Шукаючы на іх адказы, у Еўропе задумаліся пра сваю вайсковую структуру, якая зможа аператыўна рэагаваць на нейкія надзвычайныя сітуацыі. NATO ў гэтым плане больш нязручная арганізацыя, паколькі важнае рашэнне можа быць прынятае пасля абмеркавання з удзелам прадстаўнікоў усіх сяброў, у тым ліку тых, якія не ўваходзяць у ЕС. Праўда, трэба візнаць, што зараз у Альянсе запусцілі працэс стварэння сілаў звышхуткага рэагавання.

Так ці інакш, інтарэс да ідэі войска ЕС адрадзіўся на вачах. Больш за тое, справа дайшла да канкрэтных крокаў. Вызначальнай падзеяй стала сустрэча 22 жніўня прэм'ераў Італіі, Германіі і Францыі. Падчас прэс-канферэнцыі яе ўдзельнікі публічна падтрымалі новы праект. У некаторай ступені гэта было сенсацыяй. Тая ж Францыя доўгі час — як і Вялікабрытанія — сабатавала ідэю аб'яднанага войска ЕС.

У пачатку верасня ў прэсу трапілі фрагменты першых канкрэтных прапазіцый такога войска. Іх аўтарамі сталі італьянцы, на думку якіх трэба знайсці стымулы для сумесных праграм унутры ЕС «для развіцця і агульных закупак абсталявання і інфраструктуры для абслугоўвання адзінай палітыкі бяспекі і абароны». У тэксце прапаноўваюцца розныя ідэі, у тым ліку прадастаўленне міністэрствам абароны і абаронным фірмам Еўрасаюза доступу да фінансавання з Інвестыцыйнага банка ЕС і Фонду стратэгічных інвестыцый ЕС.

Тое, што драйверам праекту войска ЕС выступае Італія, сведчыць пра нейкія патэнцыйныя супярэчнасці ў комплексных падыходах. Відавочна, што Італія марыць за кошт арміі ЕС узмацніць свае паўднёвыя марскія межы, якія атакуюць мігранты з Афрыкі. У сваю чаргу, прыхільнікі еўрапейскай арміі з Брусэля і Берліна асноўнай місіяй такога войска бачаць стрымліванне Расіі на Усходзе. Прынамсі пра гэта заявіў кіраўнік Еўракамісіі Жан-Клод Юнкер у інтэрв'ю газеце «Die Welt». «Адзіная еўрапейская армія мусіць перадаць выразны сігнал Расіі, што мы сур'ёзна ставімся да абароны нашых еўрапейскіх каштоўнасцяў», — паведаміў еўрачыноўнік.

Пытанне геапалітычных прыярытэтаў будучай арміі можа стаць тормазам для праекту. Акрамя таго, у тым жа інтэрв'ю Юнкер абмовіўся, што зонай дзейнасці будучага войска могуць быць не толькі краіны аб'яднання, аднак і тэрыторыі суседніх дзяржаў. Ці гатовыя бюргеры галасаваць за такі ваяўнічы пражэкт, асабліва з улікам адной праблемы — татальнай адсутнасці пасіянарнасці ў жыхароў краін ЕС? Уцягнутыя ў логіку спажывання, яны падсвядома не гатовыя ахвяраваць жыццём за высокія ідэалы. Папулярна праводзіць паралель з рэакцыяй французаў на вайну з немцамі ў 1940-м: каб есці свае круасаны і піць віно, абсалютная большасць насельніцтва пагадзілася адмовіцца ад суверэнітэту.

**У Еўропе задумаліся пра сваю вайсковую структуру, якая зможа аператыўна рэагаваць на надзвычайныя сітуацыі. NATO — арганізацыя нязручная, у ёй рашэнне можа быць прынятае толькі пасля абмеркавання ўсімі сябрамі, у тым ліку тымі, якія не ўваходзяць у ЕС**

Акрамя стратэгічных нестасовак, на шляху будаўнікоў арміі ЕС хапае і іншых перашкодаў. Незразумела, нашто еўрапейская армія краінам, якія наўпрост не сутыкнуліся з пагрозай Расіі або нацыскам мігрантаў — напрыклад, Партугаліі або Ірландыі. Наколькі краіны перыферыі гатовыя фінансаваць вайсковую інфраструктуру ва ўмовах цяперашняга эканамічнага крызісу? Некаторыя з бедных сяброў ЕС ужо бурчаць, што два працэнты бюджэту, якія яны павінныя плаціць у фонд NATO — гэта зашмат.

У якасці ілюстрацыі: у чэрвені былі апублікаваныя вынікі сацыялагічнага апытання грамадзян краін ЕС, якое правяла арганізацыя «Pew Research Center». Даследаванне сведчыць, што толькі ў адной краіне — у Польшчы — большасць насельніцтва падтрымлівае ідэю павелічэння вайсковага бюджэту. Пасля палякаў ідуць галандцы (49%) і шведы (43%). Іншым еўрапейцам тэма абароны, у прынцыпе, фіялетавая. Рэкардсмены тут іспанцы (14%).

Таксама незразумелая мадэль новай арміі. Аўтаматычнае пераўтварэнне нацыянальных войскаў у падструктуры агульнага войска ЕС нічога не вырашае. Нацыянальныя арміі большасці краін ЕС вельмі слабыя. У ліпені эксперты амерыканскага аналітычнага цэнтра «Atlantic Council» пралічылі, што Расія пры неабходнасці магла б захапіць Прыбалтыку за 60 гадзін. Відавочна, што праект войска ЕС як канфедэрацыі нацыянальных войскаў не мае перспектывы. Трэба ствараць інтэрнацыянальныя прафільныя структуры.

Вельмі незвычайная рэакцыя на праект войска ЕС у Маскве. Частка экспертаў, натуральна, пабачыла тут крыніцу новых пагрозаў. Аднак існуе і палярны падыход. Некаторыя падтрымліваюць праект арміі Еўрасаюзу, якая, на іх думку, можа ўзмацніць палітычны суверэнітэт Еўропы адносна ЗША.

У любым выпадку, палітычны каляндар дыктуе еўрапейскім палітыкам сёння больш цікавіцца не арміяй ЕС, а выбарамі ў ЗША, Францыі і Германіі. Пасля іх на Захадзе пачнецца новы палітычны цыкл, падчас якога і будзе атрыманы адказ на пытанне: быць еўрапейскай арміі або не.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Захад, што змякчае палітыку ў дачыненні да Мінска, апынуўся на раздарожжы. Прадастаўленне Беларусі крэдытаў без адпаведнага прагрэсу ў дэмакратызацыі краіны толькі ўзмацняе аўтарытарны рэжым Аляксандра Лукашэнкі. Узмацненне жорсткасці Брусэлем і Вашынгтонам сваёй палітыкі азначае ўзмацненне ўплыву Крамля ў гэтай усходнееўрапейскай краіне. На самай справе, дэмакратычныя краіны еўраатлантычнай супольнасці не ведаюць, што рабіць з аўтарытарнай Беларуссю. У адрозненне ад Аляксандра Лукашэнкі, які цудоўна разумее, што яму трэба ад Захаду.

**«Дзеркало тиждня» (Украіна)**

Ужо кастрычніку Беларусь павінна прадставіць нацыянальную справаздачу наконт становішча правоў жанчын у ААН. Таму не выпадкова, што прайшлі ў парламент апазіцыянеры-жанчыны. Гэта добрая магчымасць дадаць тлусты плюс.

**«Росбалт» (Расія)**

Абранне Анісім з'яўляецца сігналам, што рэжым Лукашэнкі шчыры ў неабходнасці ўмацавання беларускай ідэнтычнасці. У сваю чаргу, прызначэнне Канапацкай стымулюе ўрад на эканамічныя рэформы (...). Дэпутацтва прадстаўнікоў апазіцыйнай партыі і групы грамадзянскай супольнасці — таксама пасланне для тых беларусаў, хто ў апошні час пачаў адкрываць нанова для сябе мову і ідэнтычнасць.

**«Foreign Policy» (ЗША)**

Найбольш акрэсленая пазіцыя па гэтым (крымскім) пытанні ў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Ён лічыць, што фактычна Крым належыць Расіі, але адбылося гэта толькі таму, што Кіеў не стаў яго абараняць. Таму, калі Масква прад'явіць свае прэтэнзіі на частку беларускай тэрыторыі, «бацька» асабіста скокне ў акоп з аўтаматам. Астатнія постсавецкія рэспублікі ў размове з Украінай, як правіла, прызнаюць яе цэласнасць, а ў размовах з Расіяй сыходзяць ад гэтай тэмы.

**«Московский комсомолец» (Расія)**

Для апазіцыі гэта (праход у Палату прадстаўнікоў дзвюх яе прадстаўніц) поспех. Відавочна, што іх прызначылі, але гэта магчымасць вярнуцца ў сістэмную палітыку. Выбары паказалі, што апазіцыя можа заставацца гульцом, пры ўмове, калі яна гуляе.

**«Forbes» (Казахстан)**

Пасля свайго эфектнага жэсту Мінск чакае не меншай аддачы ад заходніх сталіц. Іх першая рэакцыя кажа пра тое, што сігнал быў прачытаны так, як у Беларусі і разлічвалі. Назіральнікі АБСЕ заявілі, што да дэмакратычных беларускіх выбараў яшчэ як да Месяца, але па асобных накірунках прагрэс ёсць. «Цяпер ураду і абранаму парламенту трэба працягваць дэмакратызацыю», — сказалі кіраўнікі місій АБСЕ і ПАСЕ на прэс-канферэнцыі пасля выбараў. Словазлучэнне «абраны парламент» на адрас беларускай Палаты прадстаўнікоў — гэта новы лексікон з намёкам ледзь не на прызнанне. Такой раскошы беларускія дэпутаты не ведалі ўжо 20 гадоў. Адна з кіраўнікоў назіральнай місіі ўвогуле назвала праходжанне ў парламент апазіцыянераў «гістарычным момантам».

**Delfi (Літва)**

Украінцы прызналіся, да якой краіны ўў іх самыя цёплыя пачуцці. Адказ адкрыта здзівіў. Па дадзеных апытання Інстытута Гаршэніна, 83,6% украінцаў прыязна стаўяцца да Беларусі. І толькі кожны дзясяты (10,4%) апытаны адчувае непрыязнасць да краіны «бацькі» Лукашэнкі. Такім чынам, Беларусь украінцы прызналі самай сяброўскай дзяржавай у свеце.

**24ua (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Гімн больш не выконваць!

У ЗША пачаліся шырокія дэбаты наконт адмовы ад выканання гімну на стадыёнах перад кожнай гульнёй. Лічыцца, што сьпяваць гімн фанаты і спартоўцы пачалі ў 1918 годзе падчас фінальных матчаў чэмпіянату бейсбольнай лігі. Гэта быў сімвалічны акт падтрымкі амерыканскіх жаўнераў, якія ваявалі ў той час на франтах Першай сусветнай вайны. Традыцыя замацавалася, аднак праз сто гадоў узніклі праблемы. Усё часцей выкананне гімну спартоўцы выкарыстоўваюць для дэманстрацыі палітычнай пазіцыі. Асабліва багаты на такія выпадкі выдаўся цяперашні сезон у матчах футбольнай лігі. Апошнім адзначыўся гулец клубу «San Francisco 49», які на нядаўнім матчы прысеў падчас выканання «The Star-Spangled Banner» у знак пратэсту супраць праследу паліцэйскімі афраамерыканцаў. Некаторыя публіцысты лічаць, што адмена выканання гімну пакладзе канец такім дэмаршам. Натуральна, хапае і аматараў старой традыцыі. Чым закончыцца гэтая спрэчка, пакуль не зразумела, аднак па яе ходу высветлілася, што гімн на стадыёнах — вельмі добры гешэфт. Аказваецца, выкананне гімну абыходзіцца кожнаму балельшчыку ў 50 цэнтаў, якія закладаюцца ў квіток (у сярэднім квіток каштуе 185 долараў), паколькі на адзін матч прадаецца больш за 50 тысяч квіткоў, музыкі някепска зарабляюць на гімне. Зразумела, яны ўжо рашуча асудзілі любыя змены.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Расійскія выбары несапраўдныя

Вярхоўная Рада Украіны прыняла рашэнне пра непрызнанне выбараў у Дзяржддуму Расіі, якія прайшлі 18 верасня. У прынцыпе, падобныя рашэнні прынялі каля 30 урадаў іншых краін, аднак ва ўсіх выпадках выбары не прызнаюцца выключна на тэрыторыі Крыму. Ва ўкраінскім выпадку гаворка ідзе пра непрызнанне выбараў увогуле. Шмат хто спрабуе зразумець практычныя наступствы такога незвычайнага рашэння. Ініцыятары лічаць, што гэта будзе спрыяць ізаляцыі РФ. Аднак тут узнікае цікавае пытанне — як ставіцца Кіеву да будучага ўраду Расіі, які зацвердзіць нелегітымная, на думку дэпутатаў Рады, новая Дума? Калі Дума нелегітымная, то і прызначаны ёю ўрад трэба лічыць «хунтай», з якой нельга мець справаў. Што ў такім выпадку будзе з перамовамі ў межах «Мінску–2» і іншымі? Кіеўскія эксперты супакойваюць. На іх думку, рашэнне пра нелегітымнасць Дзярждумы — гэта завочны пратэст супраць магчымага аднаўлення сяброўства дэлегацыі Дзярждумы ў Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Дума страціла там прадстаўніцтва пасля анексіі Крыму. Ходзяць чуткі, што ўжо ў студзені расіяне вярнуцца ў ПАСЕ.

**Паводле ўкраінскай і расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Рукі прэч ад Віні-Пыха!

Хутка славутай кнігі Аляксандра Мілна пра прыгоды Віні-Пыха споўніцца 90 гадоў. Уладальнікі правоў на публікацыі кніжак Мілна з нагоды юбілею падрыхтавалі для фанатаў сюрпрыз. 6 кастрычніка выйдзе новая серыя прыгод Віні-Пыха і яго сяброў, якую напісаў пісьменнік Браян Сіблі. На старонках кнігі пад назвай «Лепшы мядзведзь у свеце» кампанію Віні складуць не толькі знаёмыя ўсім героі. У Віні-Пыха з'явіцца новы сябра — пінгвін. З'яўленне пінгвіна аргументуецца тым, што ў Крыстафера Робіна — сына Аляксандра Мілна — была цацка-пінгвін. Бо менавіта цацкі сына сталі героямі апавяданняў Мілна. Аднак, на думку фанатаў, тут нешта нячыста. Яны ўпэўненыя, што ў новых прыгодах Віні яўна прысутнічае рука кампаніі «Дысней», якая выпрабляе мультфільмы пра прыгоды герояў кніжак Мілна. Відавочна, што пінгвін — добры спосаб узняць інтарэс да прадукцыі кампаніі. З іншага боку, хапае і тых, хто вітае прыход пінгвіна, паколькі гэта можа прыцягнуць да спадчыны Аляксандра Мілна новых чытачоў. Глядзячы па форумах, шмат аматараў Віні-Пыха зацікавіліся новым персанажам.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Сепаратысты ўсіх краін, яднайцеся!

Такое ўражанне, што пуцінская Расія, шукаючы падтрымку ў свеце, гатовая кантактаваць з самымі экстравагантнымі палітычнымі праектамі. 25 верасня ў Маскве адбудзецца сустрэча «барцоў за незалежнасць» з усяго свету. Калі верыць расійскім СМІ, канферэнцыя ў Маскве зацікавіла сепаратыстаў праз крымскі вопыт. Маўляў, выхад Крыму са складу Украіны — прыклад таго, што трэба рабіць усім сепаратыстам на планеце. Не хаваюць госці і жадання атрымаць фінансавую падтрымку з Масквы. Так, госць з штату Каліфорнія ў інтэрв'ю аднаму са СМІ распавёў, што яго групоўка ўжо ў наступным годзе пачынае збор подпісаў за правядзенне рэферэндуму пра выхад штату са складу ЗША. Натуральна, незалежная Каліфорнія, як кажа ініцыятар плебісцыту, будзе вядучым партнёрам Расіі ў Паўночнай Амерыцы. Застаецца пачакаць, каб даведацца, ці сапраўды Крэмль дасць грошы камусьці з удзельнікаў канферэнцыі або проста выкарыстае сустрэчу ў мэтах інфармацыйнай вайны.

**Паводле расійскай прэсы**

# Паміж Карымавым і Мірзіёевым

Алег НОВІКАЎ

**Ва Узбекістане ў самым разгары працэс пераходу ўлады пасля смерці Ісламы Карымава. Тое, як ён адбываецца, дапамагае зразумець казахскі журналіст Алег Куантаеў, які днямі прыехаў з Узбекістана.**



***— Ці змянілася што-небудзь ва Узбекістане смерці Карымава?***

— На першы погляд, усё застаецца па-ранейшаму. Уся дзяржаўная машына і вертыкаль працуюць у звычайным рэжыме. Нейкая палітызацыя адчуваецца, аднак, думаецца, толькі таму, што людзі не адышлі ад шоку. На 4 снежня прызначаныя прэзідэнцкія выбары. Адпаведна, пад іх грамадства таксама штучна палітызуюць: ствараецца масоўка жадаючых стаць кіраўнікамі краіны. Хаця пераможца тых выбараў загадзя вядомы. Гэта прэм'ер Шаўкат Мірзіёеў, які ўжо выконвае абавязкі прэзідэнта.

***— Што думаюць людзі пра спадчыну Карымава?***

— З побытавых размоў можна зразумець, што ў большасці ўзбекі шкадуюць, што прэзідэнт памёр. Тлумачыцца гэта тым, што Карымаў памёр у час, калі ў свеце і рэгіёне існуе моцны запыт на стабільнасць і бяспеку. Як следства, ва Узбекістане перамен хутчэй баяцца, чым прагнуць. На «карымаўскі міф» працуе нізкі ўзровень злачыннасці і хоць нейкая сацыяльная стабільнасць.

***— Тое, што адбываецца ў Ташкенце, чымсьці нагадвае туркменскія падзеі 2006 года, калі пасля смерці Туркменбашы эліта аб'ядналася вакол Бердымухамедава. Вынікам стаў дэмантаж культу Ніязава на карысць культу Ардагада (афіцыйны тытул Бердымухамедава). Ці будуць намагацца новыя ўлады прымушаць узбекаў забыцца пра Карымава?***

— Культ Карымава быў не такі моцны, як культ Ніязава. Прынамсі, помнікаў і манументальных комплексаў, тым больш з золата, нябожчыку ніхто не будаваў. Абмяжоўваліся білбордамі з прэзідэнцкімі цытатамі. Цяжка сказаць, як будзе далей. Аднак пакуль, каб умацаваць сваю легітымнасць у вачах народа, улада намагаецца выкарыстоўваць імідж Карымава.

Ён ужо атрымаў тытул «Першы прэзідэнт». 5 верасня адбылося ўсенароднае развітанне з Карымавым, калі, паводле традыцыі, раздаваўся памінальны плоў. Тыражуюцца ўсякія байкі пра праявы народнай любові да Карымава. Напрыклад, пра нейкага пенсіянера, які на ровары чатыры дні ехаў да магілы прэзідэнта, каб прачытаць там малітву. Культ любімага ўсімі ўзбекамі Карымава таксама дапамагае Мірзіёеву трымаць у межах мясцовыя кланы. Калі прэзідэнт памёр, шмат хто чакаў канфліктаў паміж прэм'ерам і сілавікамі (яны належаць да розных кланаў), аднак усё пакуль спакойна.

***— Ці можна прагназаваць, якім будзе курс прэзідэнта Мірзіёева?***

— Гэта загадка. З аднаго боку, ёсць выразны прарасійскі трэнд, які ўвесну ініцыяваў сам Карымаў. З іншага боку, кампанентам спадчыны Карымава з'яўляецца нейтралітэт краіны. Не выключана, што Мірзіёеў не будзе ламаць традыцыю, каб не правакаваць канфлікт унутры эліты.

***— Асноўным кандыдатам на месца пераемніка Карымава доўгі час разглядалася яго дачка Гульнара, якую ў выніку не дапусцілі да падзелу бацькоўскай палітычнай спадчыны. Што думае пра гэта ўзбекскі абывацель?***

— Як палітыка яе не разглядаюць, хаця яшчэ прыкладна пяць гадоў таму Гульнара лічылася кандыдатам у пераемнікі «нумар адзін». На той момант яна не толькі займала важнае месца ў мясцовых палітычных раскладах, але таксама мела свой буйны бізнес. Аднак у выніку маштабныя амбіцыі Гульнары, спробы маніпуляваць імем бацькі, пачалі кепска ўплываць на аўтарытэт Карымава, які сам паставіў крыж на яе палітычных апетытах. Наколькі вядома, зараз Гульнара ў Лондане, дзе супраць яе распачаты шэраг крымінальных спраў. Ва Узбекістан яна наўрад ці вернецца. Не толькі таму, што супраць яе тут таксама заведзена справа. Шмат буйных прадпрымальнікаў, у якіх Гульнара калісьці «аджала» бізнес, маюць на яе зуб.

**Карымаў памёр у той час, калі ў свеце і рэгіёне існуе моцны запыт на стабільнасць і бяспеку. Як следства, ва Узбекістане перамен хутчэй баяцца, чым прагнуць**

***— Ці паўплывалі падзеі ва Узбекістане на палітычную сітуацыю ў суседніх краінах?***

— Відавочна. Туркменскі парламент прагаласаваў за адмену абмежавання, паводле якога прэзідэнт не можа быць старэйшым за 70 гадоў. Прыняцце новага дакумента азначае, што Бердымухамедаў зможа заставацца кіраўніком дзяржавы да канца жыцця.

Адбыліся істотныя кадравыя ратацыі і ў Казахстане. Старэйшая дачка Елбасы Дарыга Назарбаева ў імгненне ператварылася ў дэпутата сената. Не выключана, што гэта — уверцюра абрання Дарыгі на пасаду спікера. Менавіта спікер верхняй палаты валодае правам выконваць абавязкі прэзідэнта ў выпадку датэрміновага сыходу кіраўніка дзяржавы. Людзі, блізкія да Дарыгі, таксама з'явіліся ў кіраўніцтве ЦВК, што гарантуе патрэбную лічбу за патрэбнага кандыдата ў выпадку папярэдніх выбараў. Мяркую, што з-за смерці Карымава ў казахстанскім парламенце ўзнік і свежы законапраект «аб супрацьдзеянні тэрарызму», які дазваляе спецслужбам нават адключаць інтэрнэт у краіне.

Адным словам, можна казаць пра выбудоўванне ў рэгіёне новай сістэмы пераемнасці ўлады. Толькі незразумела, ці спрацуе гэты алгарытм у «час Х». Ніхто не ведае, калі той час праб'е і які тады будзе настрой у грамадстве. Так, на 26 верасня ў Азербайджане прызначылі рэферэндум наконт паправак у Канстытуцыю, што здымуць усе абмежаванні для кандыдата ў прэзідэнты па ўзросце і фактычна дазваляць у хуткім часе балатавацца на гэтую пасаду дзецям прэзідэнта. Ініцыятыва нечакана абурыла грамадства. Нягледзячы на паліцэйскі характар рэжыму Аліева, у краіне праходзяць масавыя маніфестацыі пратэсту, ёсць арыштаваныя.



Фота www.rusvesna.su

# Венгрыя: выключыць нельга застацца

Алег НОВІКАЎ

**Жан Асельборн, міністр замежных спраў Люксембурга, заклікаў выключыць Венгрыю з Еўрасаюза, таму што палітыка Будапешта катэгарычна не адпавядае еўрапейскім каштоўнасцям.**

Па словах міністра, «любая краіна, якая, падобна Венгрыі, будуе сцены на мяжы для стрымлівання ўцекачоў, што бягуць ад вайны, або робіць замах на свабоду прэсы ці прынцып незалежнасці судовай сістэмы, павінна быць выключаная». Больш таго, люксембургскі палітык сцвярджае, што выключэнне з ЕС — «адзіны спосаб захаваць адзінства і каштоўнасці Еўрапейскага саюза».

Гэта не першая заява наконт таго, што Венгрыя, дзе з 2010 года кіруе прэм'ер Віктар Орбан, не адпавядае стандартам ЕС. У мінулым годзе старшыня Еўракамісіі Жан-Клод Юнкер таксама абяцаў выгнаць Венгрыю. Тады падставай для крытыкі сталі спробы Будапешта вярнуць смяротнае пакаранне.

Тую заяву еўрачыноўніка ўспрынялі як віртуальную пагрозу, бурлеск. Адпаведнай была і рэакцыя медыя. А вось словы Асельборна сёння абмяркоўваюць на самым высокім узроўні. Сярод каментатараў — прэм'ер міністр Чэхіі Багуслаў Саботка, германскі міністр Франк-Вальтэр Штайнмаер і іншыя.

Каментуюць словы Асельборна і ў прэсе. Напрыклад, венгерскае выданне «Budapest today» намер Брусэля — сачыць за выкананнем еўракаштоўнасцяў у суб'ектах ЕС, — разглядае як новы фінт еўрабюракратаў. Маўляў, што толькі ні прыдумаюць, каб выбіць сродкі з еўрабюджэту. Газета параўноўвае маніторынг еўракаштоўнасцяў з цыркулярамі не дапусціць на рынках ЕС «бананы анамальнай крывізны». А вось нямецкі «Spiegel» пагаджаецца: хаця б на тэарэтычным узроўні пагроза выключэння неабходная, паколькі інакш цяжка зразумець, як ЕС выйдзе з цяперашняга крызісу.

Такая жорсткая ацэнка звязаная з выклікаными праз Brexit дэбатамі пра неабходнасць рэформы сістэмы кіравання ЕС. Пакуль еўрапейская эліта схіляецца да ідэі ўзмацнення функцый цэнтру. Як кажа старшыня Еўрапарламента Марцін Шульц, «неабходны ўрад ЕС, які абіраецца народам, што будзе вялікім крокам наперад у пераўтварэнні ЕС у наднацыянальную структуру».

Аднак усе падобныя канструкцыі могуць быць тарпедаваныя ўжо 2 кастрычніка, калі Венгрыя праўдзе рэферэндум адносна палітыкі ЕС па размеркаванні бежанцаў на тэрыторыі краіны. Грамадзянам прапануюць выказаць сваё меркаванне па пытанні: «Ці жадаеце вы, каб ЕС меў права навязваць прыняцце рашэння ў дачыненні да рассялення неграмадзян нашай краіны на тэрыторыі нашай краіны?». Плебісцыт, вынік якога прадказальны з-за палітызаванасці тэмы, стварае прававы прэцэдэнт — у будучым любы загад з Брусэля можа быць адхілены такім жа чынам.

Венгерская фронда ўжо зараз натхняе перш за ўсё краіны так званай «Вышаградскай чацвёркі» (Венгрыя, Славакія, Польшча, Чэхія). Яны (і фрагментарна Аўстрыя) на саміце ЕС 16 верасня выступілі супраць дыктату Берліна і Брусэля па пытанні бежанцаў. Гэта больш, чым проста дэмарш: «Вышаград» выступае, хутчэй, за канфедэратыўную мадэль ЕС.

З іншага боку, сёння ніякіх прававых інструментаў прыструніць Будапешт у Брусэля няма. Пасля вывучэння цяперашніх статутных дакументаў ЕС юрысты прыйшлі да высновы, што выключэнне краін з ЕС на цяперашні дзень немагчымае. Ставіць пытанне пра выключэнне Венгрыі на разгляд няма сэнсу, паколькі патрэбны кансэнсус, а тая ж Польшча стопрацэнтна скарыстаецца правам вета. Ледзь не адзінай прычынай для выключэння можа быць вайна, якую краіна-сябра ЕС абвесціць іншаму сябру аб'яднання, што таксама неверагодна.

Нават калі мадэрнізаваць заканадаўства ЕС у гэтай галіне, застаецца шмат незразумелых пытанняў наконт яго імплементацыі. Рашэнне пра выключэнне нейкай краіны адразу будзе аспрэчанае яе кіраўніцтвам у судах. Працэс можа цягнуцца настолькі, што ў краіне зменіцца палітычны рэжым, лідары якога не будуць несці адказнасць за фокусы папярэднікаў.

Акрамя таго, сам факт нават запуску працэдуры выключэння з ЕС любой краіны — гэта вельмі моцны ўдар па прэстыжы еўрапраекту. Такая працэдура — лепшы падарунак для еўраскептыкаў. Магчыма таму нават самыя вядомыя апаненты Орбана, кшталту еўрадэпутата Рэбекі Хармс, лічаць, што выключэнне Венгрыі спрэчнае, і заклікаюць шукаць калектыўнае рашэнне венгерскай праблемы. Абмяркоўваецца ідэя для пачатку часова выключыць краіну з дзейнасці якой-небудзь агульнаеўрапейскай дамовы.

Аднак гэта не азначае, што status quo захаваецца. Як лічаць спецыялісты, перманентны канфлікт з Брусэлем — вельмі важная частка іміджу Орбана і сродак падтрымкі яго папулярнасці.

Эскалацыя ў адносінах паміж Будапештам і Брусэлем будзе працягвацца, і ў гэтай логіцы ўсё больш экспрэсіўныя раўнды канфрантацыі прадказальныя.

Акрамя таго еўрапейская прэса лічыць, што электарат Орбана па сваёй прыродзе скіраваны пераважна праеўрапейскі, і баіцца, што Венгрыя без пратэкцыі ЕС адразу стане сатэлітам Масквы. Ёсць думка, што калі Брусэль набярэцца мужнасці і сапраўды дашле Орбану «чорную метку» пра выключэнне з ЕС, перапужаны выбаршчык Орбана можа прагаласаваць за праеўрапейскую апазіцыю.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дыяна Джэймс



Менавіта прадстаўнікі Партыі Незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства (UKIP) сталі маторам руху за выхад краіны са складу ЕС, за які і прагаласавалі брытанцы на рэферэндуме ў чэрвені. Пасля таго, як «мара ідыёта спраўдзілася», былыя кіраўнікі UKIP чамусьці падалі ў адстаўку. Як следства, спатрэбіўся адбор кандыдатаў на пасаду старшыні партыі і партыйныя сходы для яго абрання.

Старшынёй еўрафобаў стала 56-гадовая Дыяна Джэймс — былая актывістка торы, цяперашні дэпутат Еўрапарламента. У сваёй першай прамове ў статусе партыйнага боса яна заклікала партыю захоўваць адзінства, каб не дапусціць сабатажу Brexit з боку ўраду. Аднак значна больш каментараў выклікаў яе панегірык на адрас Уладзіміра Пуціна, якога лідарка UKIP назвала «моцным лідарам».

Нягледзячы на тое, што на хвалі поспеху UKIP партыя Джэймс зрабіла сабе нацыянальную рэкламу, палітолагі не вераць у яе будучыню. Вялікая фракцыя кансерватараў падтрымала выхад краіны з ЕС, і, адпаведна, перахапіла ініцыятыву ў UKIP у гэтай галіне. Некаторыя ветэраны UKIP лічаць, што пасля Brexit неабходна было ўвогуле прыняць рашэнне пра самаліквідацыю партыі, каб стварыць прыгожую легенду для будучых генерацый праціўнікаў інтэграцыі з ЕС.

### Серж Саргсян



Прэзідэнт Арменіі і лідар Рэспубліканскай партыі (РПА) святкуе перамогу. Яго партыя 18 верасня перамагла на мясцовых выбарах. Кандыдаты ад РПА абраныя ў 161 з 237 грамадаў.

Галасаванне ўспрымалася як своеасаблівы плебісцыт наконт даверу рэжыму пасля пратэстаў улетку. І асабліва пасля захопу апазіцыяй з групоўкі «Сасна црэр» будынку МУС. У гэтым плане на выбарах найбольш цікавай была дуэль у Эчміядзіне, дзе рэспубліканец перамог аднаго з сяброў «Сасна црэр», які вёў выбарчую кампанію з-за кратаў.

Праўда, на 30 участках рэспубліканцы саступілі апазіцыянерам, што стала вельмі балючым шокам для ўлады. Справа ў тым, што апазіцыйныя сілы ўпершыню ў гісторыі надалі мясцовым выбарам сур'ёзнае значэнне і, як бачым, давялі, што могуць перамагаць. Усё гэта стварае інтрыгу напярэдадні парламенцкіх выбараў 2017 года. На іх, акрамя ўсяго, армяне павінны канчаткова вызначыць геапалітычны арыенцір краіны, якую Расія актыўна цягне ў еўразійскія інтэграцыйныя структуры.

### Барак Абама



Прэзідэнт ЗША падпісаў новы варыянт акту Trading with the Enemy Act (Акт пра гандаль з ворагам, TWEA). Гэты закон, які ўпершыню быў падпісаны прэзідэнтам Вудра Вільсанам у 1917-м, рэгулюе гандлёвы рэжым з краінамі, якія Вашынтон лічыць сваімі праціўнікамі. Як правіла, супраць такіх краін уводзіцца жорсткі рэжым блакады або эмбарга.

Нечакана для ўсіх, у наступным годзе пад дзейнасць Акта трапіла і Куба. Санкцыі супраць яе выглядаюць дзіўна, з улікам нядаўняга візіту Абамы ў Гавану, што быццам бы стала пачаткам новай эры ў адносінах паміж краінамі. Лічылася, што адмена эмбарга, якое было ўведзена яшчэ ў 1962 годзе, у кантэксце візіту цалкам лагічная. Прынамсі, сам Абама, будучы ў Гаване, абяцаў змякчыць рэжым эмбарга. Аднак, як бачым, падмануў.

Кубінскі МЗС ужо раскрытыкаваў учынак Белага дому. Скасаванне эмбарга было б вельмі добрай навіной для Кубы — з улікам цяперашняга крызісу ў Венесуэле, якая прадае кубінцам нафту па нізкіх коштах. У адміністрацыі Абамы, у сваю чаргу, кажуць, што зняць эмбарга без рашэння Кангрэсу немагчыма і, адпаведна, ад Абамы тут нічога не залежала.

Увогуле, паводле разлікаў кубінскіх эканамістаў, страты ад эмбарга за апошні год для Кубы склалі каля 4 мільярдаў долараў (усяго з 1962 года Куба недаатрымала праз эмбарга 754 мільярды долараў).




Агітацыйны плакат заклікае ахоўваць межы



Затрыманне дыверсантаў



Дэпартацыя з Беларусі, 1930-я гады

# Шпіёнаманія
## Пачатак адной хваробы



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Грамадзянам СССР у 1930-я гады моцна ўбілі ў галаву ідэю пра тое, што кожны замежнік у той ці іншай ступені з'яўляецца агентам заходніх спецслужбаў.**

### Выведнікі КАП

У другой палове 1930-х гадоў у Савецкім Саюзе пачынаецца актыўная барацьба з іншадумствам і пошукі «ўнутраных» ворагаў. Першымі ахвярамі чысткак сталі прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі. Пазней узяліся за членаў партыі, пралетарыят, сялян. Пры гэтым савецкім грамадзянам убівалі ў галовы, што краіна Саветаў знаходзіцца ў варожым атачэнні, і кожны капіталістычны сусед імкнецца заслаць у СССР сваіх агентаў, шпіёнаў і дыверсантаў. Асабліва гэта тычылася памежных рэспублік, бо яны знаходзіліся, як кажуць, «на вастрыні ўдару».

У савецкай Беларусі, асабліва ў Мінску, усё было прасякнута антыпольскімі настроямі, што было звязана з блізкай «рыжскай мяжой». За год да пачатку Другой сусветнай вайны, у верасні 1938 года, камандаванне выведкі польскага Корпуса аховы памежжа інфармавала Варшаву пра становішча на мяжы і настроі, якія панавалі ў савецкім грамадстве.

Гэта вельмі цікавы дакумент. «Палітычная сітуацыя ў СССР у перыяд справаздачы (1937 г.) застаецца пад уплывам палітычных гульняў Сталіна з апазіцыяй і звязаным з гэтым тэрорам, які ажыццяўляецца пад лозунгам «абароны сацыялістычнай дзяржавы ад шпіёнаў, сабатажнікаў і капіталістычных шкоднікаў», а таксама напружання адносін паміж Рэччу Паспалітай і СССР у выніку нібыта пранямецкай замежнай палітыкі Польшчы, накіраванай супраць Саветаў. [...] Рашаючую ролю адыгрывае рост прэвентыўных дзеянняў савецкіх улад, якія прымаюць вельмі радыкальныя формы. [...] Варта адзначыць распаўсюджаную антышпіёнскую прапаганду, якая пачалася ў сакавіку 1937 года. Яе мэтамі з'яўляецца абгрунтаванне для ўласнага грамадства палітычных працэсаў і пакаранняў высокапастаўленых прадстаўнікоў савецкага рэжыму і камандавання РСЧА. Акрамя гэтага такая палітыка павінна перашкодзіць уцечцы за мяжу інфармацыі аб цяжкай унутрыпалітычнай і вайсковай сітуацыі ў СССР».

«У сувязі з гэтым савецкая прапаганда накіравана ў асноўным супраць замежнікаў і падкрэслівае, што як усе афіцыйныя прадстаўнікі замежных дзяржаў, так і звычайныя замежныя грамадзяне выконваюць заданні замежнай выведкі, таму кожнага з іх трэба трактаваць як замаскіраванага шпіёна. Зыходзячы з гэтага, улады запатрабавалі ад сваіх грамадзян пазбягаць кантактаў з «чужымі» на тэрыторыі Савецкага Саюза і вельмі асцярожна паводзіць сябе за мяжой (тычылася гэта невялікай часткі савецкай інтэлігенцыі і спецыялістаў, якім дазвалялі выязджаць у замежныя камандзіроўкі. — І.М.). У выніку гэтай прапаганды напужаныя савецкія грамадзяне, якія і да гэтага не вельмі ахвотна ўваходзілі ў кантакт з замежнікамі, зараз іх панічна пазбягае. А калі ўсё ж вымушаныя з імі сутыкацца, дык спрабуюць абыходзіць маўчаннем пытанні са знешнепалітычнай сферы, а таксама што тычыцца вайсковай і гаспадарчай сітуацыі ў СССР», — піша КАП.

**Савецкая прапаганда падкрэслівала, што ўсе прадстаўнікі замежных дзяржаў і звычайныя замежныя грамадзяне выконваюць заданні замежнай выведкі**

«Акрамя гэтага, назіраецца працяг высялення насельніцтва з памежнай тэрыторыі. Гэта мае рысы абсалютнага пазбаўлення беларускай і ўкраінскай тэрыторыі ад элементаў, якія маюць хоць маленькую сувязь з Польшчай і польскасцю. Пры гэтым не шкадуюць нават ідэйных камуністаў польскай нацыянальнасці, а таксама заслужаных камуністаў-перабежчыкаў з Польшчы. Вельмі моцная крытыка савецкіх грамадзян польскай нацыянальнасці і перабежчыкаў з Польшчы, якія жылі на заходнім памежжы адбывалася на старонках савецкай прэсы, якая заклікала бязлітасна граміць і выкарчоўваць польскіх і трацкіста-бухарынскіх шпіёнаў, а таксама шавінісцка-фашысцкіх агентаў Польшчы ў Беларусі і Украіне», — падкрэслівалася ў справаздачы польскіх разведчыкаў.

### Зачыстка памежжа

Што тычыцца высялення «нядобранадзейных элементаў» з памежнай зоны, дык гэты працэс пачаўся яшчэ ў 1931 годзе і быў звязаны, перш за ўсё, з будаўніцтвам умацаваных раёнаў на мяжы з Другой Рэччу Паспалітай. У маі 1931 года кіраўнікі мясцовай савецкай улады атрымалі распараджэнне, паводле якога загадвалася ачысціць тэрыторыю БССР, як памежную, ад рэштак кулацтва. Да гэтай катэгорыі былі залічаныя не толькі багатыя сяляне, але і «заможнікі», і «эксплуататары» ў мінулым. Уся праца па высяленні была ўскладзена на ДПУ.

Вось як апісвала тыя падзеі адна з дэпартаваных: «Выслалі нас з Заслаўшчыны недзе ў 1930-я гады, дакладна не памятаю. Жылі мы ў Архангельску, Усцюгу, Ухтыме. Майго бацьку вельмі паважалі зняволеныя, бо ён чытаў пропаведзі. Да высылкі ён быў дыяканам, за гэта нас і рэпрэсавалі. Умовы жыцця былі жахлівымі, харчаваліся марошкай, атожылкамі».

А так узгадвала тыя часы жыхарка заслаўскай вёскі Марыя Сяржан: «У Хмелеўцы мы разам з мужам пасяліліся ў 1930-я гады. Гэтыя часы ўзгадваю з жахам. [...] У 1933 годзе, памятаю, ад голаду прыходзілася збіраць «шаймору» — бульбу, што засталася пасля зімы на палях, з якой рабілі праснакі. На памяці і высылкі з нашай і іншых вёсак. Абозы з людзьмі, якіх вывозілі, цягнуліся ажно да Заслаўя».

Сяляне як маглі супрацьстаялі высяленням і дэпартацыям. У 1934 годзе начальнік упраўлення памежнай аховы і войскаў ДПУ БССР Радзін інфармаваў ЦК КП(б)Б, што ў сувязі з мерапрыемствамі савецкіх уладаў — ачысткі калгасаў ад кулацкага і варожага элемента, пашпартызацыі 100-кіламетровай памежнай зоны, а таксама рэпрэсій у адносінах да кулацкага элемента — узмацніліся эміграцкія настроі і спробы нелегальнага пераходу мяжы з Польшчай. У адказ на гэта ўлады ўзмацнялі памежны рэжым. У 1935 годзе там, дзе былі пабудаваны ўмацаваныя раёны, была ўведзена 7,5 кіламетровая зона, уезд у якую ажыццяўляўся толькі па пропусках НКУС. І працягвалі дэпартацыі.




Марыя Гаралевіч апісвала гэтыя рэпрэсіі: «Нарадзілася я ў жніўні 1928 года ў вёсцы Вуглы Гаранскага сельсавета Заслаўскага раёна, у сям'і селяніна. Бацька, Антон Станіслававіч Алісевіч, працаваў у саўгасе Валоўшчына сталяром, а маці гадавала дзяцей. Было ў нас восем чалавек сям'і, мелі сваю хату, адну карову, каня, кабана, курэй і 1,5 га зямлі. 17 чэрвеня 1935 года нашага бацьку выклікалі ў НКУС мястэчка Заслаўе, а 20 ліпеня да нас прыехалі супрацоўнікі НКУС і загадалі збірацца і захапіць цёплыя рэчы. Маці, мяне, дзвюх сясцёр павезлі на павозцы ў Мінск, дзе да нас далучыўся бацька. Пад канвоем, як «ворагаў народа», нас пагрузілі ў цягнік, дзе ў кожным вагоне было па 4 сям'і. Па чыгунцы прывезлі ў пасёлак Ухтым Ленскага раёна Архангельскай вобласці. Тут знаходзіўся лагер Беразоўка. Пасялілі ў барак, які быў падзелены на дзве паловы, у кожнай па тры пакоі і адна печ. Дарослыя працавалі на лесанарыхтоўках, дзеці збіралі ў лесе ягады, грыбы, травы, бо ежы заўсёды не хапала».

У выніку аперацыі па барацьбе супраць польскай, нямецкай і латвійскай агентуры ў БССР, якая праводзілася ў жніўні 1937 — верасні 1938 гадоў, чэкістамі было арыштавана 21 407 чалавек, з якіх расстралялі 1210, а значную колькасць асудзілі на турэмнае і лагернае зняволенне. Нягледзячы на гэта, «сыходы ў Польшчу» жыхароў БССР працягваліся да пачатку Другой сусветнай вайны.

### Быць пільнымі

У дакуменце КАП зазначалася, што таксама назіраўся працэс невяртання савецкімі ўладамі перабежчыкаў. Калі тыя былі прыдатныя да нясення вайсковай службы, іх высылалі ў Іспанію і ўключалі ў склад інтэрбрыгад. А тых, хто не мог трымаць зброю, прысуджалі да 2–3-гадовай ссылкі за нелегальны пераход мяжы. Са справаздачы польскіх памежнікаў вынікала, што савецкім грамадзянам практычна немагчыма было падтрымліваць ліставанне з замежжам.

Прапаганда супраць кантактаў з замежнымі гасцямі не абмяжоўвалася толькі газетнымі публікацыямі. Памежнікі і «адказныя таварышы» хадзілі ў беларускія школы, ВНУ і не проста «пужалі» моладзь небяспекай размоў з замежнікамі, але агітавалі піянераў, акцябрат і камсамольцаў дапамагаць у выкрыцці дыверсантаў і агентаў капіталістычных спецслужб. Рабіліся такія лекцыі і ў 15-м атрадзе памежных войскаў НКУС БССР у Заслаўі. У адной з тагачасных мясцовых савецкіх газет падкрэслівалася: «Жыхары Заслаўшчыны актыўна дапамагаюць нашым вартавым мяжы. Піянеры N-скай вёскі выявілі групу перабежчыкаў з Польшчы і дапамаглі памежнікам затрымаць іх». Увогуле, думка, што кожны савецкі грамадзянін ахоўвае дзяржаўную мяжу, была ў той час адной з найбольш папулярных.

Савецкіх грамадзян вучылі быць пільнымі не толькі на памежжы з «варожым буржуазным светам», але і ўнутры краіны. Асаблівая ўвага надавалася вайсковым і прамысловым аб'ектам. З Чырвонай Арміяй і яе інфраструктурай усё зразумела, але, калі казаць пра савецкія фабрыкі і заводы, то большасць іх была пабудавана пры ўдзеле інжынераў з ЗША, Германіі, Вялікабрытаніі. Прадпрыемствы ўзводзіліся па заходніх узорах і з выкарыстаннем імпартнага абсталявання, таму асаблівай цікаўнасці для замежнай выведкі не ўяўлялі. Аднак грамадзян СССР працягвалі пужаць капіталістычнымі агентамі і дыверсантамі, якія быццам бы спалі і марылі, як бы атрымаць «план бальшавіцкага завода».

Пазней была Другая сусветная вайна, але і яе вынікі не змянілі сітуацыю з агульнай шпіёнаманіяй у Савецкім Саюзе. У пасляваенныя гады амаль у кожным госцю з замежжа бачылі шпіёна варожых спецслужбаў. Гэты стэрэатып часам нагадвае пра сябе і сёння.

# Пагроза страты нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў узрастае

Прафесары Мікола САВІЦКІ,
Леанід ЛЫЧ

**Заканамерныя спадзяванні нацыянальных патрыётаў, што з абвяшчэннем Беларусі суверэннай дзяржавы будзе нарэшце скончана з русіфікацыяй яе тытульнага народа, не спраўдзіліся.**



Фота www.belsat.eu

Кволая надзея на этнічны рэнесанс існавала, толькі калі ў краіне функцыянавала (шкада, што так нядоўга) парламенцкая сістэма кіравання. Улетку 1994 года ўсімі праўдамі і няпраўдамі яе замяніла прэзідэнцкая сістэма кіравання, і праз праведзеныя ёю ў маі 1995-га і лістападзе 1996-га рэферэндумы ўдалося вярнуць русіфікацыю ў колішняе звыклае для яе рэчышча.

Сёння дастаткова важкіх падстаў сцвярджаць, што ў суверэннай Беларусі ўлады значна больш паспяхова ажыццяўляюць культурна-моўную русіфікацыю яе карэннага насельніцтва, чым гэтага ўдавалася дамагацца царызму і бальшавікам. Відаць, у тых хоць нейкі сорам быў за незаслужаны здзек з беларусаў, чаго ні граму няма ў сучасных дзяржаўных функцыянераў. За больш чым дваццацігадовае функцыянаванне прэзідэнцкай вертыкалі адбылося такое буйнамаштабнае руйнаванне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, што нават самі высокія палітыкі, лічым у многім абгрунтавана, атаясамліваць іх з рускімі.

Незаменныя страты беларусаў у сваёй нацыянальнай самабытнасці хвалююць шмат каго з прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, але ж зусім не кранаюць душы палітыкаў, асабліва самых высокіх катэгорый. Яны нібыта зацыкліліся на сваіх «гістарычных» дасягненнях у русіфікацыі ўласнага народа і іншага кірунку для нацыянальнай палітыкі не хочуць бачыць. А дарэмна, бо пры страце этнакультурнай самабытнасці людзі перастаюць быць перакананымі, актыўнымі носьбітамі дзяржаўнага суверэнітэту. Пры любым зручным моманце яны, не задумваючыся, могуць гужам пацягнуцца да краіны, культуру і мову якой засвоілі, выкінуўшы на задворкі такія свае ўласныя каштоўнасці.

Мы вялікія спадзяванні (зараз іх у нас няма) ускладалі на Год культуры. Думалася, калі раней пра такі нацыянальны зрэз зацята маўчалі, дык ужо сёлета будзе весціся пра яго беспарапынная прафесійная гаворка, прычым у абавязковым парадку па-беларуску. Нічога ж падобнага не назіралася за мінулыя месяцы сёлетняга года. Вялася гаворка пра культуру ў цэлым, у чым у нас няма асаблівых праблем. Для многіх не сакрэт, што ахілесавай пятой нашай культуры быў і застаецца яе нацыянальны спектр. Калі тут нічога карэнным чынам не мяняць, дык беларусы ў сваім родным доме трансфармуюцца ў тыповых носьбітаў выключна рускай культуры.

Проста неверагодна, што ў Год культуры мы ні ад каго з кіраўнікоў культуры, вядомых прафесіяналаў, навукоўцаў у гэтай сферы не пачулі ні па радыё, ні па тэлевізары грунтоўнай гаворкі пра выключную ролю беларускай мовы ў дадзенай найгалоўнай нацыястваральнай сферы дзейнасці чалавека. А як нам хацелася пачуць такое! Затое па-сапраўднаму бударажыла, гадзінамі не давала нам супакоіцца, калі кіраўнікі сферы культуры, прычым і самага высокага рангу, узнёсла разважалі пра яе стан пераважна толькі па-руску. Патлумачыць такую ненармальную, супярэчлівую нашаму нацыянальнаму інтарэсу практыку можна толькі дзвюма прычынамі: альбо невалоданнем гэтымі асобамі беларускай мовай, альбо свядомым ігнараваннем яе. За стырном нашай культуры павінны знаходзіцца толькі беларускамоўныя капітаны.

Не здолелі (а мо проста не пажадалі?!) і ў Год культуры на службу беларускага нацыянальнага інтарэсу паставіць ужо даўно набыты статус традыцыйнага свята «Славянскі базар» у Віцебску. А ён жа ў дадатак да ўсяго яшчэ быў юбілейным, 25-м па ліку. Як трывала ўсталявалася: і сёлета руская культура атрымала ад яго ў сотні разоў больш карысці, чым беларуская. А ці ж ёсць логіка ў гэтым? Паколькі ён праводзіцца на беларускай зямлі, чаму б, скажам, не зрабіць за правіла, каб у рэпертуарах замежных спевакоў быў абавязковым і беларускамоўны нумар?

У Год культуры праведзена нямала, і яшчэ будуць ладзіцца самой дзяржавай, грамадскасцю розныя мерапрыемствы агульнапалітычнага характару. Падчас іх ніяк нельга не ўздымаць на першае, самае высокае месца нацыянальнай культуры яе асноўнага складніку — беларускай мовы.

Як прынята пры правядзенні дзяржаўных святаў, і 3 ліпеня не абышлося без даклада палітычнага лідара краіны, без шматлікіх афіцыйных выступленняў на старонках газет, па радыё і тэлебачанні. Шмат якія ўзнімаліся пытанні, але пераважалі тыя, што ўжо нядужа ўспрымаюцца людзьмі, бо вельмі надакучылі ім. Затое пра нелюбімую ўладамі праблему — нацыянальную культуру — не чулі ні слова. Яе (праблемы) нібыта не існуе і ў самой прыродзе. Якая вялікая, якая недаравальная памылка! Яна ж (названая праблема) сёння для палітыкаў павінна быць больш важнай, чым змаганне з карупцыяй.

А вось калі б дзяржава на поўным сур'ёзе ўзялася за развязванне нацыянальна-культурнай праблемы і дамаглася пэўнага выніку, дык у нас многа што карэнным чынам перамянілася б да лепшага. Не сумняваемся, паніклі б галовы і ў саміх карупцыянераў, зменшыліся б эміграцыйныя плыні за мяжу, бо людзі здаровай нацыянальнай самасвядомасці не абкрадваюць родны народ, не шукаюць сабе шчасця ў чужых краінах, калі існуюць сур'ёзныя праблемы ва ўласнай. І гэта яшчэ не ўсё: неадарваны ад нацыянальных, бацькоўскіх культурна-моўных традыцый чалавек — гэта самая надзейная апора краіны на выпадак узнікнення рэальнай пагрозы для яе дзяржаўнага суверэнітэту, што сёння і для Рэспублікі Беларусь з'яўляецца надзвычай актуальным, улічваючы ўсё тое, з чым сутыкнулася яе паўднёвая суседка Украіна.




У Год культуры не спраўдзіліся нашы надзеі на прыцягненне ўвагі да нечуванай размытасці беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці з боку абсалютнай большасці ўдзельнікаў V Усебеларускага народнага сходу (праходзіў 22–23 чэрвеня). А іх жа з усіх куткоў краіны з'ехалася каля 2500 чалавек?! Якая сілішча! На добры лад, амаль кожны пяты з іх, а то і чацвёрты, павінен быў узнімаць заклапочаную гаворку пра прычыны глыбіннай дэфармацыі нацыянальных асноў культурнага жыцця беларускага народа, уносіць канкрэтныя прапановы па выхадзе з гэтай архінебяспечнай тупіковай сітуацыі. На вялікі жаль, такія канструктыўныя выступы вельмі рэдка гучалі. А дарма! Далей ужо ніяк нельга маўчаць. Дамаўчаліся!

У канцы ліпеня ў газетах з'явіліся прыемныя звесткі аб завяршэнні працы па складанні Кодэкса Беларусі аб культуры. Ён быў прыняты Палатай прадстаўнікоў і ўхвалены Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу. Што ж, гэта вельмі пахвальна. Праца вялася з 2011 года. У ёй удзельнічала нямала добра вядомых у краіне дзеячаў культуры і навукоўцаў, занятых даследаваннем гэтай сферы. Дакумент выкананы на беларускай мове, што заслугоўвае толькі пахвалы. Але ж калі ў Кодэксе адсутнічае адмысловы раздзел «Нацыянальная культура», нуль цана гэтаму нарматыўнаму акту, бо атрымліваецца, што на яго падрыхтоўку толькі змарнаваны час. Плошчы ж на раскрыццё праблемы нацыянальнай культуры хапіла б у Кодэкса: займае прыкладна 400–500 старонак. А калі яна там адсутнічае, дык ці не назавуць тады многія сам кодэкс звычайным бюракратычным дакументам? Баімся, што можа паспяшаўся міністр культуры Барыс Святлоў у інтэрв'ю газеце «Звязда» (26 ліпеня) параўнаць Кодэкс аб культуры з Бібліяй культуры.

З культурай увогуле ў нас неблагія справы. А вось калі вылучыць і прааналізаваць яе нацыянальны пласт — тут поўны правал, сапраўдная катастрофа. І гэта нядзіўна: яшчэ ніводнаму народу не ўдалося — і не ўдасца! — дасягнуць нацыянальнага культурнага росквіту па-за роднай мовай. А ў нас менавіта так і стараюцца развіваць культуру. Нездарма тут у «русского языка» ў дзясяткі разоў мацнейшыя пазіцыі, чым у беларускай мовы. Такое ж паднявольнае, рабска-халуйскае становішча апошняй тлумачыцца яе малапрыкметнай, проста мізэрнай роляю ў афіцыйным жыцці краіны, не выключаючы і сферы адукацыі і выхавання, што выклікана галоўным чынам адпаведнай нацыянальнай палітыкай самой прэзідэнцкай вертыкалі. Некалькі гадоў да яе з'ялення на свет у нас, без перабольшання, меліся сур'ёзныя зрухі ў адраджэнні беларускай мовы, планамерным уключэнні яе ў грамадскі ўжытак. Народ паверыў тагачаснай уладзе і без усялякага прымусу пацягнуўся да роднага слова.

Нам трэба як мага хутчэй у чарговы раз зноў вывесці грамадства на такі ўзровень беларускамоўнай свядомасці, актыўнасці. І на гэты раз першую скрыпку павінна граць сама дзяржава ў асобе Лукашэнкі па волі якога менавіта і сталі з сярэдзіны 1990-х гадоў мэтанакіравана надаваць рускай мове парытэт у абслугоўванні афіцыйнага жыцця.

**Неадарваны ад нацыянальных, бацькоўскіх культурна-моўных традыцый чалавек — гэта самая надзейная апора краіны на выпадак узнікнення рэальнай пагрозы яе суверэнітэту, што сёння з'яўляецца надзвычай актуальным**

Калі нам удасца памяняць тут ролямі беларускую і рускую мовы — а гэта трэба абавязкова здзейсніць! — беларусы тады не стануць ахвярай русіфікацыі, захаваюць сваю так неабходную ім для шчаслівай будучыні нацыянальную ідэнтычнасць.

Шкада, што нават і ў Год культуры мы і кроку не зрабілі ў гэтым вырашальным для тытульнага народа краіны накірунку. Аднак не будзем заганяць сябе ў роспач. Неўзабаве пачнецца новы 2017 год, які будзе праходзіць пад знакам ушанавання 500-годдзя ад часу выдання нашым таленавітым асветнікам, першадрукаром кніг на старабеларускай мове. І як бы пасавала такім агульнанародным урачыстасцям абвяшчэнне 2017 года Годам беларускай нацыянальнай культуры.

# «Новы час» абвяшчае конкурс маладых журналістаў імя Аляксея Караля

**Вы любіце Беларусь, яе гісторыю і культуру, валодаеце беларускай мовай? Вы лічыце, што Беларусь павінна быць вольнай і дэмакратычнай краінай, дзе выконваюцца законы і паважаюцца правы чалавека? Вы ўпэўненыя, што вам ёсць што сказаць людзям? Вы думаеце, што ваша пакліканне — журналістыка? Але вы не ведаеце, з чаго пачаць? «Новы Час» запрашае вас прыняць удзел у конкурсе імя нашага галоўнага рэдактара Аляксея Караля.**




## Хто можа прыняць удзел у конкурсе?

Для таго, каб прыняць удзел у конкурсе, не абавязкова мець журналісцкую адукацыю ці досвед журналісцкай працы. Патрэбныя толькі жаданне пісаць, валоданне словам і цікавая тэма. Ваш узрост — не старэйшы за 30 гадоў.

Калі вы адпавядаеце гэтым крытэрам, чакаем на вашы матэрыялы. Улічыце, калі ласка, што да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца толькі арыгінальныя артыкулы на беларускай мове, якія раней нідзе не публікаваліся. Артыкулы павінны быць праілюстраваныя ўласнымі (вітаецца) ці пазычанымі (з пазначэннем крыніцы) фота.

Калі вы жадаеце падзяліцца аўдыё- ці відэасюжэтам альбо нават уласным дакументальным фільмам, калі ласка, дасылайце вашы мультымедыйныя матэрыялы. Мы будзем рады пазнаёміць з вашай творчасцю шырокую аўдыторыю і даць карысныя парады.

## Конкурсныя працы будуць ацэньвацца ў трох намінацыях:

- найлепшы грамадска-палітычны матэрыял
- найлепшы сацыяльна-эканамічны матэрыял
- найлепшы культурна-гістарычны матэрыял

Матэрыялы прымаюцца да 1 красавіка 2017 года. Вынікі конкурсу будуць падведзены 20 мая 2017 года, а ўзнагароджанне лаўрэатаў адбудзецца 29 мая 2017 года — у Дзень нараджэння Аляксея Караля.

Усе матэрыялы, якія пройдуць папярэдні адбор у рэдакцыі «Новага Часу», будуць размешчаныя ў адмысловым раздзеле конкурсу на нашым сайце novychas.by, а некаторыя з іх будуць надрукаваныя ў газеце «Новы Час» і на галоўнай старонцы сайту (удзел у конкурсе азначае згоду на выкарыстанне твора на сайце novychas.by і/ці ў газеце «Новы Час»).

Трох лаўрэатаў конкурсу імя Аляксея Караля назаве рэдакцыя «Новага Часу». Яшчэ трох пераможцаў вызначаць чытачы «Новага Часу», шляхам галасавання на сайце novychas.by.

**Усе тэкставыя матэрыялы дасылайце ў электронным выглядзе на пошту «Новага Часу» novychas@gmail.com з пазнакай «КОНКУРС»**

Лаўрэатаў конкурсу чакаюць каштоўныя падарункі, неабходныя ў прафесійнай дзейнасці, і прапанова далейшай самарэалізацыі ў дружнай камандзе «Новага Часу».

Для ўдзельнікаў конкурсу будуць арганізаваныя майстар-класы, якія правядуць вядомыя асобы Беларусі, сярод якіх гісторык і публіцыст Ігар Мельнікаў («Захапляльная гісторыя»), паэт, літаратарка і аўтарка Валярына Кустава («Рэаліці-шоў і шчырыя размовы па-беларуску»), праваабаронцы Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч («Нясумныя правы чалавека»); журналіст, намеснік рэдактара «Новага Часу» Сяргей Пульша («Як працаваць з навінамі і аналітыкай»); пісьменніца і аўтарка «Новага Часу» Марыя Мартысевіч («Тэксты пра культуру, якія не пакідаюць чытачоў абыякавымі») і іншыя.

## Патрабаванні да афармлення матэрыялаў

Усе тэкставыя матэрыялы дасылайце ў электронным выглядзе на пошту «Новага Часу» novychas@gmail.com з пазнакай «КОНКУРС». Адзін канкурсант можа дасылаць некалькі матэрыялаў.

Файл з конкурснай працай павінен утрымліваць назву артыкула і прозвішча аўтара.

Памер тэкстаў не павінен перавышаць 6000 знакаў без прабелаў. Памер фота не менш за 800 на 600 і не больш за 2400 на 1800 пікселяў. Фотаздымкі, дасланыя ў якасці ілюстрацыі працы, павінны быць падпісаныя.

Аўдыё і відэаматэрыялы дасылайце ў выглядзе спасылкі на файлы, размешчаныя ў электронным сховішчы (напрыклад, на гугл-дыск).

Таксама канкурсант мусіць напісаць кароткі аповед пра сябе (не больш за 500 знакаў) і даслаць свой фотаздымак.

**Зрабіце свой першы крок у «Новы час». Падзяліцеся талентам! Чакаем на вашы матэрыялы!**

# Кэрал перакуліць ваш свет

**Апошні год багаты на прэзентацыі перакладаў англійскіх пісьменнікаў. За леташнімі «Лістамі Круцяля» на беларускай мове выйшлі «Хронікі Нарніі», а цяпер распачынаецца кампанія, каб выдаць «Скрозь люстэрка і што ўбачыла там Аліса».**

Столькі цікаўнасці да Кэрала паэт, празаік і бард Вера Бурлак тлумачыць так: «Беларусы да яго саспелі. Кэрал з'явіўся ў часы, калі літаратура была вельмі сур'ёзная, уздымала складаныя пытанні, была дыдактычнай і павучальнай. І тады пісьменнікі нонсэнсу пачынаюць перакульваць усё з ног на галаву. Наша культура цяпер таксама сутыкаецца з рознымі выклікамі. І каб трохі перавесці дух, ёй патрэбны нонсэнс».

Вера Бурлак выступіла перакладчыцай кнігі «Скрозь люстэрка і што ўбачыла там Аліса» (літаральны пераклад першапачатковай назвы твора). Яна намагалася максімальна захаваць моўныя, лагічныя і іншыя жарты, якімі так славіцца аўтар.

«Мяне моцна вабяць гульні Кэрала, моўныя, сэнсавыя. Перадаць іх літаральна часта немагчыма. Кожны жарт мае нейкую сярэдзінку, ядро і перыферыю. Я намагалася захаваць гэтае ядро альбо штосьці істотнае з перыферыі. Бо там ідзе гульня з мовай, пераасэнсаванне ўстойлівых моўных зваротаў і сітуацый, да якіх людзі звыклі і не мысляць інакш. Кэрал паказваў, што сама логіка мовы ці выпадкаў паказвае зусім іншы погляд», — падзялілася ўражаннямі Вера.

**Паводле budzma.by**

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня

Всего

Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143, Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. Код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда, (8 029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек**, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 924

Падпісана да друку 23.09.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.